Друкуецца коштам ФУНДАЦЫІ імя ПЁТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА
Costs of printing have been underwritten
by the KRECEUSKI FOUNDATION, Inc.



**A summary in English will be found at the end of each article.**

ADDRESS: ZAPISY
3441 Tibbett Avenue
Bronx, N. Y. 10463 U.S.A.

**Price per copy** — $ 8.00 Цана — 8.00 даляраў

УВАГА: Першыя 6 кніжак ЗАПІСАЎ былі выдадзеныя ў гадох 1952 — 1954 у Ню Ёрку; пяць далейшых у гадох 1962 — 1970 друкаваліся ў Мюнхене, Нямеччына. Ад кнігі 12-ае 1974 г. ЗАПІСЫ друкуюцца ізноў у Ню Ёрку.

NOTE: This volume is a continuation of the ZAPISY series which began its publication in 1952. Volumes 1 — 6 were published in 1952 — 1954 in New York; the following 5 volumes (1-5) were printed 1962 — 1970 in Munich, Germany.
Beginning with vol. 12 (1974) the **Zapisy** are being published in New York, U.S.A.

PRINTED BY:
ST. SOPHIA PRESS OF THE UKRAINIAN ORTHODOX CHURCH OF U. S. A.
166 FIRST AVENUE. NEW YORK. N. Y. 10009

# ГЭТМАН РЫГОР ХАДКЕВІЧ І ЯГОНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

**Вітаўт Тумаш**

Думаў я пра тое, каб для зразуменьня простых людзей перакласьці гэтую кнігу на простую мову, ды й вельмі пра гэта стараўся.

З прадмовы да Евангельля 1569 г.
Гэтман РЫГОР ХАДКЕВІЧ.

Друкарня, якая ў гадох 1568-1570 існавала ў Заблудаве што каля Беластоку, хоць працавала коратка, была вельмі важным этапам для разьвіцьця кірылічнага кнігадруку ў Беларусі ды запачаткаваньня друкарскае справы на Украіне, сваімі-ж далейшымі вынікамі й для гісторыі ўсяго кірылічнага друку. Таму справа важная раскрыць матывы паўстаньня ды абставіны дзейнасьці заблудаўскага выдавецтва.

Дзеля слабога ўсё яшчэ вывучэньня і датычных да пытаньня архіўных матар'ялаў і самых заблудаўскіх выданьняў, у навуковай літаратуры часта ствараецца ўражаньне, быццам выдавецтва ў Заблудаве паўстала прыпадкам у выніку ўцёкаў з Масквы Івана Федаровіча ды Пётры Мсьціслаўца. Тымчасам, на падставе ведамых цяпер архіўных дадзеных сказаць можна напэўна, што заснаванае пры канцы 1560-х гадоў кнігавыдавецтва ў Заблудаве было ня справаю капрызу гісторыі ці адно прыпадку. Паўстала яно як прадпрыемства даўно надуманае ды падрыхтоўванае.

Выдавецтва ў Заблудаве выконвала канкрэтны, гісторыяй дадзены, заказ і было яно ня зьяваю прыпадковаю, але заканамернаю. Спарадзіла яго пякучая патрэба рэлігійных кнігаў для праваслаўных жыхароў краю дзеля шырака ведзенае тады ў Вялікім Княстве Літоўскім рэлігійнае прапаганды рэфармацыйнага кірунку, якая гэтым якраз часам дасягнула сваіх узвышшаў ды стала вялікаю загрозай для праваслаўя Беларусі.

Вось дзеля гэтага пра друкаваньне праваслаўных кнігаў для свайго народу ды — за прыкладам доктара Скарыны — і моваю гэтага народу, шчыра рупіўся веры праваслаўнай верны Рыгор Хадкевіч. Захады над наладжаньнем справы

друку чыніў ён ужо гадоў колькі перад гэтым, як дзеля праследаў у Маскве шукаць сабе прытулку на землях Беларусі наважылі два маскоўскія друкары.

Шмат якія аўтары, што пісалі пра друкарню й выдавецтва ў Заблудаве, разглядалі дзейнасьць толькі тэхнічных творцаў друкарні, толькі працу майстроў-друкароў, ды пры гэтым увагу яны зьвярталі блізу вылучна на аднаго з двух — на Івана Федаровіча Масквіціна. Мала месца адводзілася, як правіла, ідэйнаму ініцыятару й гаспадару выдавецтва й друкарні, выдаўцу й галоўнаму рэдактару выдадзеных у Заблудаве кнігаў ды аўтару напісаных да іх прадмоваў, Рыгору Хадкевічу.

У гэтым нарысе пра заблудаўскае кнігавыдавецтва зьвернутая большая, як звычайна гэта робіцца, увага на самога якраз ідэйнага творцу яскравага эпізоду гісторыі беларускага кнігадруку — на старасту горадзенскага й магілеўскага, каштэляна віленскага ды гэтмана найвышшага Вялікага Княства Літоўскага, на выдатнага ваеннага й дзяржаўнага мужа Рыгора Хадкевіча.

## Найвышшы гэтман Вялікага Княства

Хадкевічы, зь якіх паходзіў гэтман Хадкевіч Рыгор, ведамыя былі ад пачаткаў XV стагодзьдзя як выдатны праваслаўны баярскі род Вялікага Княства Літоўскага. Прозьвішча „Хадкевіч" пайшло ад згадванага ў актах ад 1430-х гадоў баярына Ходзькі Юравіча,[1] прадзеда Хадкевіча Рыгора.

Рыгор Хадкевіч быў сынам ваяводы наваградзкага й вялікага гэтмана літоўскага Хадкевіча Александры. Пра гады маленства й юнацтва ды аб тым, калі, дзе й якую адукацыю атрымаў малады Хадкевіч, ведамак няма. Ды меў ён напэўна асьвету вышэйшую. Ужо ад XV стагодзьдзя ў звычаі магнатаў Беларусі было пасылаць сыноў на ўнівэрсытэты. У паэме гісторыка Вялікага Княства Літоўскага Мацея Стрыйкоўскага, якая была прысьвечаная памяці Рыгора Хадкевіча, кажацца, што бітвы з татарамі былі яму „Падуяй", баі-ж з Масквою — „Банонiяй" (Балёнiяй). З гэтага вынікае, што пабываць на гэтых двух слаўных тады ўнівэрсытэтах Італіі Рыгору Хадкевічу не давялося.

Сваю родную мову, мову беларускую, Рыгор Хадкевіч добра знаў і ёю шырака карыстаўся пры ліставаньні ў прыватных і дзяржаўных справах. Наколькі мову свайго народу Рыгор Хадкевіч паважаў і цаніў, відаць зь ягоных словаў у прадмове да надрукаванага ў 1569 годзе ў Заблудаве Евангельля, дзе ён кажа, што „вельмі стараўся" пра тое, каб „перакласьці гэтую кнігу на простую мову". Ведаў таксама до-

бра Рыгор Хадкевіч і мову царкоўнаславянскую. Ягоныя прадмовы да выдадзеных у Заблудаве кнігаў сьветчаць ня толькі пра высокі культурна-інтэлектуальны ўзровень аўтара, але й пра бясспрэчныя літаратурныя здольнасьці.

Рыгор Хадкевіч быў дзяржаўным і грамадзкім дзеячом шырокіх зацікаўленьняў і інтэлектуальных кругаглядаў. У блізкой зь ім сувязі былі гэткія выдатныя гуманістычна настроеныя культурныя дзеячы, як успомнены вышэй Мацей Стрыйкоўскі ды адзін з рэдактароў Літоўскага Статуту 1566 году, доктар права, Аўгустын Ротундус Мілеўскі. Блізкім Рыгору Хадкевічу быў і другі выдатны гісторык Літвы, італьянец Аляксандра Гваніні. У сваёй кнізе 1578 году Sarmatiae Europeae Descriptio, Гваніні надрукаваў палацінску артыкулы Хадкевічавага вайсковага статуту Вялікага Княства Літоўскага.

Пры Рыгору Хадкевічу доўгі час жыў, як узгадаваўца ягоных дзяцей, высокаадукаваны паэта родам зь Вільні, кальвініст па веры, Ян Радван Ліцьвін. Калі сыны Рыгора Хадкевіча падрасьлі, Ян Радван выяжджаў зь імі для ўнівэрсытэцкае іх навукі за межы. Калі-ж пазьней Хадкевіч быў назначаны каштэлянам сталічнае Вільні, Ян Радван стаў ягоным сакратаром. Свае вершы ды паэмы Ян Радван пісаў палацінску. Зь ягоных твораў захаваліся: Radviliada, паэма прысьвечаная князю Мікалаю Радзівілу Рыжаму, вясельная песьня Epithalamium ды сатырычная паэма Theses Theologicae.

Дзякуючы сваім здольнасьцям, адукацыі ды сацыяльнай пазыцыі магната Рыгор Хадкевіч займаў высокія й адказныя становішчы. Ягоныя ўплывы на палітычна-дзяржаўныя справы Вялікага Княства хутка расьлі, асабліва пасьля сьмерці ў 1549 годзе ягонага бацькі. У годзе 1554 яму было дадзенае становішча ваяводы віцебскага, а праз год і кіеўскага. Чатыры гады пазьней кароль Жыгімонт Аўгуст, як вялікі князь літоўскі, назначыў Хадкевіча гараднічым (каштэлянам) троцкім, зазначаючы пры гэтым, што дае гэтае становішча яму знарок, каб мець яго блізка сталічнае Вільні й сябе „для рады ў патрэбе й дапамогі".

Пара тады была вельмі цяжкая для Вялікага Княства Літоўскага. Увесь час ішлі крывавыя войны з Маскоўшчынай дзеля агрэсыўных плянаў Івана Грознага з мэтаю падбіць землі беларускага Падзьвіньня ды Лівоніі ды захапіць важны камунікацыйна-гандлёвы водны шлях — Дзьвіну. Ад паўдня частымі рабаўнічымі наскокамі дакучалі нясупынна татары. На захадзе-ж Польшча, карыстаючы зь цяжкога палажэньня Княства, усё больш настойліва дамагалася цясьнейшае дзяржаўнае вуніі з мэтаю „інкарпараваць" Вялікае Княства ў польскае каралеўства ды ад сябе ўзалежніць.

Нечаканым зімовым паходам Іван Грозны ў студзені

1563 году аступае зь вялізарным войскам, а 15 лютага й здабывае Полацак. Гінуць пры гэтым тысячы жыхароў места. Каля дзесяцёх тысячаў тых палачанаў, што ўцалелі, Іван Грозны пагнаў у Маскоўшчыну, як ваенную здабычу. У ліку палонных былі й полацкі Архіяпіскап Арсені ды ваявода Давойна. Багацьці места, яго старавечных цэркваў ды манастыроў, былі разграбленыя ды вывезеныя ў Маскоўшчыну. Разграбленыя й зьнішчаныя былі тады й багатыя полацкія кнігасховы. Ці не тады гэта пагінулі й старыя полацкія летапісы.

Праз год, 26 студзеня 1564 году, у крывавай біцьве непадалёк ад Полацку, над рэчкай Улой, на Друцкіх Палёх, што пазьней былі празваныя палямі „Іванаўскімі", гэтман Хадкевіч нішчыць колькідзесяттысячную маскоўскую армію пад камандай князя Шуйскага. Ад сякеры з рук беларускага селяніна зьгінуў тады ў часе ўцёкаў з бою й сам князь Шуйскі. За бліскучую перамогу Жыгімонт Аўгуст назначае Рыгора Хадкевіча каштэлянам сталічнае Вільні, а ў 1566 годзе й найвышшым, „вялікім", гэтманам літоўскім.

Як гэтман вялікі, Рыгор Хадкевіч шмат зрабіў для арганізацыі абароны й паўдзённа-ўсходніх межаў Вялікага Княства. Ён рупіўся пра разбудову ды ўмацаваньне памежных замкаў ды пра належнае забясьпечаньне іх ды іхных гарнізонаў. Заводзіў ён таксама лад у хаатычнай сыстэме вайсковых павіннасьцяў Вялікага Княства. Для гэтага ў 1562 годзе Хадкевіч уклаў вайсковыя „артыкулы" — першы вайсковы рэгулямін Вялікага Княства Літоўскага, які пазьней перадрукаваў у сваёй кнізе 1576 году Гваніні.[2]

Ды дбаў Рыгор Хадкевіч ня толькі пра справы вайсковыя й абарону дзяржавы. Рупіўся ён і пра рэлігійна-асьветныя патрэбы сваіх суродзічаў. Ужо бацька Рыгора Хадкевіча, гэтман Хадкевіч Аляксандра (1457?-1549), адзначыўся ня толькі як выдатны дзяржаўны муж, але й як шчодры апякун праваслаўя. У 1498 годзе каля Беластоку ў Супрасьлі ён заснаваў манастыр, што з часам стаў выдатным рэлігійна-культурным асяродкам Беларусі з багатым зборам старых памятак пісьменства. У манастырскай бібліятэцы перахоўваліся пазьней беларускія летапісы ды вельмі старыя славянскія рукапісныя кнігі, у тым ліку й шырака ў навуковай літаратуры ведамыя „супрасьльскія рукапісы". У супрасьльскай царкве Благавешчаньня Аляксандра Хадкевіч быў і пахаваны. У 1557 годзе на адной з сьценаў царквы быў намаляваны й фрэскавы партрэт гэтмана, як фундатара.[3] Тады-ж, коштам Рыгора Хадкевіча ды захадамі ягонымі й архімандрыта манастыра Сяргея Кімбара, фрэскавымі малюнкамі былі багата аздобленыя сьцены царквы. Маляваў іх і партрэт гэтмана, як напісана ў Супрасьльскім летапісе, „сэрбін Нэктары, маляр".

Калі ў пару масавага пераходу беларускае праваслаўнае шляхты й магнатаў на кальвінізм Рыгор Хадкевіч застаўся верным аж да сьмерці веры сваіх бацькоў, заслуга напэўна была ў гэтым ягонае маткі Васілісы й вынік ейнага руплівага рэлігійнага ўзгадаваньня. Была яна дачкой князя пінскага Хведара Івановіча Яраславіча. У родзе-ж князёў Яраславічаў з асаблівай пашанаю перахоўваліся старыя праваслаўныя традыцыі.

Захавалася каштоўная памятка мастацтва канца XV ст., выразаны на пальмовай дошцы з даручэньня князя Хведара Яраславіча абраз на тэму Салямонавых прыказяў „Премудрость созда собе дом". Напіс на абразе падае, што выканаў яго „Поп Ананія". Асаблівасьці беларускае мовы ў царкоўнаславянскіх напісах на абразе — ужываньне ўсюды „е" заміж „ѣ", ды іншыя — сьветчаць, што мастак Ананія быў беларускага роду.[4]

Сваю дачку Соньку Рыгор Хадкевіч выдаў за выдатнага дзеяча Вялікага Княства Філона Кміту Чарнабыльскага, старасту аршанскага, пазьнейшага сэнатара смаленскага, аўтара ведамых у гісторыі беларускае літаратуры „Лістоў". У блізкіх дачыненьнях Хадкевіч быў і зь іншымі выдатнымі дзеячамі праваслаўнае веры свае пары, хоць некаторыя зь іх, як Астап Валовіч, пазьнейшы канцлер Вялікага Княства Літоўскага, папераходзілі на кальвінізм.

За прыкладам свайго бацькі й Хадкевіч Рыгор рупіўся заўсёды пра рэлігійныя й асьветныя патрэбы сваіх суродзічаў ды ў першую чаргу сваіх падданых. У родавым мястэчку Хадкевічаў, у Заблудаве (каля 20 км. на паўдзённы ўсход ад Беластоку), „за волю Бога Міласьцівага, а ку размнажэньню хвалы яго сьвятое", Рыгор Хадкевіч збудаваў царкву Ўсьпеньня Багародзіцы й цудатворцы Міколы.

7 чырвеня 1563 году фундушовым запісам Рыгор Хадкевіч устанавіў спосаб матар'яльнага забясьпечаньня заснаванага ім у Заблудаве пры царкве шпіталя, сьвятароў царквы, сьвятара каталіцкага касьцёлу, а таксама настаўнікаў пры царкве й пры касьцеле. На ўтрыманьне для сьвятара царквы гэтман прызначыў дзьве валокі сенажаці, а для дыякана адну. Дзьве валокі прыдзяляліся й для пробашча заблудаўскага касьцёлу. Пры царкве гэтман даў пляц на пабудову дому для сьвятара. Пляцам пад плябанію надзяліў ён і сьвятара каталіцкага.

Пастаўленыя для шпіталя заданьні Хадкевіч у сваім лісьце азначыў гэтак: „Людей убогих до того шпиталю мают приймовати, так закону грэцкого, яко и римского, однож старых, недужых, хворых, немочных, хромых, невидущих, которые вже до роботы негодилися". На патрэбы шпіталя гэтман прызначыў з свайго заблудаўскага двара „дзесяціну" — жыта кажны год бочак 60, ячмэню 15, гароху 6, грэчкі 20.

У гэтым самым запісе Хадкевіч загадваў, каб зь дзесяціны ,якую мелі даваць сяляне ды заблудаўскія мяшчане, па 50 копаў жыта й ячменю што год выдзялялася для праваслаўнага сьвятара й дыякана ды столькі-ж для каталіцкага пробашча. Апрача гэтага, па 25 копаў жыта ды столькі-ж ячменю зь дзесяціны меў даставаць што год „чалавек граматы ўмелы", настаўнік школы пры царкве, і гэтулькі-ж настаўнік пры каталіцкім касьцеле, каб вучылі дзяцей.

Хадкевіч загадваў таксама, каб заблудаўцы што год складалі „з дому з пляцу зупольнага" па 4 грошы „каляды". Дзяліць яе трэба было пароўну праваслаўнаму сьвятару, дыякану ды каталіцкаму пробашчу. З свайго боку ён звальняў сьвятароў ад арэнднае ды і ўсякае іншае платы за перададзеныя ім у карыстаньне валокі, каб яны толькі пільна дбалі пра службу Богу ды ня дзерлі з сваіх парахвіянаў за царкоўныя паслугі. А каб да гэтага і не даходзіла, Хадкевіч устанавіў і вышыню платы за царкоўныя ды касьцельныя трэбы, зазначаючы пры гэтым, каб бедныя абслужваліся дарма ды каб сьвятары „пры пахаваньні цела зьмерлых" больш не таргаваліся, як здаралася дагэтуль.[5]

Фундушовая грамата паказвае нам гэтмана Хадкевіча, як магната, што шчыра дбаў пра рэлігійныя й асьветныя патрэбы сваіх падданых. Яна сьветчыць адначасна пра своеасаблівую талеранцыйнасьць у справах веры на землях тагачаснае Беларусі. Сам праваслаўны, Рыгор Хадкевіч быў аднолькава рупным пра справы асьветныя й рэлігійныя і праваслаўных, і каталікоў. Дык быў ён у ліку тых грамадзка-палітычных дзеячоў Вялікага Княства Літоўскага, якія, паводле трапнага азначэньня Л. А. Юзэфовіча, „у палавіне XVI стагодзьдзя стварылі ў Ліцьве ўнікальную для Эўропы таго часу атмасфэру шырокае рэлігійнае талеранцыйнасьці і адначасна самі былі яе спараджэньнем".[6]

Дбаў гэтман і пра заснаваны ягоным бацькам Супрасьльскі манастыр. У 1568 годзе, калі пасьля сьмерці архімандрыта Сяргея Кімбара ў манастыры паслабела дысцыпліна, Рыгор Хадкевіч, як апякун манастыра, параіўшыся з архімандрытам новым, Ціханам, і братамі інокамі, устанавіў новы строгі „завет" — уставу манастырскага жыцьця.[7]

У 1560-х гадох магнаты Польшчы, карыстаючы зь цяжкога мілітарнага палажэньня Вялікага Княства Літоўскага дзеля нясупынных войнаў з Масквою, усё вастрэй ставілі дамаганьне такой вуніі дзьвюх дзяржаваў, пры якой Літва была-б падпарадкаваная Польшчы. Рыгор Хадкевіч, як і ўсе магнаты Вялікага Княства, быў станоўкім супраціўнікам гэткае вуніі. Польшча пагрозаю вайны ды захопам ад Вялікага Княства земляў Украіны ды Падляшша, вунію аднакжа накінула й 1 ліпеня 1569 году ў Люблiне яна была падпісаная.

У часе падпісваньня вуніі Рыгор Хадкевіч быў чалавекам ужо старым, а да гэтага й хворым. Няўдача з вуніяй хіба-ж прыбіла яго й духова. У 1569 годзе ён зрокся ўсіх дзяржаўных становішчаў. Тры-ж гады пазьней, 12 лістапада 1572 году, Рыгор Хадкевіч памёр. Пахаваны ён быў, як і ягоны бацька, у Супрасьльскім манастыры. Гэтманская булава Рыгора Хадкевіча, як і булава бацькі Аляксандры, была складзеная, на памяць нашчадкам, у скарбніцу Супрасьльскага манастыра. У Супрасьльскім манастыры была пазьней пахаваная й жонка Рыгора Хадкевіча Кацярына, з князёўскага роду Вішнявецкіх. На пліце ейнае грабніцы яшчэ ў XIX ст. можна было прачытаць пісаную пабеларуску эпітафію.[8]

Колькі меў гадоў Рыгор Хадкевіч у часе свае сьмерці, ня ведама, бо год ягонага нараджэньня не ўстаноўлены. Некаторыя аўтары ўважалі, што нарадзіўся ён каля 1505 году. Гэтаму аднак-жа пярэчаць словы Івана Федаровіча Масквіцна ў паслоўі да львоўскага 1574 году Апостала. Там кажацца, што перад сьмерцяй у 1572 годзе Хадкевіч быў ужо „ў глыбокай старасьці", ды што дакучаў яму боль галавы. Няпраўдападобна, каб век шэсьдзесяцёх колькіх гадоў Іван Федаровіч уважаў за „глыбокую старасьць". З словаў Івана Федаровіча трэба хутчэй меркаваць, што Рыгор Хадкевіч нарадзіўся нейдзе пры канцы XV стагодзьдзя.

Інфармацыю Івана Федаровіча пра „глыбокую старасьць" гэтмана пацьвярджае й тое, што 2-3 гады па сьмерці бацькі памерлі й два ягоныя сыны — падстолі Вялікага Княства Хадкевіч Андрэй ды стараста горадзенскі й магілеўскі Хадкевіч Аляксандра. Пры канцы паслоўя да львоўскага Апостала, які з друку выйшаў 15 лютага 1574 году, Іван Федаровіч успамінае абодвух сыноў гэтмана як „вінаватых" за выхад кнігі, значыцца тых, што фінансавалі выданьне. Два-ж ня цэлыя гады пазьней, 15 сьнежаня 1575 году, маці іхная Кацярына Хадкевічыха паклала ў царкве Супрасьльскага манастыра львоўскі 1574 году Апостал, заблудаўскае 1569 году Евангельле ды 1570 году Псалтыр з напісамі, што дорыць кнігі царкве ў памяць па нябошчыку мужу сваім і „по небожчику сыну своем . . . Андрею . . . и по сыну своем небошчику . . . Александру".[9]

Пытаньне веку Рыгора Хадкевіча ў часе ягонае сьмерці мае сваё значаньне ў гісторыі беларускага друку дзеля таго, што некаторыя аўтары выяўляюць тэндэнцыю ня верыць словам Івана Федаровіча пра хваробу й „глыбокую старасьць" гэтмана перад ягонай сьмерцяй і спыненьне Хадкевічам выдавецтва ў Заблудаве намагаюцца паясьняць палітычнымі, а навет і карысьлівымі „эканамічнымі" меркаваньнямі.[10]

Пасьля сьмерці Рыгора Хадкевіча ягоныя вялікія заслугі

для абароны Вялікага Княства Літоўскага і ўсе ягоныя пераможныя бітвы пералічыў, гэтмана-ж як выдатнага ваеннага мужа апяяў ды ўславіў паэта гісторык Мацей Стрыйкоўскі напісанай папольску паэмай-эпітафіяй. Паэма была надрукаваная ў 1574 годзе.[11] З 116 радкоў гэтага твору тут прыводзіцца ў перакладзе аўтара гэтага нарысу радкоў 28.

### НАПІС НА ГРАБНІЦЫ РЫГОРА ХАДКЕВІЧА

**Найвышшага Гэтмана Вялікага Княства Літоўскага** *

**Мацей Стрыйкоўскі**

Ён тут ляжыць, праслаўны Хадкевіч Рыгоры,
Адвагаю сваёй што быў для ўсіх узорам.
Сьцярог заўсёды зырка замкаў, межаў краю,
Як леў іх бараніў, біў ворага бяз жалю.

Сек на Дзікіх Палёх валахаў і татараў,
Гнаў у сьцяпы назад рабаўнікоў крывавых.
Бязь літасьці й Маскву пад знакам біў Пагоні, —
Падольле Падуяй яму было, Масква-ж — Бононай.

Пад неба вырасьлі маскоўскіх трупаў горы,
Як з Шуйскім трыццаць тысячаў лягло на Друцкім Полі.
Узьняў на духу ўсіх ударам першым сьмелым
Ды ў славе перамогі з бою выняў цэлых.

Наклаў шмат тысячаў зь Сярэбраным ля Сушы
Ды мала менш з Шчарбатым адраклося душаў.
Калі адвагай роўным з Рыму стаў сынамі —
Заслужана і Pater Patrie названы.

Ня дбаў ніколі пра дабро сваё і справы,
Калі ў патрэбе бацькаўшчына яго звала.
Зь ліхіх нагодаў ратаваў і скарбамі, і радай,
Ад ворага-ж на полі бітваў і сваёй адвагай.

Сьмерць з зайздрасьці яго ад нас сабе забрала,
Нашчадкам засталася-ж памяць — яго слава!
Яе ні сьмерць ліхая не сатрэ, ня зьнішча,
Ні час зайздросны чарадою зьмен ня сьпіша.

Хоць моц ягоная зьлягла тут, хоць кап'ё зламана,
Хоць зброя заржавела й шабля хоць схавана,
Хоць перад булавою вораг ня дрыжыць крывавы,
Ды вечнай застанецца перамогаў слава!

---

* Napis na grobie ... GREHORA CHODKIEWICA ... Najwyższego Hetmana Wielkiego Księstwa Litewskiego, etc, etc ... przez Matysa Strykowim, 1574.

## У пошуках рукапісных тэкстаў

Рупіўся гэтман Рыгор Хадкевіч пра рэлігійна-асьветныя патрэбы ня толькі сваіх заблудаўцаў. Быў ён мужам шырокіх кругаглядаў ды дбаў пра тое, каб у рэлігійна-асьветнай галіне дапамагчы ўсім сваім суродзічам і ўсім сваім аднаверцам Вялікага Княства Літоўскага. Захавалася колькі дакумэнтаваных ведамак аб тым, што думка пра патрэбу праваслаўных друкаваных кнігаў непакоіла й Хадкевіча і некаторых іншых дзеячоў Вялікага Княства гадоў дзесяць перад тым, як гэтман заснаваў у Заблудаве сваё выдавецтва.

Найхутчэй зь ініцыятывы якраз Хадкевіча ўжо ў 1560 годзе, у часе дыпляматычнае місіі ў Маскве, пасланец Вялікага Княства Літоўскага Міхал Гарабурда рабіў спробы раздабыць рукапісныя тэксты рэлігійных кнігаў. Хацеў ён купіць у маскоўскага дзяка І. М. Віскаватага „Евангельскіе беседы”. У гэтым самым годзе іншы пасланец Літвы, А. Станіслававіч, перадаў Віскаватаму просьбу Астапа Валовіча, пісара найвышшага Вялікага Княства Літоўскага, каб прыслаў яму копію тых-жа „Евангельскіх бяседаў”. Усе гэтыя захады засталіся аднак-жа бяз вынікаў.

Праз год, 6 ліпеня 1561 году, для пошукаў рукапісаў патрэбных для выданьня друкам кнігаў, зь Вільні да Масквы быў адмыслова высланы манах Ісая. Як сам Ісая пасьля выясьняў, да Масквы ён ехаў з даручэньня літоўскага мітрапаліта Сыльвэстра, гаспадарскага пісара Астапа Валовіча, віленскага каштэляна Рыгора Хадкевіча, ды іншых „добрых людзей” Літвы. Выстараліся яны для Ісаі ў караля й вялікага князя Жыгімонта Аўгуста й адмысловую для гэтага рэкамэндацыйна-ахоўную дарожную грамату.

З названых манахам Ісаем двух беларускіх магнатаў і дзяржаўных мужоў — Астапа Валовіча ды Рыгора Хадкевіча — ініцыятыва місіі для росшуку праваслаўных кнігаў у Маскве выйшла напэўна ад Хадкевіча. Астап Валовіч ад гадоў колькіх быў ужо веры кальвінскае й браў актыўны ўдзел у прапагандзе кальвінізму. Праваслаўныя кнігі яго тады хіба ўжо мала цікавілі. Ад яго, як дзяржаўнага пісара, залежала аднак-жа выстаўленьне для Ісаі патрэбнае для выезду у Маскву каралеўскае дарожнае граматы. Вось гэта дало Ісаі падставу паклікацца пасьля, для наданьня большае важнасьці сабе й сваёй місіі, і на Астапа Валовіча, як на аднаго зь ініцыятараў свайго падарожжа ў Маскоўшчыну. Роля Валовіча ў місіі Ісаі тымчасам абмяжоўвалася бадай толькі афармленьнем патрэбных для падарожжа афіцыйных граматаў, якія спаўнялі тады функцыю сучасных замежных пашпартоў.

Усьведамляючы кальвінскую рэлігійную прыналежнасьць Валовіча даводзіцца дапускаць, што й за папярэднімі

пошукамі праваслаўных кнігаў у Маскве А. Станіслававіча, а таксама й Гарабурды, за Астапам Валовічам стаяў тойсамы верны праваслаўнай веры Рыгор Хадкевіч. Пацьвярджае гэта тое, што не Валовіч, а якраз Хадкевіч пазьней сваімі захадамі й коштам наладзіў выдавецтва праваслаўных кнігаў. Калі пры пошуках праваслаўных кнігаў Хадкевіч дзеіў праз кальвіністага Валовіча, дык не адно таму, што Валовіч, як дзяржаўны пісар, мусіў афармляць выезды да Масквы. Актыўна ўвязанаму ў змаганьні з войскамі Івана Грознага за Лівонію Хадкевічу было й шмат зручней дзеіць у Маскве праз афіцыйнага пісара дзяржавы, а не ад імя свайго. Толькі гэтак ён мог спадзявацца дастаць дазвол цара на перасланьне ў Літву тэкстаў вельмі яму патрэбных кнігаў.

Немагчыма згадзіцца з паглядам у гэтым пытаньні Л. А. Юзэфовіча, які кажа: „Натуральна дапускаць, што Валовіч браў большы ўдзел у наладжаньні паездкі Ісаі, як Рыгор Хадкевіч, дзеяч пераважна ваенны". Паводле Юзэфовіча Валовіч, кальвіністы па веры, місіяй Ісаі хацеў быццам здабыць сабе прыхільнасьць цара: „Валовіч гэткім спосабам меў намер яшчэ раз прадэманстраваць цару ня толькі сваю вернасьць праваслаўю (што памагло-б яму ў дасягненьні ягоных палітычных мэтаў), але й непарушнасьці праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім".[12]

На беспадстаўнасьць гэткага дапушчэньня паказвае тое, што якраз у тымсамым 1561 годзе коштам Астапа Валовіча ды іншых, друкаваліся ў Нясьвіжы, для прапаганды кальвінізму сярод праваслаўных, напісаныя пабеларуску кнігі Сымона Буднага.

Ведама, што апрача кнігаў іншых, Ісая ў Маскве намагаўся раздабыць і Біблію „на спис слово в слово", каб пасьля яе „в нашем государстве христіанском руском Великом княжесте Литовском выдати тисненіем печатным нашему народу христіанскому рускому литовскому, да и русскому московскому, да и повсюду всем православным христіаном, иже в Болгарех, и в Сербех, в Мильтенех и Волосех".[13]

З гэтых словаў Ісаі відаць, што Рыгор Хадкевіч, разам зь іншымі „добрымі людзьмі" Літвы ды літоўскім мітрапалітам, ужо у 1561 годзе быў наважаны раздабыць копію царкоўнаславянскага тэксту ўсяе Бібліі, каб яе надрукаваць. Важна зьвярнуць тут увагу на тое, што, як з прадмовы Хадкевіча да выдадзенага ім сем гадоў пазьней у Заблудаве Евангельля ведаем, выдаваць кнігі ён хацеў у перакладзе на „простую молву", значыцца не пацаркоўнаславянску, але пабеларуску. Для перакладу прызначалася, відавочна, найперш Біблія, як кніга хоць і рэлігійная, але ў пераважаючай частцы не літургічная.

Шукаць тэкст Бібліі за межамі Вялікага Княства даводзілася таму, што выдадзеная гадоў сорак перад гэтым док-

тарам Скарынам Біблія была некамплетная. Скарына змог надрукаваць толькі каля палавіны ўсіх біблійных кнігаў. Дык, каб выдаць поўны тэкст, трэ было ці дапоўніць Біблію Скарыны перакладам тых кнігаў, якіх у ягоным выданьні ня было, ці перакласьці ўсю Біблію нанава.

У Вільні, відавочна, было ведама, што ў крамлёўскіх кнігасховах тады перахоўваўся царкоўнаславянскі тэкст камплетнае Бібліі. Гэта была копія тае Бібліі, якую пры канцы XV стагодзьдзя ў Вялікім Ноўгарадзе пры дапамозе нямецкіх манахаў перакладам з лацінскае мовы скамплетаваў япіскап Генадзі. Вось раздабыць у Маскве копію Генадзіевай Бібліі, выглядае, і было галоўным заданьнем манаха Ісаі. Патрэбныя кнігі Ісая меркаваў у Маскве ня купляць, як Гарабурда, але перапісаць сабе „слово в слово". Для гэтага ехаў зь ім разам „хлопец, иже бе много учен грамматики и философии".

Ды спроба дастаць у Маскве тэксты кнігаў для іх друку ў Ліцьве й гэтым разам не ўдалася, а для Ісаі падарожжа скончылася й вельмі нешчасьліва. У Маскве ён ублытаўся ў спрэчкі ды інтрыгі з грэцкім яўгрыпскім мітрапалітам Ёасафам, які разам з Ісаем ехаў зь Вільні да Масквы. У выніку Ісая быў зьвінавачаны ў „лацінскіх ерасях" ды сасланы на манастырскае зьняволеньне, спачатку да Волагды, пасьля-ж да Растова. Як ён сам пасьля пісаў, яго „як зладзея й разбойніка" кінулі ў „юзы и темницы".

*Ісая разоў колькі слаў Івану Грознаму скаргі на свае* крыўды й несправядлівае трактаваньне ў Маскоўшчыне ды маліў зьлітвацца й адпусьціць „во свояси, в Литву", „ в наше преславнейшее и превысочайшее государство Литовское". Ісая паясьняў, што да Масквы прыехаў ён „не веры искати, не о вере беседовати, не под началом быти, а ни к чернцу в монастырь, но . . . с добром по добро . . . на малое время и на малые часы, а не на житие".

Як з скаргаў Ісаі да Грознага відаць, ён уважаў, што церпіць несправядліва толькі таму, што мітрапаліт Ёасаф, якога Ісая называе у лістох „несмысленым старцем и блекотливой бабой", яго перад царом „бездоводно, неподобными словы своими оболгал". У поўных крыўды ды горкага жалю словах Ісая наракаў, што „сія темница в земли Московской тесна, темна и уныния исполнена", і даводзіў, што ён нічым не вінаваты — „не найдох в чем бых пред ким сгрешил, или кому чим повинен в чужей и незнаеме земли".[14]

Не зважаючы на ўсе лісты й просьбы, толькі аж праз дваццаць і адзін год састарэламу ўжо ў зьняволеньні Ісаі было дазволена ехаць з Растова да Масквы прасіць цара, каб адпусьціў яго ў Літву. Ды й гэтым разам паехаць „во свояси, в Литву" Ісаі не ўдалося і „ў чужой і незнаёмай зямлі" ён і памёр.

Настойлівыя пошукі тэкстаў рукапісных кнігаў у Маскве, каб іх пасьля „в нашем государстве христіанском руском Великом Княжестве Литовском выдать тисненіем печатным", калі й кончыліся Хадкевічу ды й іншым праваслаўным мужом Літвы няўдачаю, ды ў Маскве напэўна іх уважна сачылі, яны рабілі там сваё ўражаньне на колы царкоўныя й на прыбліжаных цара. Прысланьне мітрапалітам літоўскім ды гэткімі выдатнымі мужамі, як пісар Вялікага Княства Літоўскага Валовіч ды гэтман Хадкевіч, адмысловага пасланца па тэксты патрэбных для перадруку кнігаў, было напэўна тым моцным штуршком, які прыгадваў маскоўскім дзеячом патрэбу наладжаньня друкарскае справы ў Маскве ды істотна прысьпешыў час заснаваньня там друкарні.

Дык прыезды да Масквы Гарабурды, Станіслававіча, Ісаі, іхныя пошукі тэкстаў кнігаў для друку ў Ліцьце ды хуткае пасьля гэтага наладжаньне ў Маскве друкарні, — падзеі блізкія ў часе напэўна не прыпадкова. Між імі існуе бясспрэчна й прычыновая сузалежнасьць. Даводзіць гэта й тое, што якраз тады ў Маскве пачаліся энэргічныя захады над заснаваньнем друкарні. Коштам царскае казны яна хутка была падрыхтаваная. 19 красавіка 1563 году Іван Фёдараў ды Пётра Мсьціславец пачалі ў ёй набор ды друк першае кнігі — Апостала.

На заснаваньне гэтым якраз часам друкарні ў Маскве мела ўплыў і тое, што ў Маскоўшчыне тады востра адчувалася патрэба вялікага ліку царкоўных кнігаў у сувязі з новымі тэрытар'яльнымі падбоямі ды каляніяльнай на іх палітыкай Грознага.[15] Русыфікацыя новападбітых земляў праводзілася тады галоўна шляхам будаваньня на іх цэркваў ды навязваньня жыхарству „рускае" праваслаўнае веры. Для новых-жа цэркваў былі патрэбныя кнігі.

Вось дзеля гэтага выдаткаў на наладжаньне друкарні Іван Грозны не шкадаваў: „повеле оустроити дом от своея царское казны и де же печатному делу строится, и нещадно даяще от своих царских сокровищ делателем", бо кнігі былі патрэбныя „в новопросвещенном месте во граде Казани и в пределах его". Гэтак мэта заснаваньня ў Маскве друкарні паясьняецца ў пaслоўі да маскоўскага 1564 году Апостала. „В новопросвещенном... граде Казани" тут, ясна, значыць „у нованавернутым на праваслаўную веру".

Бясспрэчным вынікам няўдалае місіі манаха Ісаі было й тое, што ў колах маскоўскіх кніжнікаў было ведама пра захады гэтмана Рыгора Хадкевіча над заснаваньнем у Вялікім Княстве Літоўскім выдавецтва праваслаўных кнігаў. Чулі напэўна пра гэта й Іван Фёдараў ды Пётра Мсьціславец. Дзеля гэтага, калі колькі гадоў пазьней яны мусілі ўцякаць

з Масквы, яны ведалі, што іхнае друкарскае дазнаньне ў Ліцьве будзе патрэбнае, яны зналі да каго там у першую чаргу зьвярнуцца па апеку й дапамогу.

## Заснаваньне друкарні ў Заблудаве

Каго, якіх друкароў перад прыездам у Літву Івана Федаровіча ды Пётры Мсьціслаўца меў на ўвеце Рыгор Хадкевіч на тэхнічных выканаўцаў свае задумы арганізаваць выдавецтва праваслаўных кнігаў, ня ведама. Але наладзіць друкарню на землях Беларусі было тады шмат лягчэй як у Маскве, бо друкарская справа была тут ведамая ўжо ад часоў доктара Скарыны. У гады Хадкевічавых росшукаў у Маскве тэкстаў праваслаўных кнігаў на беларускіх землях працавалі дзьве друкарні. Заснаваная коштам князя Мікалая Радзівіла Чорнага друкарня пры мяжы з Польшчай, у Берасьці, выдавала папольску кнігі кальвінскага кірунку, галоўна для пашырэньня іх у Польшчы.

У 1563 годзе ў берасьцейскай друкарні была надрукаваная раскошная, вялікім у ліст фарматам, Біблія ў польскім перакладзе. Ведзеная колькі гадоў праца над перакладам Бібліі ды яе друкам напэўна прыгадвалі тым беларускім магнатам, якія заставаліся пры праваслаўнай веры, патрэбу выдаць Біблію — ды й іншыя кнігі — для сваіх суродзічаўаднаверцаў. І гэта хіба была адной з прычынаў настойліва ведзеных праз Гарабурду, манаха Ісаю ды іншых пошукаў у Маскве тэкстаў патрэбных праваслаўных кнігаў, у гэтым ліку й поўнае Бібліі, каб яе „выдаць... нашаму народу хрысьціянскаму".

Да захадаў над наладжаньнем праваслаўнага выдавецтва яшчэ больш падганяла дзейнасьць друкарні другое, друкарні нясьвіскай, галоўным спачатна заданьнем якое было выданьне прапаганднае літаратуры кальвіністаў для праваслаўных ды пабеларуску. Пасьля і ў Нясьвіжы друкаваліся кнігі ў мове польскай. Друкарню ў Нясьвіжы заснаваў нясьвіскі намесьнік князя Мікалая Радзівіла Чорнага Мацей Кавячынскі. Апрача князя Радзівіла, друкарняй і яе выданьнямі апякаваліся й магнаты Валовіч ды Глябовіч. У 1561 годзе з гэтае друкарні выйшлі дзьве кнігі ў беларускай мове: „О оправданіи грешного человека пред Богом" і „Катихисіс", вялікі філязафічна-тэалягічны трактат. Абедзьве кніжкі напісаў Сымон Будны. Рыхтаваліся да друку пабеларуску і кнігі іншыя.

Дык друкарская справа на землях Беларусі мела ўжо сваю традыцыю, былі тут друкарні, былі дазнаныя ў друкарскай справе друкары, былі й патрэбныя друкарскія прылады. Пры патрэбе ня цяжка было-б наладзіць і новую дру-

карню. Ды пытаньне друкароў і друкарні для плянаванага Хадкевічам выдавецтва нечакана знайшло разьвязку з боку зусім неспадзяванага, калі каля 1566 году з Масквы ў Літву ўцяклі Іван Федаровіч ды Пётра Мсьціславец.

У Маскве, у наладжанай на загад ды коштам Івана Грознага друкарні, друкары змаглі выдаць толькі дзьве кнігі. „Апостал", першая датаваная надрукаваная ў Маскве кніга, выйшаў 1 сакавіка 1564 году. Друк кнігі другой, „Часовника", якую друкаром давялося адразу-ж перадрукоўваць, відавочна дзеля заўважаных паважных памылак, быў закончаны ў другім выданьні 29 кастрычніка 1565 году. Хутка пасьля выхаду другога выданьня „Часовника" друкаром прыйшлося з Масквы ўцякаць. У паслоўі да львоўскага Апостала 1574 году за прычыну ўцёкаў Іван Федаровіч падаў напасьці

> от многих начальник, и свещенноначальник, и учитель, которые на нас зависти ради многие ереси умышляли хотячи благое в зло превратити и божие дело в конець погубити.

У гэтым самым паслоўі Іван Масквіцін расказвае, што ў Ліцьве ўцекачоў прынялі вельмі прыхільна:

> Прыняў нас міласьціва багабойны гаспадар Жыгімонт Аўгуст, кароль польскі й вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі, ды іншых, з усімі панамі свае Рады. Тады вяльможны пан Рыгор Хадкевіч, каштэлян віленскі, гэтман найвышшы Вялікага Княства Літоўскага, стараста горадзенскі й магілеўскі, папрасіўшы шчыра гаспадара, узяў нас пад сваю ласкавую апеку й утрымліваў не малы час ды ўсім патрэбным нас забясьпечваў.[16]

Што переезд друкароў зь Вільні да Заблудава й арганізацыя там друкарні былі ініцыятывай гэтмана, падаў гэта сам Хадкевіч у сваёй прадмове да першага заблудаўскага выданьня, да Евангельля, дзе ён кажа:

> к тому же изобретох собе в том деле друкарьском людей наоученых, Ивана Феодоровича Москвитина да Петра Тимофеевича Мстиславца, повелел есми им, оучинивши варстат друкарьский, и выдруковати сію книгу.[17]

Калі наладзіць друкарню й выдавецтва Хадкевіч пастанавіў у далёкім ад большых культурна-эканамічных асяродкаў мястэчку Заблудаве, а не ў сталічнай Вільні, дзе ён, як каштэлян, быў гаспадаром, дык браў ён хіба на ўвагу меркаваньні матар'яльныя. Кошт утрыманьня друкароў і друкарні ў сваіх заблудаўскіх валаданьнях быў гэтману хіба-ж шмат меншы, як у сталічнай Вільні.

Цяпер ведама, што матрыцы шрыфтоў, дрэварытныя клішы заставіцаў, канцовак ды ініцыялаў да Заблудава друкары прывязьлі з сабой з Масквы. Быў, аднак-жа патрэбны час для падрыхтовы шрыфтоў і некаторае друкарскае снасьці ды, галоўна, на зрабленьне „варстату друкарскага", а таксама на прыдбаньне хварбы, паперы ды іншых патрэбных матар'ялаў.

Калі друкары пераехалі да Заблудава й як доўга трывала праца над наладжаньнем друкарні, ня ведама. Ды 3 ліпеня 1568 году ў ёй быў пачаты ўжо набор і друк першае кнігі — „Евангелія оучительного".

## Заблудаўскія выданьні Рыгора Хадкевіча

Зь дзьвёх кнігаў, якія гэтман Хадкевіч надрукаваў у сваёй друкарні і выдаў у Заблудаве, першая, „Евангеліе оучительное", выйшла 17 сакавіка 1569 году. Выдадзеная яна вялікім у ліст фарматам, мае напачатку 8 ненумараваных балонак (16 бачынаў). Сам тэкст кнігі займае 399 балонак зь кірылічнай пагінацыяй унізе правага берагу набору першае бачыны балонкі. Дык разам уся кніга мае 407 балонак (814 бачынаў). На кажнай бачыне кнігі па 28 радкоў набору. У загалоўках і ініцыялах ужыты чырвоны колер. Шрыфт выглядам гэткі-ж як і ў маскоўскім Апостале 1564 году.

На адвароце загаловачнае балонкі зьмешчаны на ўсю бачыну, выкананы дазнаным мастаком, дрэварытны гэрб Хадкевіча. Пад гэрбам дадзены чырвонымі літарамі напіс. „Григорей Александровичь Ходкевича, пан виленский, гэтман найвышшый великого князьства литовского, староста городенский и могилевский". На балонках 2-4 надрукаваная прадмова гэтмана Хадкевіча як выдаўцы кнігі. Да нашага часу захавалася больш 30 экзэмпляраў заблудаўскага Евангельля.

Другая надрукаваная ў Заблудаве кніга, гэта „Псалтыр з Часаслоўцам". Набор гэтае кнігі быў пачаты 26 верасьня 1569 году, а з друку яна паказалася 23 сакавіка 1570 году. Фармат другое кнігі меншы, у чацьвярціцу. Напачатку кнігі 18 ненумараваных балонак. Далей нумарацыя ідзе ў два лікі — асобна для Псалтыра й асобна для Часаслоўца. У першым 284 балонак, у другім — 75. Дык уся кніга мае 377 балонак (754 бачыны). На балонках 61-74 Часаслоўца надрукаваныя каляндарныя паказьнікі, пасхальныя табліцы ды ключы да іх. Шрыфт гэткі-ж як і ў Евангельлі.

Напачатку кнігі ёсьць дрэварытны вобраз цара Давіда, ды, як і ў Евангельлі, дадзены гэрб гэтмана Хадкевіча, але іншага рысунку ды меншы памерамі, датарназаны да мен-

шага фармату кнігі. Перад тэкстам Псалтыра надрукаваная прадмова да кнігі выдаўца гэтмана Хадкевіча.

Над наборам і друкам Псалтыра працаваў ужо толькі Іван Масквіцін, бо Пётра Мсьціславец пакінуў гэтым часам Заблудава ды пераехаў да Вільні. У кнізе зьмешчаная кароткая дапіска ад друкара, што пачынаецца словамі: „А трудывся многогрешный и непотребный раб на имя Иван Феодорович Москвитин”.

Знойдзеныя тымчасам толькі 3 экзэмпляры заблудаўскага Псалтыра з Часаслоўцам, усе яны некамплетныя. Найпаўнейшы зь іх перахоўваецца ў бібліятэцы лёнданскага палацу Лямбэт, рэзыдэнцыі кентэнбэрыйскага архіяпіскапа, галавы англіканскае царквы.[18] Лёнданскі экзэмпляр Псалтыра мае на вокладцы экслібрыс з гэрбам кентэнбэрыйскага біскупа Рычарда Бэнкрафта (1544-1610), канцлэра Оксфордзкага ўнівэрсытэту. Дык кніга трапіла ў Лёндан не пазьней пачатку XVII стагодзьдзя. Рычард Бэнкрафт быў старшынём рэдакцыйнае камісіі, якая з даручэньня караля Джэймса рыхтавала да друку ангійскі пераклад Біблії 1611 году.

Графічна заблудаўскія выданьні выкананыя на высокім узроўні. Характэрнае для іх тое, што ў іх ёсьць загаловачныя бачыны, якіх ня маюць кнігі надрукаваныя двумя друкарамі ў маскоўскай друкарні, ані выдадзены пазьней Іванам Федаровічам у Львове „Апостал”. Гэта паказвае, што загаловачныя бачыны ў кнігі даў рэдактар-выдавец Рыгор Хадкевіч. Да іх ён даўно прывык хоць-бы гартаючы выданьні доктара Скарыны і ў друкаванай кнізе ўважаў іх за канечныя. Накш, відаць, тады яшчэ думаў Іван Федаровіч, які пасьля пераезду да Львова перайшоў ізноў да выдаваньня кнігаў без загаловачных бачынаў.

Заблудаўскія выданьні багатыя графічнымі аздобамі. Апрача дрэварытаў на ўсю бачыну — гэрбаў гэтмана Хадкевіча ды вобраза цара Давіда — у іх вельмі шмат аздобных ініцыялаў, заставіцаў, канцовак, лямбардаў, узорыстых калонтытулаў, радкоў выразаных напісамі вязьзю. У Евангельлі дадзена 77 лямбардаў 21 рысунку, надрукаваныя яны чырвоным кінаварным друкам. Асабліва багаты графічнымі аздобамі Псалтыр з Часаслоўцам. У ім шмат зграбных, у стылёвай адналітасьці кампактным рысункам выкананых ініцыялаў. У кнізе адбіта 182 ўзорыстых ініцыялаў, 472 аздобных калонтытулаў, шмат заставіцаў, канцовак.

Заблудаўскае Евангельле, гэта зборнік рэлігійных павучэньняў да евангельскіх тэкстаў што былі напісаныя выдатнымі айцамі царквы. У кнізе ёсьць павучэньне й таленавітага паэты, красамоўцы й філёзафа беларускае зямлі Кірылы Тураўскага: „Кирила, недостойнага мниха, слово на вознесеніе Господне в четверток 6 недели по пасце от пророческих указаній и о воскресеніи всероднаго Адама из ада”.




**Гэрб гэтмана Рыгора Хадкевіча ў выдадзеным у 1569 г.
ў Заблудаве „Евангельлі ўчыцельным”.**

„Евангеліе оучительное" было кнігаю цэрквам вельмі патрэбнаю. Карыстаючыся ёю сьвятары ў часе казаняў паясьнялі паасобныя месцы евангельскіх тэкстаў або проста адчытвалі з кнігі адпаведнае павучэньне. Евангельле гэтае было ў шырокім карыстаньні й для хатняга чытаньня. Вялікі фармат заблудаўскага Евангельля паказвае на тое, што выданьне прызначалася найперш для ўжытку царкоўнага. У сваёй прадмове гэтман Хадкевіч падчырквае вялікія карысьці кнігі ўсім „людзям хрысьціянскім закону нашага грэцкага", бо *„яна кажнаму даступная, для зразуменьня не цяжкая й для чытаньня карысная"*.

Скуль узяты рукапіс надрукаванага Евангельля выясьніць ніхто ня пробваў. Як вышэй падавалася, спробы дастаць тэкст падобнага Евангельля з Масквы закончыліся няўдачаю. Найбольш праўдападобна, што рукапіс паходзіў зь бібліятэкі недалёкага ад Заблудава Супрасьльскага манастыра, у які Хадкевічу, як апякуну манастыра, даводзілася часта заглядаць. Бібліятэка манастыра гэтым часам была ўжо багатая кнігамі. Паводле сьпісу, які гадоў дзесяць перад пачаткам наладжваньня друкарні ў Заблудаве, у 1557 годзе, зрабіў архімандрыт Сяргей Кімбар, у бібліятэцы тады было 209 кнігаў. Блізу ўсе яны былі рукапісныя. З колькіх кнігаў друкаваных манастыр меў Псалтыр і Апостал Скарынавага выданьня.

У сьпісе 1557 году кнігаў Супрасьльскае бібліятэкі архімандрыт Кімбар падае й тры гэткія: „Евангеліе оучительное старое, Евангеліе оучительное новое, а другое учительное жабинское".[19] Вось тэкст аднаго з гэтых трох евангельляў Супрасьльскага манастыра — „старога", „новага" ці „жабінскага" —і мог быць скарыстаны гэтманам для друку.

Перад тэкстам евангельля, на трох балонках, надрукаваная прадмова гэтмана Рыгора Хадкевіча як выдаўца кнігі: „Предисловіе книги сея". З прадмовы відаць, што аўтар усьведамляў рэлігійна-духовыя патрэбы пары, ар'ентаваўся добра ў рэлігійнай літаратуры ды меў бясспрэчныя літаратурныя здольнасьці. Пачатак прадмовы пісаны выяўна пад беспасярэднім уплывам выданьняў доктара Скарыны. Вось уводныя радкі прадмовы Хадкевіча:

> Господь Бог вседержитель, многими и различными обычаи писаніем оученіе людем своим дал. Первое Мойсеем пророком ветхій закон июдеом дал. Намже хрестіяном Христос Спас наш новое свое благовествованіе, святое евангеліе, предал четырми евангелисты ... Яко и апостол Павел вначале епистоліи своей ко евреом пишет ... Благодатьже и истина Ісусом Христом бысть ...[20]

А вось пачатак прадмовы доктара Скарыны да Кнігі Царстваў ягонага выданьня (Прага, 1518):

Многими и различными обычаи господь Бог писма и науку нам, людем своим, дал и дава, от початку света даже и до сего дня: Найпервей дал ест Евреом рукою Мойсея, раба своего, ветхый закон. Потом нам, хрестианом, оусты своими, Новое благовествование уставил. Якоже святый Апостол Павел[21] глаголеть: Закон Мойсеем дан ест, благодатьже господем нашим Ісусом Христом.

Супаставіўшы вышэй прыведзеныя тэксты відаць, што калі Хадкевіч пачынаў пісаць прадмову, перад сабой меў ён кнігу Скарынавага выданьня, Кнігу Царстваў. Далейшы тэкст прадмовы ўжо самастойны. Хадкевіч зьвяртае ўвагу чытача на важнасьць зьместу надрукаванае кнігі, на ейныя вялікія рэлігійна-маральныя вартасьці ды паясьняе прычыны, чаму ён кнігу выдае друкам у дадзеную якраз пару:

яна патрэбная ўсім, асабліва ў цяперашнім узбунтаваньні сьвету гэтага, калі ад новых ды розных навукаў шмат якія людзі хрысьціянскія захісталіся ў веры, гордыя сваім розумам сталі ды ад згоднасьці з тымі, што жывуць у веры, адвярнуліся. Праз чытаньне кнігаў гэтых хай яны маюць змогу сябе паправіць ды на шлях праўдзівы сябе прывесьці. Тыя-ж, што дагэтуль праўдзівую веру захавалі ды трымаюцца яе непахісна, Хрыстос іх словамі й сваёй навукай яшчэ больш у веры й аднадумнасьці ўмацуе ды ня дасьць, каб жыцьцёвыя хвалі іх захісталі ды каб яны паддаліся існуючым ерасям.[22]

Згадкі ў прадмове пра „жыцьёвыя хвалі" ерасяў не рытарычны адно зварот гэтмана. Рэфармацыйны рух, які зарадзіўся ў першай чверці таго стагодзьдзя ў Нямеччыне, гэтым часам ужо шырокай хваляй разьліўся й па землях Беларусі ды дайшоў тут да ўзвышшаў свайго пашырэньня й сваe сілы. Магнаты й шляхта праваслаўнае й каталіцкае веры масава пераходзілі на кальвінізм, ці хінуліся да арыянства.

Аб памерах пашырэньня рэфармацыйнага руху ў Беларусі гэным часам дае яскравы прыклад тагачасны польскі езуіт Пётра Скарга: на ўсё Навагрaдзкае ваяводзтва пры праваслаўнай веры засталося тады толькі каля 16 шляхоцкіх сем'яў, іншыя-ж лікам каля 600 сем'яў, сталі пратэстантамі ці арыянамі.[23] Рэфармацыйны рух пранікаў і ў месты Беларусі, у асяродзьдзе багацейшага мяшчанства. Некранула рэфармацыя ў Беларусі толькі сялянства. Пра сілу рэфармацыйнага руху ў Вялікім Княстве Літоўскім можа сьветчыць і тое, што ў годзе 1569, годзе выхаду з друку заблудаўскага Евангельля ды на тэрыторыі княства ў межах пасьля вуніі, на ўсіх 21 сьвецкіх сэнатараў Вялікага Княства 14 было пратэстантаў, 3 праваслаўныя й 4 каталікі.[24]

Дык трывога Хадкевіча за праваслаўную веру ў Вялі-

кім Княстве была абгрунтаваная. Паколькі рэфармацыйныя рознага кірунку аўтары для прапаганды сваіх паглядаў асабліва шырака карысталіся друкам, дык, каб супроцьставіцца пратэстантызму, Хадкевіч і ўважаў за справу важную й пільную наладжаньне праваслаўнага выдавецтва рэлігійных кнігаў.

Можа паўстаць пытаньне, чаму ў прадмовах Хадкевіча ня згадваецца пра нейкую загрозу для праваслаўя з боку каталіцкага. Паясьняецца гэта тым, што каталіцызм у Вялікім Княстве Літоўскім неспадзевана шпаркім пашырэньнем рэфармацыйнага руху сам тады апынуўся ў загрозе ды быў моцна аслаблены. Каталіцызм у Вялікім Княстве Літоўскім гэнымі гадамі яшчэ толькі падрыхтоўваў свае сілы для генэральнага контрнаступу супроць рэфармацыі, які ў хуткім часе й быў распачаты з зьяўленьнем у Вільні ордэну Езуітаў.

Свае разважаньні пра карысьці чытаньня сьвятых кнігаў Хадкевіч у прадмове падмацоўвае вялікім лікам цытатаў зь Біблії ды Евангельля. Іх у прадмове дае ён каля дваццацёх. Гэта сьветчыць пра немалую эрудыцыю ды начытанасьць аўтара ў рэлігійнай галіне, аўтара не тэалёга, не царкоўніка, але мужа ваеннага й дзяржаўнага.

Цікавае вельмі заканчэньне прадмовы, дзе Хадкевіч паясьняе, чаму ён уважаў за патрэбнае выдаць гэтую якраз кнігу, як да яе надрукаваньня дайшло, ды чаму кнігу друкуе пацаркоўнаславянску:

> Дзеля гэтага я, Рыгор Александравіч Хадкевіч, бачачы гэткую хрысьціянскую навуку ў гэтай кнізе, зажадаў, каб слова Божае размножылася ды навука людзям закону грэцкага шырылася. Дзеля таго, што ў шмат якіх месцах кнігі гэтыя памарнелі, я й не пашкадаваў даць на гэтую справу ад дараваных мне Богам скарбаў. Дзеля гэтага-ж расстараўся сабе людзей у гэтай друкарскай справе дазнаных, Івана Федаровіча Масквіціна ды Пётру Цімахвеявіча Мсьціслаўца, ды загадаў ім, каб, зрабіўшы варштат друкарскі, выдрукавалі гэтую кнігу „Евангеліе оучительное", найперш на чэсьць і пахвалу Госпаду Богу ў Тройцы адзінаму ды для навукі людзям хрысьціянскім закону нашага грэцкага.
>
> Думаў я й пра тое, каб гэтую кнігу, простым людзям для зразуменьня, перакласьці на простую мову, і вельмі пра гэта стараўся. Ды раілі мне людзі мудрыя, у гэтым пісьме вучоныя, што пры перакладзе з старых выражэньняў на новыя, памылак бывае цімала, як і цяпер можна бачыць у кнігах новага перакладу. Дзеля гэтага гэтую кнігу загадаў надрукаваць так, як яна здаўна была пісаная, бо яна кажнаму даступная, для зразуменьня не цяжкая й для чытаньня карысная, ды найбольш тым, што старанна й з увагай шуканае здабыць

захочуць ды й здабудуць. Вы-ж, любыя, прымеце гэтую кнігу зь любовяй, а я, з божай дапамогай, пра кнігі іншыя, цэрквам божым патрэбныя, рупіцца буду, і, маіх коштаў на гэта не шкадуючы, хутка друкаваць іх дам.[25]

З прыведзеных тут радкоў прадмовы цікавыя асабліва словы гэтмана пра ягоныя вялікія стараньні перакласьці кнігу „на простую мову". Арыгінальны тэкст гэтае важнае часткі Хадкевічавае прадмовы гэткі:

Помыслил же был есми и се, иже бы сію книгу выразуменія ради простых людей предложити на простую молву, и имел есми о том попеченіе великое. И совещаша ми люди мудрые в том писме оученые, иже прекладаніем з давных пословиц на новые, помылка чинится не малая. Якоже и ныне обретается в книгах новаго переводу.

Калі ўжо ведаем, што пры пісаньні свае прадмовы Хадкевіч перад сабой меў кнігі Скарынавае Бібліі, лёгка здагадацца адкуль зьявілася ў гэтмана думка аб тым, каб кнігу перакласьці на „простую малву". Выданьні Францішка Скарыны былі прыкладам Рыгору Хадкевічу пры ягоных намаганьнях даць друкаваную кнігу для народу ў мове народу.

Адзначыць тут трэба, што ніякіх падставаў ня меў маскоўскі кнігавед А. А. Сідараў, каб словы з прадмовы гэтмана пра ягоныя стараньні друкаваць кнігі „простай малвой" неспадзеўкі прыпісаць Івану Федаровічу Масквіціну:

У Заблудаве Фёдараў... ад імя гэтмана Хадкевіча гавора нязвычайна важныя словы, што паказваюць, якімі ідэйнымі ніткамі зьвязаная дзейнасьць Івана Фёдарава з запаветамі Скарыны.[26]

Прадмову да Евангельля напісаў не Федаровіч, але гэтман. Відаць гэта добра з словаў прадмовы: „Аз, Григорей Александровичь Ходкевича". Таму й выказаныя ў прадмове думкі належаць гэтману, а ня Івану Федаровічу. Дык, калі ход пра „простую мову", запаветы Скарыны рэалізаваць намагаўся гэтман Рыгор Хадкевіч, а ня Іван Масквіцін, які праз усю сваю друкарскую дзейнасьць ні словам, ні чынам не паказаў нейкага зразуменьня Скарынавае ідэі выдаваць кнігі для народу моваю яму зразумелаю, моваю самога народу. У справе мовы друкаваных кнігаў Іван Федаровіч усё сваё жыцьцё заставаўся верным маскоўскай артадаксальнай царкоўнай традыцыі, якая народнае мовы ў рэлігійныя кнігі не дапускала.

Іншы савецкі аўтар, Б. В. Сапуноў, ня толькі трактуе прадмову Рыгора Хадкевіча за твор Івана Федаровіча, але

беларускія словы гэтмана гэтае прадмовы ён падае навет як прыклады „ўплыву" мясцовае народнае мовы на мову Івана Масквіціна![27]

Тых „людзей мудрых", якія адраілі гэтману выдаваць кнігі ў перакладзе на „простую малву", Хадкевіч, нажаль, не назваў. Трэба думаць, што былі гэта асобы духоўнага стану, бо духавенства звычайна варожа сустракала спробы перакладу рэлігійных кнігаў на народную мову. Ясна таксама, што калі толькі ў гэтай справе гэтман раіўся і Івана Федаровіча Масквіціна, былога маскоўскага дыякана, ягоная рада была напэўна адмоўная. Маскоўскае праваслаўе патрэбы перакладу рэлігійных кнігаў не разумела, уважала гэта за справу шкодную й да ніякіх перакладаў на народную мову тады недапускала.

Што думка пра пераклад кнігаў „на простую малву" не пакідала ўсё-ж гэтмана й пасьля надрукаваньня Евангельля, відаць з таго, што і ў прадмове да другой выдадзенай у Заблудаве кнігі, да Псалтыра з Часаслоўцам, ён ізноў варочаецца да справы перакладу ды ізноў паясьняе, чаму ад перакладу мусіў адмовіцца дзеля небясьпекі памылак, якія пры перакладзе могуць паўстаць, а зь іх „ераси умножаются", а „того избави нас Боже".

Дык, не зважаючы на жаданьні й стараньні гэтмана, дзеля рады нейкіх „людзей мудрых" да друкаваньня кнігаў у мове беларускай у Заблудаве не дайшло. У тэксце абедзьвюх заблудаўскіх кнігаў захаваная традыцыйная царкоўнаславянская мова. І навет свае прадмовы Хадкевіч стараўся пісаць на лад царкоўнаславянскі, гэтак, як на землях Беларусі тады пераважна пісаліся творы рэлігійнага зьместу. Таму мова прадмоваў гэтмана моцна розьніцца ад ягонай беларускай пісьмовай мовы, якою Хадкевіч карыстаўся ў сваім прыватным і дыпляматычным ліставаньні. Але і ў прадмовах яскрава прабіваюцца беларускія асаблівасьці мовы гэтмана, у гэтым і ў лексыцы, прыкладам чаго могуць служыць гэткія ўжываньня ў беларускай мове й сяньня ягоныя словы як **напосьледок, разумеючы, потребную, помылку, выдруковаты, не трудно** ды іншыя.

Зьвяртаюць на сябе ўвагу й словы прадмовы: „пры перакладзе з старых выражэньняў на новыя памылак бывае цімала, як і цяпер можна бачыць у кнігах новага перакладу".

Паўстае пытаньне, якія кнігі „новага перакладу" меў на ўвеце Хадкевіч? На думцы ў яго была найхутчэй польская берасьцейская Біблія, што выйшла з друку ў 1563 годзе, ці бо гадоў ледзь колькі перад часам напісаньня гэтманам свае прадмовы. Тагачасьнікі, прыкладам Сымон Будны, крытыкавалі яе за недакладнасьці перакладу й за памылкі.

## Гэтман Хадкевіч і друкары

Паасобныя аўтары розна азначаюць ролю й заслугі трох удзельнікаў заблудаўскае выдавецка-друкарскае справы — гэтмана Рыгора Хадкевіча, Івана Федаровіча Масквіціна й Пётры Мсьціслаўца. Існуюць і публікацыі, у якіх можна назіраць тэндэнцыю зрабіць Івана Федаровіча адзіным „запраўдным героем" заблудаўскага выдавецтва.[28] Мала заслугаў пры гэтым прызнаецца Рыгору Хадкевічу, блізу ніякіх Пётру Мсьціслаўцу.

Некаторыя аўтары, асабліва ў гадох паваенных ды ў публікацыях маскоўскіх, часта пішуць, што кнігі ў Заблудаве „выдаваў" Іван Федаровіч. Як даслоўна некаторыя аўтары разумеюць выражэньне „Іван Федаровіч **выдаваў**" кнігі ў Заблудаве, можна бачыць з словаў А. Л. Няміроўскага:

> Відавочна тут-жа (у Вільні, Васілём Гарабурдай — В. Т.) была надрукаваная блізкая копія заблудаўскага Вучыцельнага Евангельля. Патрэба гэтае кнігі адчувалася й Іван Фёдараў мог-бы сам яе перадрукаваць. „Пірацкае" выданьне моцна парушыла ягоныя інтарэсы.[29]

Калі хто мог-бы мець прэтэнсіі да Гарабурды за „парушаныя інтарэсы" ды якіяколечы матар'яльныя шкоды дзеля віленскага „пірацкага" перадруку заблудаўскага Евангельля, дык не друкары кнігі, ня Іван Федаровіч Масквіцін ці Пётра Мсьціславец, а толькі ейны выдавец, толькі Рыгор Хадкевіч, коштам, захадамі й пад рэдакцыяй якога Евангельле было надрукаванае. Напэўна не Васіль Гарабурда быў вінаваты за вечныя фінансавыя клопаты Івана Федаровіча.

Дык часта сустраканае выражэньне „Іван Фёдараў выдаваў кнігі", калі ход пра Заблудава, памылковае, не аддае праўды. У Заблудаве Іван Федаровіч кнігаў не выдаваў, ён іх там толькі друкаваў. Ні Іван Федаровіч Масквіцін ні Пётра Мсьціславец, выдаўцамі ў Заблудаве ня былі, як ня былі яны выдаўцамі і ў Маскве. Выдаўцом у Заблудаве быў толькі гэтман Хадкевіч. Ягоным гэта „накладам", ягоным коштам паўстала там друкарня ды друкаваліся кнігі. Іван-жа Масквіцін ды Пётра Мсьціславец у Заблудаве былі толькі майстрамі-друкарамі друкарні ды ейнымі тэхнічнымі творцамі.

І з тэкстаў загаловачных бачынаў, і з прадмоваў выдадзеных у Заблудаве кнігаў відаць ясна, што адзіным гаспадаром выдавецтва й друкарні быў гэтман Хадкевіч. У загалоўку да Евангельля кажацца, што кніга „выдана есть . . . его милости пана Григорія Александровича Ходкевича . . . власным накладом". У прадмове-ж Хадкевіч кажа, што ён,

расшукаўшы сабе друкароў, ім „повелел ... выдруковати сію книгу”. Ён таксама абяцае чытачом, што й іншыя кнігі „церквам божіим потребныя ... накладу моего на то не жалуючы ... друковати дам”. І ў прадмове да Псалтыра Хадкевіч прыракае, што ён будзе друкаваць і іншыя кнігі: „Я такожe и впред працы и накладу моего жаловати не буду и другыя книги друковати дам”.

Дык душою й бяспрэчным гаспадаром выдавецтва ў Заблудаве быў Хадкевіч. Зь ініцыятывы й захадамі гэтмана былі заснаваныя друкарня й выдавецтва. Зь ягонага загаду быў зроблены „варстат друкарскі” ды друкаваліся кнігі. Ён пакрываў усе зьвязаныя з выдавецтвам і працаю друкарні выдаткі. Ён дбаў пра шчодрае матар'яльнае забясьпечаньне друкароў, аб чым па сьмерці гэтмана зь вялікай удзячнасьцяй разоў колькі ўспамінае Іван Федаровіч у пасьлоўі да львоўскага Апостала — „всякими потребами телесными, пищею и одеждею оудоволен бех”.

На сваёй адказнасьці Рыгор Хадкевіч меў у Заблудаве й выдавецка-рэдакцыйныя абавязкі. Яшчэ да заснаваньня друкарні, як мы вышэй бачылі, доўгімі гадамі ён вёў настойлівыя пошукі патрэбных рукапісных тэкстаў. Ён пастанаўляў, якую кнігу, якую яе рэдакцыю, які яе тэкст ды якою моваю друкаваць, хоць пры гэтым гэтман і раіўся зь людзьмі „мудрымі, у гэтым пісьме вучонымі”. Рупіўся Хадкевіч і пра тое, каб выбраны для друку рукапіс кнігі быў зьвераны з тэкстамі гэтае кнігі іншымі ды папраўлены. Аб гэтым усім гавораць Хадкевічавы прадмовы.

Пра пастаўленыя выдавецтву мэты — „восхотех еже бы слово божіе розмножилося и поученіе людем закону гречeскаго ширилося” — і пра ўсе свае зьвязаныя з друкарняй і выдавецтвам праблемы Хадкевіч у прадмовах заўсёды гавора ад сваe толькі асобы, як ад адзінага за ўсю справу адказнага гаспадара. І таму кнігі надрукаваныя ў Заблудаве — ягоныя выданьні. Няма ніякіх падставаў прыпісваць іх Івану Масквіціну ці каму іншаму.

Зь іншых зусім пазыцыяў ды зусім іншым тонам, як прадмовы гэтмана, напісаныя ў заблудаўскіх выданьнях кароткія звароты да чытачоў ад друкароў. Унізе першае бачыны пятае балонкі Евангельля друкары надрукавалі ананімна, не падаючы сваіх імяў, гэткія словы:

Хотящіиже прочитати и переписовати сію книгу, милостиви и незазорливи, молимся мы трудившіися недостоинії и худые, будите нашего оума немощи и недостатку. Понеже и вы сами человецы, и человеческим подлежаще, яко требуете милости от Бога, и прощенія от человек. Прощенію вашему и нас сподобляите.[30]

Паўстае пытаньне, ці ня дзеля вельмі няпрыемнага маскоўскага здарэньня з памылкамі ў першым заблудаўскім выданьні, у Евангельлі, друкары даюць гэткі ўніжаны зварот да чытачоў быць літасьцівымі ды дараваць за магчымыя памылкі, і даюць яго ананімна?

У Псалтыры з падобнымі словамі да чытачоў зьвяртаецца ўжо адзін Іван Федаровіч і гэтым разам ён ужо падае сваё імя:

> А трудившыйся многогрешный и иепотребный раб на имя Иван Федорович Москвитин. Молю убо всякого благочестиваго православнаго христіянина, прочитающих или переписующих книгу сію Псалтырь, аще где что погрешено будет моего ради небреженія, Бога ради исправляйте, благословите а не клените, понеже не писа Дух Святый ни ангел, но рука грешна и тленна. Да и сами тоже благословеніе обрящете от всемогущего Бога и ныне, присно и в веки веком аминь.[31]

Зьмест абодвух зваротаў друкароў да чытачоў, як бачым, у істоце аднолькавы: уніжаная просьба не „асуджаць", не „праклінаць" ды дараваць за памылкі. Прыпісак падобнага зьместу ў першых свайго друку кнігах, у выданьнях маскоўскіх, друкары не давалі. Як пазьней выявілася, памылкі ў маскоўскіх выданьнях былі. Для маскоўскіх кніжнікаў, духавенства „и священно начальник" памылкі здаліся нагэтулькі паважнымі, што друкароў *яны зьвінавацілі ў „ерасях"* ды сваімі нападкамі й прасьледамі прымусілі іх да ўцёкаў з Масквы.

Відавочна навучаныя няпрыемным маскоўскім дазнаньнем друкары ў Заблудаве ўжо самі папераджалі чытачоў пра магчымыя ў кнігах памылкі й просьбамі зьлітвацца ды за іх дараваць, намагаліся ўсьцерагчыся падобнай, як у Маскве, рэакцыі.

Важныя памылкі ў надрукаваных у Маскве кнігах знайшліся, хоць, як сьветчыць Сымон Будны, друкаваныя там кнігі самі друкары стараліся выправіць. На іхную кампэтэнтнасьць у справе папраўляньня царкоўных кнігаў Будны глядзеў аднак-жа вельмі крытычна. Аб гэтым Будны пісаў у прадмове да свайго перакладу на польскую мову Новага Запавету, які быў выдадзены ў красавіку 1574 году ў Лоску што ля Валожына. Будны ў гэтай прадмове кажа, што пры сустрэчы зь Іванам Федаровічам ды Пётрам Мсьціслаўцам, ён зь імі гаварыў і пра справу папраўкі тэкстаў надрукаваных друкарамі ў Маскве кнігаў, у якіх, паводле Буднага, „ёсьць шмат памылак і дапісак". Будны кажа:

> Ведаю, што новыя ды меншыя памылкі гэтыя друкары (як мне самі казалі) *выправілі паводля* старых кнігаў, але гэныя старыя — Маркіёнавыя, гамаўзіянскія ды іншых гарэтыкоў

хвальцы — не па маскоўскай казны кнігах выправіць ды на гэта й не галовы Івана Федаровіча ды Пётры Цімахвеявіча Мсьціслаўца. Зрабілі яны што маглі, за што іншыя павінны быць ім удзячныя, ды гэта яшчэ толькі вельмі малыя пачаткі. Гэта-ж у апостальскім пісаньні, ці бо ў надрукаваных у Маскве пасланьнях ды ў евангельлях... ёсьць шмат памылак і дапісак.[32]

Супастава прадмоваў да заблудаўскіх выданьняў гэтмана Хадкевіча з зваротамі ў іх друкароў да чытачоў кідае яскравае сьвятло на кардынальна розную пазыцыю ў заблудаўскім выдавецтве гэтмана й друкароў. Ён быў гаспадаром, яны-ж толькі выканаўцамі ягоных выдавецкіх плянаў, толькі друкарамі. Але гасподаром ён быў дбайным, справе друку адданым, а для друкароў вельмі шчодрым. Ведаем гэта з паслоўя Івана Масквіціна да львоўскага Апостала. У Заблудаве друкары былі забясьпечаныя ўсім патрэбным. Калі-ж дзеля старасьці й хваробы Хадкевіч урэшце быў ужо ня ў сілах далей весьці сваё выдавецтва, падбаў ён пра тое, каб забясьпечыць будучыню Івана Масквіціна да канца ягонага жыцьця й для гэтага дараваў яму адну з сваіх вёсак. І ня дзіва таму, што ў Івана Федаровіча Масквіціна засталася пра гэтмана толькі добрая, сьветлая памяць і вялікая яму ўдзячнасьць.

## Спыненьне выдавецтва, закрыцьцё друкарні

Хоць у прамове й да другой надрукаванай у Заблудаве кнігі, да Псалтыра, як і ў прадмове да Евангельля, гэтман Хадкевіч прыракаў: „Я такоже впред працы и накладу моего жаловати не буду, и другыя книги друковати дам", ды датрымаць сваё абяцаньне гэтым разам ён ня змог. З паслоўя Івана Федаровіча Масквіціна да львоўскага Апостала ведамая й прычына гэтага. Пра гэтмана, тады ўжо нябожчыка, там сказана:

егдаже прійти ему в глубоку старость, и начасте главе его болезнію одержиме бывати, повеле нам работанія сего престати и художьство рук наших нивочто же положити, и в веси земледеланіем житіе мира сего препроваждати.[33]

Дык выдавецтва, якое паўстала зь ініцыятывы Рыгора Хадкевіча ды існавала дзякуючы ягонай „працы и накладу", пасьля надрукаваньня дзьвюх кнігаў мусіла, дзеля старога веку й недугаў выдаўца, спыніцца. Даволі хутка пасьля, у 1572 годзе, Рыгор Хадкевіч і памёр, што толькі пацьвярджае праўду словаў Івана Федаровіча пра слабое здароўе

гэтмана. Ёсьць аднак-жа аўтары, якія Івану Федаровічу ня верацъ ды спыненьне працы друкарні намагаюцца ўзалежніць не ад старасьці й хваробы гэтмана, але ад ягоных палітычных паглядаў ды важнае падзеі гэнага часу — Люблінскай 1569 году вуніі.

Рыгор Хадкевіч, як і ўсе магнаты Вялікага Княства, быў староўкім абаронцам сувэрэннасьці свае дзяржавы ды супраціўнікам гэткае вуніі, якая аддавала-б Вялікае Княства пад уладу Польшчы. Вось гэта некаторыя аўтары ўзялі за прычыну, каб ставіць дапушчэньне, што й заснаваньне Хадкевічам выдавецтва праваслаўных кнігаў мела магчыма мэты не рэлігійна-маральныя, ані культурна-асьветныя, але палітычныя. Друкаваньнем кнігаў Хадкевіч, маўляў, намагаўся падтрымаць ды мацаваць праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім адно з тактычных меркаваньняў, каб абапіраючыся на масы праваслаўнага жыхарства не дапусьціць да вуніі. Калі-ж супраціў магнатаў быў усё-ж зламаны, вунія Вялікаму Княству была накінутая ды падпісаная й гэткія меркаваньні сталі няістотнымі, Хадкевіч выдавецтва спыніў, друкарню закрыў.[34]

Хоць Люблінская вунія была цяжкою палітычнаю няўдачаю для Рыгора Хадкевіча, ды яна ў запраўднасьці ня мела ніякага ўплыву на лёс заблудаўскага выдавецтва. Відаць гэта ясна з таго, што месяцы тры пасьля падпісаньня вуніі, 26 верасьня 1569 году, гэтман Хадкевіч даў Івану Федаровічу для набору й друку другую кнігу — Псалтыр з Часаслоўцам. Паўгоду-ж пазьней, у сакавіку 1570 году, у прадмове да Псалтыра Хадкевіч прыабяцаў чытачом, што „Я такоже впред працы и накладу моего жаловати не буду, и другыя книги друковати дам".

З вышэй прыведзеных датаў ясна, што дзейнасьць заблудаўскага выдавецтва была незалежнай ад палітычных пераменаў й мыляюцца тыя аўтары, што пробуюць зьвязаць лёс заблудаўскай друкарні зь Люблінскай вуніяй. Кнігі Рыгор Хадкевіч друкаваў у Заблудаве й да Люблінскай вуніі й пасьля яе, ды меў шчырае жаданьне выдаваць іх так доўга, пакуль служылі яму век і здароўе. І спыніў сваё выдавецтва Хадкевіч ня дзеля вуніі, але дзеля прычынаў пададзеных Іванам Федаровічам, які стан здароўя свайго мэцэната бачыў на свае вочы ды, хіба-ж, і быў чалавекам асьведамленым у тагачасных палітычных падзеях. Пасьля Люблінскае вуніі Рыгор Хадкевіч адрокся не свайго выдавецтва праваслаўных кнігаў, але высокіх ды матар'яльна выгадных становішчаў у Вялікім Княстве Літоўскім.

Вось дзеля ўсяго гэтага абсалютна беспадстаўныя падобныя меркаваньні, як Б. І. Сапунова, які піша:

> Закрыцьцё друкарні ў Заблудаве... мела глыбейшыя прычыны. Пасьля падпісаньня вуніі 1569 г. літоўскі гэтман Г. А. Хадкевіч уважаў за нявыгаднае падтрымліваць дзейнасьць рускай друкарні й зрадзіўшы нацыянальныя інтарэсы пайшоў на саюз з польскай каронай.[35]

У словах Сапунова ўражае й тэрміналёгія аўтара: заснаваную Рыгорам Хадкевічам на беларускай зямлі друкарню, якая друкавала *кнігі ня ў мове расейскай, але царкоўнаславянскай*, ён называе друкарняй „рускай", ці бо расейскай. Пры гэткіх паглядах зусім ня дзіва, што не зьвярнуў ён зусім увагі на храналёгію падзеяў ды не заўважыў, што кнігі ў Заблудаве Рыгор Хадкевіч выдаваў і пасьля Люблінскае вуніі. А што „нацыянальных інтарэсаў" свайго народу й свайго краю Рыгор Хадкевіч ніколі не зраджаў, гэта ў сваім жыцьці ён цірaз давёў на палёх бітваў.

Адзін з сучасных маскоўскіх аўтараў, Я. Л. Няміроўскі, ня толькі пераняў дапушчэньні іншых аб каньюнктурна-палітычных адно матывах выдавецкае дзейнасьці гэтмана Хадкевіча, але робіць намаганьні прыпісаць беларускаму магнату яшчэ й чыста карысьлівыя мэты. Ён кажа:

> Нельга празьмерна перабольшваць асьветніцкія тэндэнцыяў у дзейнасьці Р. А. Хадкевіча. Гэтман падтрымліваў кнігадрукаваньне да таго часу, пакуль гэта яму было выгадна як у палітычных, так і, магчыма, у эканамічных адносінах, тымбольш што выданьні заблудаўскай друкарні прадаваліся ў Маскоўскай Русі. Запраўдным героем гэтага пэрыяду гісторыі беларускага кнігадрукаваньня быў Іван Фёдараў.[36]

Пазьней, у 1974 годзе, у сваёй іншай працы, Я. Л. Няміроўскі сваю думку пра Івана Федаровіча, як пра „героя" беларускага друку, яшчэ раз паўтарыў: „Іван Фёдараў быў запраўдным героем і пачаткавага пэрыяду гісторыі беларускага кнігадрукаваньня".[37]

Думка, што Рыгор Хадкевіч, уласьнік вялізных зямельных валаданьняў, заснаваў сваё выдавецтва праваслаўных кнігаў ня кіруючыся патрэбамі царквы й народу, не з матываў ідэйных, але зь меркаваньняў карысьлівых, каб нешта зарабіць, ні на чым не абгрунтаваная. Няма ніякіх падставаў дапушчаць, каб на прыбытку з прадажы царкоўных багаслужэбных кнігаў разьлічаў ды на іх галіўся вялікі магнат Беларусі, віленскі каштэлян і горадзенскі ды магілеўскі стараста, гэтман найвышшы Вялікага Княства Літоўскага. Выдаваньне кнігаў было тады справаю вельмі каштоўнаю, рэдка прыбытковаю ды часта даводзіла выдаўцоў да банкроцтва. Пераканаўся аб гэтым Іван Масквіцін, калі пасьля сьмерці гэтмана спробаваў заснаваць у Львове выдавецтва сваё. Ужо

праз год свою друкарню давялося яму аддаць крэдытарам у залог.

Чытаючы разважаньні Няміроўскага пра Хадкевіча як палітычнага каньюнктурыста й камэрсанта, ня цяжка зразумець і мэту аўтара ў спробе дыскрэдытаваць Рыгора Хадкевіча як дзеяча ідэйнага ды адмовіць яму матывы рэлігійна-патрыятычныя ў наладжаньні праваслаўнага выдавецтва. Неабгрунтаваныя дапушчэньні робяцца выяўна для гэтага, каб выдатнага беларускага мэцэната друкаванае кнігі адсунуць у цень ды гэтак як „герою” гісторыі беларускага кнігадруку ачысьціць безканкурэнцыйнае месца Івану Масквіціну.

Заслугі Івана Федаровіча ды Пётры Мсьціслаўца ў арганізацыі друкарскае справы ў Заблудаве, пазьней-жа ў Львове ды Вільні, важныя й бясспрэчныя. Гэта аднак не дае падставау адмаўляць ідэйных матываў і вельмі важных заслугаў у справе заснаваньня друкарні й выдавецтва ў Заблудаве Рыгору Хадкевічу, ініцыятару, творцы й душы заблудаўскага прадпрыемства. Паўстала-ж яно ягонымі захадамі, існавала ягоным толькі коштам і было толькі рэалізацыяй ягоных даўгагадовых лятуценьняў і плянаў.

Рэлігійна-маральныя матывы выданьня першае кнігі ў Заблудаве, Евангельля, у сваёй прадмове шырака абаснаваў сам Рыгор Хадкевіч. Там ён зьвярнуў увагу на тое, што кніга гэтая вельмі патрэбная „асабліва ў цяперашнім узбунтаваньні сьвету гэтага, калі ад новых ды розных навукаў шмат якія людзі хрысьціянскія захісталіся ў веры”. Дык свайму выдавецтву гэтман, сам праваслаўны, ставіў канкрэтную мэту: мацаваць праваслаўных у веры, каб яны не паддаваліся „новым навукам” — пратэстанцкай прапаганьдзе.

Калі выдавецтва мела таксама й нацыянальна-грамадзкае ды палітычнае значаньне, няма падставаў адмаўляць дзеля гэтага Хадкевічу рэлігійна-ідэйных матываў ды намагацца рабіць зь яго камэрсанта. Ёсьць-жа й іншыя яскравыя довады на тое, што Хадкевіч пра духовыя патрэбы свайго народу шчыра дбаў. Прыкладам можа быць ягоны 1563 году заблудаўскі „фундушовы ліст”, зь якога відаць асабліва яскрава дбайнасьць беларускага магната пра асьветныя й рэлігійна-духовыя патрэбы сваіх заблудаўскіх падданых.

Дык і прадмовы гэтмана, і сьветчаньні Івана Федаровіча, і архіўныя ведамкі паказваюць, што да справы выдавецкай гэтман Рыгор Хадкевіч падыходзіў зь вялікай павагай, адказнасьцяй ды нешкадуючы сяродкаў. Наладжаньне друкарні ў родавым Заблудаве напэўна ня было нейкім пераходным магнацкім капрызам, каньюнктурным палітычным ходам ці спробаю камэрсыйна выгаднага абароту капіталу. Быў гэта культурна-асьветны пачын даўно надуманы, гадамі пляняваны й спароджаны шчырымі ідэйнымі рэлігійна-патрыятычнымі матывамі.

**Высновы**

Дзейнасьць друкарні ў Заблудаве трывала нядоўга. Калі лічыць ад пачатку набору першае кнігі, Евангельля, і да часу выхаду кнігі другое, Псалтыра з Часасloўцам, ці бо ад 3 ліпеня 1568 году й да 23 сакавіка году 1570, друкарская праца вялася ў Заблудаве ня цэлыя 22 месяцы. За гэты час былі набраныя й надрукаваныя дзьве вялікія кнігі, агульным лікам 784 балонак (1568 бачынаў) друку.

Хоць часам працы й кароткая, дзейнасьць у Заблудаве Івана Масквіціна ды Пётры Мсьціслаўца сваімі вынікамі й значаньнем была вельмі важнаю для далейшага разьвіцьця кнігадруку беларускага й усяго кірылічнага. Што графічныя прыёмы заблудаўскае друкарні бралі сабе за ўзор пасьля іншыя друкарні й друкары, можна бачыць хоць-бы па віленскім 1586 году Псалтыры, друкуючы які Мамонічы карысталіся Псалтыром Заблудаўскім. Скапіяваны быў пры гэтым шрыфт, паўтораны быў у вельмі блізкой да арыгіналу перарысоўцы дрэварыт цара Давіда. Былі перарысаваныя таксама некаторыя вялікія й малыя, з расьлінным арнамэнтам, заставіцы ды пераняты й спосаб разьмяшчэньня тэксту.[38]

Вышэй згаданая копія Мамонічаў заблудаўскага вобразу цара Давіда, з тае самае дошкі, была паўтораная ў Вільні і ў выданьнях 1592 і 1593 гадоў. Дрэварытны вобраз цара Давіда з заблудаўскага Псалтыра перадрукоўваўся, з заблудаўскае ўжо арыгінальнае дошкі, прывезенае відавочна да Львова Іванам Федаровічам Масквіціным, у львоўскіх Псалтырох 1637 і 1665 гадоў.[39] У Вільні, каля 1580 году, заблудаўскае „Евангеліе учительное" перадрукаваў Васіль Гарабурда.[40]

Для далейшага разьвіцьця кірылічнага кнігадруку друкарска-выдавецкі асяродак у Заблудаве быў асабліва важны тым, што ягоныя два майстры пазьней перанесьлі майстэрства друку з малога беларускага правінцыянальнага мястэчка ў два важныя культурна-палітычныя цэнтры. Дзякуючы Пётру Мсьціслаўцу ў 1575 годзе быў адноўлены, пасьля спыненьня працы друкарні доктара Скарыны, кнігадрук у сталічнай Вільні. Іван-жа Федаровіч, пасьля пераезду з Заблудава да Львова ды заснаваньня друкарні, надрукаваньнем там у 1574 годзе Апостала запачаткаваў друкарскую справу на землях Украіны.

Важна яшчэ адзначыць, што ў Заблудаве пры двух майстрох-друкарох пачаткі друкарскага дазнаньня здабываў і здольны гравер заблудавец Грынь Івановіч. Яму гэта прыпала пазьней заданьне стварэньня новых кірылічных шрыфтоў для дзьвюх сваёй выдавецкай прадукцыяй вельмі важных друкарняў — друкарні ў Астрогу на Валыні ды друкарні Дому Мамонічаў у Вільні. Грынь Івановіч Заблудавец

быў тварцом і першае кірылічнае курсывы — шрыфта, якім Мамонічы ў 1588 годзе набралі й надрукавалі Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Адзначыць трэба важную ролю друкарні ў Заблудаве ды адначасна беларускага магнацкага роду Хадкевічаў і ў зьяўленьні першае друкаванае кнігі на ўкраінскай зямлі — львоўскага 1574 году Апостала. Пра гэта забываюцца аўтары сучасныя, хоць помніў аб гэтым калісьці Іван Федаровіч Масквіцін. Удзячнасьць Рыгору Хадкевічу за шчодрую апеку над справаю друку Іван Федаровіч выказаў у Львове на самым ужо пачатку Апостала. На адвароце першае балонкі кнігі зьмясьціў ён гэрб Хадкевіча з напісам угары: „Григорей Александровичь, Ходкевича". Дык Рыгора Хадкевіча узяў сабе Іван Дедаровіч за духовага апякуна пры пачатках свае самастойнае друкарска-выдавецкае дзейнасьці ў Львове ды прыступаючы да друку першае друкаванае кнігі на ўкраінскай зямлі.

У паслоўі-ж да львоўскага Апостала дадзены запраўдны гімн пахвалы, удзячнасьці й славы Івана Федаровіча гэтману Хадкевічу. І паслоўе пісанае было не ў Заблудаве ды не пры жыцьці Рыгора Хадкевіча, калі Іван Федаровіч быў ад яго залежным, але ў Львове ды больш году пасьля сьмерці гэтмана. Пры канцы паслоўя Іван Федаровіч просіць чытача, каб той маліў Бога „вечнае памяці" Рыгору Хадкевічу ды „пасяленьня" яго разам з сьвятымі. Далей ідзе гэткая просьба да чытача:

> Потомже сыном его милости, пану Андрею Григорьевичу Ходкевича, пану подстолему Великого Князьства Литовского, старосте могилевскому, и его милости пану Александру ГригорьевичуХодкевича, старосте городеньскому, державцу айньскому, да просит душевного спасенія и многолетияго здравія, понеже бо они виновни суть таковыя ползы.

З словаў „понеже бо они виновни суть таковыя ползы" відаць, што мэцэнатамі-фінансістымі, дзякуючы дапамозе якіх кніга магла быць надрукаваная, былі два сыны гэтмана — Андрэй і Аляксандра Хадкевічы.

Іван Федаровіч у сваім паслоўі дае драматычнае апавяданьне аб тым, як пасьля пераезду з Заблудава да Львова, ён колькі разоў абыходзіў „багатых і благародных" места, маліў іх на каленях, „сьлязамі ногі іх увымаў", каб далі дапамогу на наладжаньне справы друкаваньня кнігаў. Але ні ў іх, ні ў вышэйшых духоўных, ніякага зразуменьня й дапамогі ён не знайшоў. Толькі некаторыя з духавенства ніжэйшага ды зь небагатых сьвецкіх, толькі „неславные", ста-

раліся ў меру сваіх невялікіх магчымасьцяў нешта дапамагчы.

Калі пасьля вопісу дарэмных пошукаў падтрыманьня ў багатых месьцічаў Львова Іван Федаровіч як „вінавайцаў" выхаду кнігі называе толькі двух сыноў гэтмана, з гэтага вынікае, што атрыманыя ахвяры ад бяднейшых, ад „няслаўных" жыхароў Львова былі вельмі сьціплыя й ня ведама, ці хапіла іх на пакрыцьцё коштаў зрабленьня „варстату" для друкарні. Дзеля гэтага па дапамогу на выданьне Апостала Іван Масквіцін быў змушаны зьвярнуцца на землі Беларусі, да сыноў нябошчыка гэтмана.

Праз год, 15 сьнежаня 1575 году, удава па гэтмане, Кацярына Хадкевіч, кладзе ў царкве ў Супрасьлі выдадзены за грошы ейных сыноў Апостал і абедзьве надрукаваныя гэтманам у Заблудаве кнігі, з сваяручнымі на іх напісамі аб тым, што кнігі яна дорыць на памяць па нябошчыку мужу й па двух сваіх сынох — тых самых, якіх Іван Федаровіч год таму пры канцы Апостала назваў як дабрадзеяў-фінансістаў надрукаваньня кнігі. Дык у хуткім часе пасьля выхаду Апостала абодва сыны гэтмана памерлі. Ніякае дапамогі ад іх у будучыні на друкаваньне кнігаў не магло быць. Гэта, магчыма, і была галоўная прычына таго, што пасьля надрукаваньня Апостала ды невялікае Азбукі, сваё львоўскае выдавецтва Іван Федаровіч мусіў спыніць, друкарню-ж давялося аддаць крэдытарам у залог.

Хоць выданьне Апостала 1574 году браты Хадкевічы Івану Федаровічу фінансавалі, самі аднак на справу друкаваньня кнігі ніякага беспасярэдняга ўгляду ня мелі й выдаўцамі ня былі, а толькі мэцэнатамі, што фінансавалі выданьне. Ды з далёкае ад Львова Беларусі гэта было ім і немагчыма. Дык дачыненьні братоў Хадкевічаў да выдавецкай справы было іншае, як дачыненьне гэтмана Хадкевіча, іхнага бацькі, які ў сваім родавым Заблудаве сам быў выдаўцом у поўным значаньні гэтага слова, а да гэтага й рэдактарам выдаваных кнігаў. Выдаўцом у Львове быў Іван Федаровіч Масквіцін. Львоў — адзіны асяродак выдавецкае дзейнасьці Івана Федаровіча. Ні ў Маскве, ні ў Заблудаве, ні ў Астрогу выдаўцом ён ня быў, а толькі друкаром.

Уражае, што Андрэя й Аляксандру Хадкевічаў, якіх сам Іван Федаровіч называе як „вінавайцаў", ці бо фінансістаў першае надрукаванае на ўкраінскай зямлі кнігі, ня згадваюць звычайна аўтары, якія публікуюць артыкулы й кнігі пра „пачаткі кнігадруку на Украіне". Прыкладам, пра беларускіх мэцэнатаў львоўскага выдавецтва Івана Федаровіча Масквіціна, пра двух братоў Хадкевічаў, ні словам ня ўспомніў у выдадзенай у 1575 годзе ў Львове, пры нагодзе 400-угодкаў пачатку ўкраінскага друку кнізе, Я. Д. Ісаэвіч.[41]

У юбілейным маскоўскім выданьні 1974 году, у кнізе Я. Л. Няміроўскага, пішацца:

> У паслоўі львоўскага Апостала Іван Фёдараў аддаў належнае светлай памяці свайго апякуна Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча . . . а таксама пажадаў „мнагалетняга здароўя" ягоным сыном — магілеўскаму старасьце Андрэю Хадкевічу й горадзенскаму старасьце Аляксандру Хадкевічу.[42]

Дык Я. Л. Няміроўскі, хоць і згадаў двух Хадкевічавых сыноў пераказваючы заканчэньне паслоўя Івана Федаровіча, але апусьціў пры гэтым ягоныя словы аб тым, што гэта яны былі „віноўнікамі" выхаду ў сьвет кнігі. І стала незразумелым, чаму ды за што Федаровіч жадае ім „мнагалетняга здароўя". Пераблытаў Няміроўскі й старαствы братоў Хадкевічаў — абодвы старαствы прыпалі па бацьку Хадкевічу Андрэю, Аляксандра-ж быў толькі падстолім Вялікага Княства. Словы Масквіціна аб братох Хадкевічах пераказаў Няміроўскі і ў другім месцы свае кнігі, але іхнае важнае фінансавае дачыненьне да справы надрукаваньня кнігі й гэтым разам ён прыкрыў маўчаньнем.[43]

Фінансавая дапамога сыноў гэтмана на друкаваньне Апостала 1574 году яшчэ адзін довад вялікага беларускага ўкладу ў справу зьяўленьня першае друкаванае кнігі на Украіне. Шрыфты, дрэварыты, друкарскія матар'ялы што былі створаныя Іванам Федаровічам і беларусам Пётрам Мсьціслаўцам для друкарні ў Заблудаве, былі перавезеныя да Львова гатовыя. Яны далі тэхнічную аснову для першае друкарні на ўкраінскай зямлі. Сам Іван Масквіцін сьветчыць, што й грошы на друкаваньне Апостала ён дастаў зь Беларусі, ад сыноў гэтмана. Дзеля гэтага даводзіцца прызнаць вялікія заслугі роду Хадкевічаў ня толькі ў гісторыі кнігадруку Беларусі, але і Украіны. Гэты важны факт нейк не парупіліся адзначыць юбілейныя публікацыі 1975 году.

Як бачым, беларускі ўклад у стварэньне першае друкарні на ўкраінскай зямлі й надрукаваньне ў ёй першае кнігі быў вялікі, вырашальны — усе друкарскія матар'ялы, блізу ўся друкарская снасьць, а таксама патрэбны капітал былі прывезеныя да Львова зь Беларусі. Гістарычную ролю першадрукара Украіны Іван Федаровіч Масквіцін мог выканаць толькі дзякуючы гэтай выдатнай дапамозе зь земляў Беларусі.

Пры ацэне гістарычна важнага заблудаўскага пачыну ў малым, глухім, далёкім ад большых палітычных ды культурна-эканамічных цэнтраў мястэчку Беларусі, трэба не забывацца, што дайшло да яго зь ініцыятывы, навагі ды волі гэтмана Рыгора Хадкевіча. Роля ды заслуга Івана Масквi-

ціна ды Пётры Мсьціслаўца пры рэалізацыі кнігавыдавецкіх плянаў гэтмана была друкарска-тэхнічнаю, ягонай задуме й выдавецкім плянам падпарадкаванаю. Праца друкарні таму й магла трываць адно так доўга, пакуль Рыгору Хадкевічу служылі сілы й здароўе. З хваробай выдаўца дзейнасьць друкарні мусіла спыніцца, выдавецтва абарвалася.

Дык ідэю друкаваньня кнігаў у Заблудаве не імпартавалі з Масквы два друкары-ўцекачы, як ствараецца ўражаньне чытаючы некаторыя публікацыі. Заблудаўскае выдавецтва праваслаўных кнігаў таксама ня прыпадак, але плод даўгагадовае падрыхтовы. Заснаваньне яго было абумоўленае тагачаснымі культурна-духовымі й рэлігійнымі патрэбамі краю. Як Рыгор Хадкевіч у прадмовах да кнігаў падаў, важным фактарам у арганізацыі кнігадруку гэтманам была нарастаючая загроза для праваслаўя з боку рэфармацыйнага руху, які якраз тады масава ахапіў сацыяльныя верхавіны Беларусі.

Важнаю друкаваная кніга была й для асьветных патрэбаў, пра што, як сьветчыць заблудаўская фундушовая грамата гэтмана 1563 году, Рыгор Хадкевіч вельмі дбаў. Дык вялікага значаньня друкаванае кнігі для культурна-духовага жыцьця Хадкевіч быў сьведамы й таму кнігі свайму народу стараўся даць. Як сам пісаў, думаў гэтман і пра тое, каб друкаваць кнігі для народу моваю яму найбольш зразумелаю, ягонаю „простаю малвой". У наяве моцнага супраціву колаў артадаксальных Хадкевічу не хапіла аднак настойлівасьці свой намер зрэалізаваць, хоць ён „і вельмі пра гэта стараўся".

Асноваю для пастаўленых выдавецтву заданьняў былі ў Рыгора Хадкевіча ягоныя ідэйныя хрысьціянскія ды гуманістычна-патрыятычныя пераконаньні. І дзеля гэтага прызнаньне яму ў гісторыі беларускага народу належыцца ня толькі як выдатнаму гэтману-ваеньніку й заслужанаму дзяржаўнаму мужу, але й як культурнаму дзеячу талеранцыйных шырокіх інтэлектуальных кругаглядаў.

Ня трэба забывацца, што Рыгор Хадкевіч быў і здольным аўтарам-пісьменьнікам. Пра літаратурны талент гэтмана сьветчаць ягоныя прадмовы да выдадзеных ім кнігаў. Таму зусім заслужана пры пачатку кажнае надрукаванае ў Заблудаве кнігі красуецца гэрб „гэтмана найвышшага Вялікага Княства Літоўскага".

Выдатныя заслугі Рыгора Хадкевіча для справы кнігадруку разумеў, іх цаніў і ўдзячнасьць ды хвалу па сьмерці гэтмана за іх выказаў сьветка найбольш для гісторыі кампэтэнтны — Іван Федаровіч Масквіцін. Няма прычынаў, каб прамоўчваць іх цяпер, як вядзецца ў публікацыях нашага часу з галіны гісторыі старога ўсходнеславянскага кнігадруку.

**HETMAN RYHOR CHADKIEVIČ AND HIS PUBLISHING HOUSE by Vitaut Tumash.**

**Summary:** Of especial importance in the history of Byelorussia and of Cyrillic book-printing in general was the activity of the printing house established by Ryhor Chadkievič (Khadkevich), Hetman of the Grand Duchy of Lithuania, in his familial township of Zabłudava near Biełastok. From Chadkievič's printing house came two books of liturgical and educational purpose: **Evangeliye uchitelnoye** (in 1569) and **Psaltyr** with **Chasoslovets** (in 1570).

Ryhor Chadkievič, the Byelorussian Orthodox magnate, was an outstanding military leader as well as disseminator of popular learning and defender of Orthodoxy in Byelorussia. A man of tolerant religious views and a humanist, he was a typical representative of 16th-century Byelorussia's intellectuals.

As early as 1561, Ryhor Chadkievič undertook the task of collecting manuscripts of Orthodox books having in mind their publication. Several years later he was able to carry out his plans by establishing a printing house in Zabłudava using the technical know-how of Ivan Fedarovič (Fedorov) and Piotra Mścisłaviec. By publishing Orthodox books Hetman Chadkievič strove to protect Orthodoxy from the ideas of the Reformation, then being widely propagated in the Grand Duchy of Lithuania.

Hetman Chadkievič was the initiator, owner, and **spiritus movens** of the Zabłudava printing house and the chief editor of the books published there. Attribution by some authors of such a role to Ivan Fedarovič is without foundation. In Zabłudava Ivan Fedarovič and Piotra Mścisłaviec were merely technical executors of the Hetman's plans and his will; there they were printers, not publishers, or editors.

---

[1] Włodzimierz Dworzaczek. Genealogia. Tablice. Instytut historii Polskej Akademii Nauk. Warszawa, 1959. Tablica 160.

[2] Articuli Constitutionum Bellicarum Magni Ducatus Lituaniae... Illustr. Domino Gregorio Chodkiewicio... (Alexander Gwagnini. Sarmatiae Europeae descriptio. Cracovia, 1576).

[3] Рэпрадукцыя партрэту: Ул. Сядура. Вытокі беларускага мастацтва („Запісы", кн. 2/4, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью Ёрк, 1953, б. 84).

[4] Ікона Ананіі рэпрадукаваная й апісаная ў: Charles Cahier. Monument Slave Religeux (Mélanges d'Archéologie, d'Histoire et de Littérature, Vol. I. Paris, 1847-1849, p. 127-149. Planche XXV). Апісаньне іконы ёсьць таксама ў: Алексей Сергеевич Уваров. Резная икона „Премудрость созда себе дом", принадлежавшая пинскому князю Феодору Ивановичу Ярославичу, 1499-1522 (А. С. Уваров. Сборник мелких трудов, том I. Москва, 1910, б. 141-151). Рэпрадук-

цыя іконы ёсьць таксама ў: Беларуская савецкая энцыклапедія, т. I. Мінск, 1969, б. 317).

[5] Акты издаваемые Коммиссией для разбора древних актов в Вильне, т. XI. Акты Главного Литовского Трибунала, т. 2. Вильно, 1880, б. 36-38.

[6] Л. А. Юзефович. Миссия Исайи (1561 г.) и Остафий Волович („Советское славяноведение", № 2. Москва, 1975, б. 76.

[7] Археографический сборник документов относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. IX. Вильно, 1870, б. 58-63.

[8] Stanislaw Kazimierz Kossakowski. Monografie historyczno-genealogiczne niektórych rodzin polskich, t. 3. Warszawa, 1859-1872.

[9] А. И. Миловидов. Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской Публичной Библиотеки (1491-1800 гг.). Вильна, 1908, б. 15.

[10] Я. Л. Неміроўскі. Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец у Беларусі (450 год беларускага кнігадрукавання. АН БССР. Мінск, 1968, б. 153).

[11] Matys Strykowius. Napis na grobie Jaśnie Wielmożnego Pana GREHORA CHODKIEWICA, Pana Wileńskiego, najwyższego Hetmana Wielkiego Księstwa Litewskiego, etc, etc. (GONIEC CNOTHY. W Krakowie, 1574. Перадрук: Maciej Stryjkowski. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi, t. II. Warszawa, 1846, 558-561).

[12] Л. А. Юзефович, тамсама, б. 73.

[13] Д. И. Абрамович. К литературной деятельности мниха Каменчанина Исайи (Памятники древней письменности и искусства, т. 181. С.-Петербург, 1913. Таксама: Список з православного списка Исаина (Чтения в Обществе истории и древностей российских. Москва, кн. I, отд. 5, 1883 г.).

[14] Тамсама.

[15] И. В. Новосадский. Возникновение печатное книги в России в XVI в. (У зборніку: Иван Федоров первопечатник. Академия наук СССР. Институт книги, документа, письма. Москва-Ленинград, 1935, б. 56).

[16] Фатаперадрук паслоўя Івана Федаровіча Масквіціна да львоўскага Апостала 1574 г. у зборніку: У истоков русского книгопечатания. АН СССР. Москва, 1959, б. 238.

[17] Фатаперадрук тэксту прадмовы Рыгора Хадкевіча ў вышэй названым зборніку, б. 225-230.

[18] J. S. G. Simmons. Early-printed Cyrillic Psalters at Lambeth and Valetta ("Solanus", № 3. London National Central Library. London, July, 1969).

[19] Археографический сборник документов относящихся к истории Северо-Западной Руси, т. IX. Вильно, 1870, б. 53-54.

[20] У истоков русского книгопечатания ... б. 225.

[21] Предословіе доктора Франциска Скорины с Полоцька в книги Первыи Царств (Книга Царств, Прага, 1518, паводле экзэмпляру Брытанскага Музэю гэтае кнігі). Пры перадруку гэтае прадмовы ў: Францыск Скарына. Прадмовы і пасляслоўі. АН БССР.

Мінск, 1969, б. 37-38, заміж „апостол Павел" як у арыгінале, надрукавана памылкова „апостол Иоанн".

[22] У истоков русского книгопечатания ... б. 226.

[23] Piotr Skarga. O jedności Kościoła Bożego. Kraków, 1885, 244.

[24] Tadeusz Wasilewski. Рэцэнзія на: Marceli Kosman. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej ("Kwartalnik historyczny". Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk, № 1, 1975, 175).

[25] У истоков русского книгопечатания ... б. 229-230.

[26] А. А. Сидоров. Узловые проблемы и нерешеные вопросы истории русского книгопечатания („Книга", сб. IX. Москва, 1964, б. 31).

[27] Б. В. Сапунов. Первопечатник Иван Федоров как писатель (Труды Отдела древнерусской литературы, т. 14. АН СССР. Институт русской литературы. Москва-Ленинград, 1958, б. 271)).

[28] Я. Л. Неміроўскі. Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец у Беларусі ... б. 153.

[29] Е. Л. Немировский. Начало книгопечатания на Украине. Иван Федоров. Москва, издат. „Книга", 1974, б. 158.

[30] У истоков русского книгопечатания ... б. 231.

[31] И. Каратаев. Описание славяно-русских книг напечатаных кирилловскими буквами, т. I. СПБ, 1883, б. 170.

[32] Nowy Testament znowu przełożony ... przez Simona Budnego. Łosk, 1574. Перадрук прадмовы: Henryk Merczyng. Szymon Budny. Kraków, 1913, 131.

[33] У истоков русского книгопечатания ... б. 239.

[34] Я. Л. Неміроўскі. Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец у Беларусі ... б. 153.

[35] Б. В. Сапунов, тамсама, б. 270.

[36] Я. Л. Неміроўскі. Іван Фёдараў і Пётр Цімафееў Мсціславец у Беларусі ... б. 153.

[37] Е. Л. Немировский. Начало книгопечатания на Украине ... б. 177.

[38] А. С. Зернова. Типография Мамоничей в Вильне („Книга", сб. I. Москва, 1959, б. 182).

[39] А. А. Сидоров. Древнерусская книжная гравюра. АН СССР. Москва, 1951, б. 92. Там рэпрадукцыі ды вопіс дрэварытаў заблудаўскіх выданьняў, б. 88-98. Дрэварыты, шрыфты й графічныя аздобы заблудаўскіх выданьняў рэпрадукаваныя й апісаныя і ў кнізе: Яким Запаско. Мистецька спадщина Івана Федорова. Львів, „Выща школа", 1974.

[40] Е. Л. Немировский. Начало книгопечатания на Украине ... б. 158.

[41] Я. Д. Ісаєвич. Першодрукар Іван Федоров і виникнення друкарства на Україні. Львів, „Вища школа", 1975.

[42] Е. Л. Немировский. Начало книгопечатания на Украине ... б. 45.

[43] Тамсама, б. 59.

# ФУНДУШОВАЯ ГРАМАТА ГЭТМАНА РЫГОРА ХАДКЕВІЧА

**Дадзеная 7 чырвеня 1563 году***

Григорій Александрович Ходкевич — пан Виленскій,[1] гетман найвысшій великого князства Литовского, староста Городенскій, державца Могилевскій, ознаймуем сим нашим листом, иж за волею Бога милостивого, а ку розмноженью хвалы его светое, а для збиранья и богомолья людей народу хрестіянского, заложили и збудували есьмо церковь на честь и на хвалу Господу Богу в именью нашом отчизном в месте Заблудовском, на паметь успенія пречистое Богородицы и светого великого чудотворца Миколы, до которое церкви обрали есьмо и встановили свещенником на имя Остафіа Григоревича а діякона на имя Ивана, брата его; придали есмо им на пашню земли свещеннику две волоки, а діякону волоку третюю, а на збудованье и постановенье дому поповского в месте нашом Заблудовском поблизу церкви дали есмо ему плац на улицы, которая идет от двора до церкви, мимо сажавку, и тому первей сего поступили есьмо были з двора нашого десятину давати на тую церковь: жита коп тридцать, пшеницы коп десять, ячменю коп десять, гороху коп пять, а гречихи коп двадцать, а плебану Заблудовскому потомуж з двора нашого десетины давано.

Ено иж в том же месте нашом Заблудовском збудовали есьмо шпиталь при церкви русской[2] для людей убогих, так закону греческого, яко и римского, тогды тую десетину з двора нашого обернути есьмо велели на шпиталь и за тую десятину з двора нашого на тот шпиталь мает быти давано на год жита бочок шестьдесят, ечменю бочок петнадцать, гороху бочек шесть, а гречихи бочок двадцать; и мает быти встановено над тым шпиталем на кождый год по два радских[3] з места, которые радскіе по году кольку мают тут шпиталь заведати и всякого порадку в нем догледати; а людей убогих до того шпиталя мают примовати, так закону грецкого, яко

---

* Перадрук з: Акты издаваемые Коммиссией для разбора древних актов в Вильие, т. XI. Акты Главного литовского трибунала, т. 2. Вильно, 1880, б. 36-38.

и римского, одною старых, недужих, хорих, немочных, хромых, невидущих, которые бы вже до работы негодилися и тою живностью их мает быти кормлено; а к тому прибавляти собе будут з ялмужных.

А на то местце устрояю благо церковное: так есмо постановили и зоставуем, иж вси подданые наши того именья нашого Заблуденского, яко люди тяглые[4] з волости, так и мещане з волок местских повинни будут на год давати и десятину з волоки зуполное: жита пул копы; и так то есьмо на сесь час подлуг волок теперь оселых, окром того, што еще на прод осести могут ошацовали, иж вчинит тое десятины с подданых: жита коп двесте, а ечменю коп двесте на год. Которую десятину з волок мещанских мает войт местскій выбрать, а з волок тяглых, з волости под ведомом врадничим лавника выбравши; на одно местцо мают зложити, и тая десятина мает быти разделена тым обычаем: свещеннику рускому[2] жита дати коп пятьдесят, а ячменю коп пятьдесят, дьякону жита коп пятьдесят, а ечменю коп пятьдесят, плебану до костела римского тоеж десятины, жита коп петьдесят, а ячменю коп пятьдесят. А к тому две волоки томуж плебану на пашню од нас приданных, и пляцов при костеле пять вольных.

А што ся зоставает тое десятины жита коп петьдесят, то мает быти на пол розделено, жита коп двадцать и пять, а ечменю також коп двадцать и пять ма быть дано уставнику,[5] который иж бы при церкви уставичне был установеный человек грамоте умелый и церкви пильный, а другую половицу того остатку тое десятины жита коп двадцать пять, а ечменю коп двадцать пять мает приходити и давано быти мистру[6] при костеле римском, а они за то послуги своее костельное мают быть пильни и к тому мают на науце детей держати.

Над то, што есьмо еще засаживаючи знову место нашо Заблудовское, так есмо постановили и на листе на дате нашой им даной то описали: иж мают и повинни будут вси мещане з домов их местских по чотыры гроши коледы платить, так на попа русского,[2] яко и на плебана, ено и теперь на том зоставуем, иж все мещане места нашого Заблудовского закону грецкого и римского подлуг листу их мают тую коляду з дому з плацу зуполного по чотири гроши давати, а то з них мает выбирати войт местскій и розделити то мает на трое, часть одна попу русскому,[2] а другая часть діякону, а третяя часть плебану. И вжо тот подарок около тое десятины и зоставенье нашо мает быти на вси потомные часы держано и ничим не мает быти зрушивано.

Также и з волок и з плацов, на оселенье попу, плебану и діякону от нас даных, не мают и не будут повинни чиншу, або плату ни которого на нас платити и давати, але будут повинни, уживаючи того хлеба, справы церковное, яко на

свещенников прислушит, быти пильны, а за господара[7] и за нас Бога милостивого просити, а людей до тое Божое церкви и до костела приходячих не мают на них незбожных вымыслов вымышляти и от проводу, также и од упису не мают по многу брати, але побожне в том, яко и о инших речах духовных мают ся так заховати, то есть: от проводу грошей шесть, от упису в суботник грошей дванадцать, окром если хто по доброй воли што отпишет, то будет на его воли, од венчанья мает брати по грошу, а од хрыщенья дитяти грош. Тым же обычаем и в инших речах и справах духовных заховатися мают, а вбогих людей и который бы не мел чого дати, яко од проводу, од венчанья, од хрыщенья дитяти и од инших духовных справ, тогды то все повинен будет свещенник без заплаты чинити, а од мейсца, яко первей вымыслы чинивано и о то ся торговывано при хованью тела змерлых людей, тогды то вже большей не мает быть чинено.

И на то дали есмо свещеннику и діякону Заблудовскому, вышей писаным, сесь наш лист з нашею печатью и с подписаньем власное руки нашое. Писан у Белявичах, лета Божого на рок тысеча пятьсот шестьдесят третій, месяца Іюня семого дня. У того листу над печатью малою напись наверху: Locus sigilli,[8] а подпись рук тыми словы: Грегорей Ходкевич — пан Виленскій, гетман.

---

[1] пан Виленскій — віленскі кашталян, гараднічы.
[2] русскій — усюды ў значаньні „праваслаўны".
[3] радскія — сябры меставае рады.
[4] люди тяглыя — людзі прыгонныя.
[5] уставник — настаўнік.
[6] мистр — настаўнік.
[7] за господара — за вялікага князя літоўскага.
[8] Locus sigilli — месца пячаткі.

## 1563 FUNDING CHARTER OF RYHOR CHADKIEVIČ

**Summary:** The original Byelorussian text of the funding charter by which Hetman Ryhor Chadkievič provided a livelihood for the priests of the Orthodox parish in his familial township of Zabłudava, as well as for the rector of the Catholic church, the school teachers at both churches and for the home for the elderly and infirm. The charter also specifies the fees which the priests were allowed to charge their parishioners for religious services rendered. The charter is a vivid testimony of the religious tolerance typical of Byelorussia in the 16th and earlier centuries.

# МУЗЫЧНАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ Э. ЗУБКОВІЧ

## Да 80-годзьдзя кампазытара, пэдагога, музыкаведа

**Алесь Карповіч**

Імя Эльзы Зубковіч добра ведамае грамадзтву. На працягу блізу 20 гадоў бярэ яна дзейны ўдзел у музычным жыцьці як выканальніца твораў собскіх і іншых аўтараў ды як узгадавальніца новага пакаленьня піяністых. Энэргія Эльзы Зубковіч запраўды невычарпальная: не зважаючы на немалады ўжо век, яна поўная творчых задумак, усё праўдзіва мастацкае ў паэзіі адразу-ж выклікае ў яе музыкальную рэакцыю, усе музычна грамадзкія падзеі — інтэнсыўны рэзананс.

Якраз апошнімі гадамі выдадзеныя фартапіянныя прэлюдыі Эльзы Зубковіч, ейныя зборнікі рамансаў на словы расейскае паэткі Ірыны Сабуравае й беларускіх паэтаў, у якіх дасьпелае майстроўства спалучаецца із сьвежасьцяй і беспасярэднасьцяй успрыняцьця. Тут, у Амэрыцы, на сваёй другой бацькаўшчыне, куды яна прыбыла ўжо закончаным музыкаю, ёй удалося поўнасьцяй разгарнуць свой творчы дар, які раней у моц няспрыяльных жыцьцёвых умоваў ня мог інтэнсыўна выявіць сябе, хоць нахіл да кампазыцыі яна адчувала яшчэ з маленства.

Эльза Рабэртаўна Пілеман (дзявоцкае прозьвішча) нарадзілася ў Менску ў 1895 годзе. Бацька ейны, доктар мэдыцыны, любіў музыку й добра ведаў яе. У дзяўчынкі ўжо з маленства выявіліся вялікія музычныя здольнасьці. Яна ўдала падбірала на раялі пачутыя мэлёдыі і тут-жа імправізавала на тэмы гэтых мэлёдыяў, прыдумвала да іх собскія гармоніі й тварыла маленькія фартапіянныя п'ескі. Яшчэ да пачатку сыстэматычных заняткаў з настаўніцай музыкі ў яе ўжо быў собскі „Дзіцячы музыкальны альбом". Усе навокала бачылі ў ёй будучага кампазытара, і гэта было ейным запаветным лятуценьнем. Нажаль, у Менску гэнымі часамі ня было дазнанага пэдагога для музыкальна-тэарэтычных дысцыплінаў і кампазыцыі, і дзяўчынка вучыцца толькі як піяністка, неўзабаве дасягнуўшы ў гэтай галіне значных удачаў.

Скончыўшы ў 1914 годзе на выдатна Менскую музычную школу, маладая піяністка пачала рыхтавацца ў кансэрваторыю, але Першая Сусьветная вайна перашкодзіла гэтаму. Яна засталася ў Менску, працавала ў шпіталі, дзе ейны бацька быў галоўным лекарам. Але шчасьлівы выпадак дапамог працягваць музычную асьвету. З выдатным піяністым-пэдагогам Георгіем Жураўлёвам, прафэсарам Варшаўскае кансэрваторыі, які прыбыў у Менск дзеля адбыцьця там вайсковае службы, за чатыры гады яна прайшла поўную праграму кансэрваторыі для фартапіяна, часта выступаючы ў канцэртах камэрнае музыкі як салістка.

Аднак, музычна-выканальная кар'ера мала прываблівала маладую піяністку. Цягнула да кампазыцыі. Узьнікалі ўсё новыя творы, галоўна прэлюдыі для фартапіяна, і, пры павышаных крытычных вымогах да сябе, усё больш адчуваліся прабелы ў музычна-тэарэтычнай асьвеце. Выпадак памог і тут.

У 1920 годзе, у часе польскае акупацыі Менску, яна часта выступала на канцэртах акампанюючы выдатным польскім салістым. Адным з арганізатараў канцэртаў быў тады ведамы польскі лекар, музыка й грамадзкі дзеяч, доктар Урштэйн. Даведаўшыся пра цяжкасьці маладое піяністкі, ён параіў ёй паехаць у Бэрлін да вядучага прафэсара-тэарэтыка Бэрлінскае кансэрваторыі, кампазытара Паўля Юона. З дапамогаю др. Урштэйна Эльза Пілеман дамаглася ад польскіх уладаў дазволу на выезд і , у тым-жа 1920 годзе, прыбыла ў Бэрлін, з сабою прывязла яна й некаторыя свае фартапіянныя творы.

Прафэсар Юон быў выдатнаю фігурай на музычным кругаглядзе таго часу. Швайцарец з паходжаньня, расеец паводля месца нараджэньня (Масква, 1872 год.) і музычнае асьветы, ён у маладосьці быў пэдагогам у клясе скрыпкі й кампазыцыі ў Баку, а ў 1897 годзе перабраўся ў Бэрлін, дзе пражыў блізу ўсё сваё жыцьцё. Толькі апошнія гады правёў у Швайцарыі, дзе й памёр у 1940 годзе. Апрача музычна-тэарэтычных падручнікаў, Юон пакінуў па сабе даволі вялікую творчую спадчыну, галоўна камэрнага жанру — квартэты, квінтэты, санаты й канцэрты для скрыпкі й іншых солявых інструмэнтаў — з уплывамі Брамса, ягонага ўлюбёнага кампазытара, любасьць да якога ён прышчапіў і сваёй вучаніцы.

Пад кіраўніцтвам прафэсара Юона маладая піяністка вывучала музычна-тэарэтычныя дысцыпліны й тэорыю кампазыцыі. Стараючыся ўсяляк пашырыць свой музычна-навуковы кругагляд, яна слухала на Тубінґенскім унівэрсытэце лекцыі прафэсара Карля Гассэ, аднаго з выдатных вучняў М. Рэґера, а ў далейшым — ягонага біёграфа. Тэмамі лекцыяў былі: гарманічная сыстэма Рэґера, сымфанізм Бэтховэна, творчасьць Брукнэра ды іншае. Гэты пэрыяд напружа-

нае навукі даў ёй глыбокія музычна-тэарэтычныя веды й шырокую піяністычную практыку.

Вынікі заняткаў з прафэсарам Юонам былі нагэтулькі выдатныя, што ён прыняў маладую студэнтку ў сваю кампазытарскую клясу Бэрлінскае кансэрваторыі з прызначэньнем ёй стыпэндыі. Здавалася-б, што ўсё складалася як нельга больш шчасьліва, але жыцьцё зноў павярнула ўсё ў іншы бок. У Менск вярнуліся бальшавікі, памёр бацька, і маці апынулася матар'яльна ў зусім бязвыходным стане. Давялося адмовіцца ад лятуценьняў стацца кампазытарам, трэ было варочацца ў Менск, каб падтрымаць маці.

Сьпешна ,ізноў-жа на рэкамэндацыю Юона, яна была дапушчаная да выпускных экзаменаў у Штутґардскай кансэрваторыі як экстэрн, паколькі ў Бэрліне экстэрны да экзаменаў не дапушчаліся. Калі ў травені 1922 году дастала дыплём піяніcткі-пэдагога, яна адразу вярнулася ў Менск, дзе стала пэдагогам музычнае школы. Больш з прафэсарам Юонам ёй не давялося сустрэцца, але на ўсё жыцьцё яна запамятавала ягоныя словы: ,,Не бядуйце, калі нат на даўгія гады Вам будзе суджана адыйсьці ад кампазыцыі. Памятайце ўсё жыцьцё, што талент ніколі не прападае, калі навет шмат гадоў ён маўчыць і ў бязьдзейнасьці. Будзеце тварыць музыку на старасьці гадоў зь сівымі валасамі!'' Гэта былі прарочыя словы.

Працаваць у Менску ў музычнай школе, пасьля-ж у тэхнікуме й кансэрваторыі даводзілася ёй вельмі шмат, паколькі плата пэдагогам была нявысокая. Ня шмат справа зьмянілася й тады, калі выйшла замуж, бо мужа ейнага, як сына сьвятара, не дапушчалі да працы, якая адпавядала-б ягоным здольнасьцям. А калі яна сталася маці дзьвюх дочак, клопаты пра іхную асьвету й хлеб штадзённы адсунулі на задні плян творчыя імкненьні. І ўсё-ж яна давала рады знаходзіць час і для творчасьці.

Ейны зборнік апрацовак беларускіх народных песьняў у выглядзе пэдагагічных лёгкіх фартапіянных п'есаў дастаў пахвалу кампазытара Залатарова і, зь ягонай рэкамэндацыяй, быў зданы ў Дом друку для выданьня, але згарэў разам з Домам друку першымі-ж днямі нямецка-савецкае вайны. З рамансаў на тэксты беларускіх паэтаў шмат якія былі забракаваныя, паколькі аўтары словаў падпалі пад рэпрэсіі й былі сасланыя. Некаторыя мэлёдыі з гэных рамансаў, што не пабачылі сьвету, Эльза Зубковіч выкарыстала і ў увэртуры для беларускіх народных інструмэнтаў. Гэная ўвэртура, пад загалоўкам ,,Будаўніцтва'', часта выконвалася на сельскагаспадарскай выстаўцы ў Менску на пачатку 30-ых гадоў. Ноты ўвэртуры загінулі ў часе вайны.

На даваенны пэрыяд прыпадае й музыкаведная дзейнасьць Эльзы Зубковіч. Працуючы ў Беларускай Дзяржаў-

най Кансэрваторыі, яна стаяла на чале катэдры агульнага фартапіяна і, пад ейным кіраўніцтвам, катэдра гэтая з другараднае інстытуцыі ператварылася ў запраўдную навуковадасьледніцкую ўстанову. Маючы вялікую пэдагагічную нагрузку, Эльза Зубковіч адначасна вяла паважную музыкаведную працу ды здолела ўцягнуць у яе іншых сяброў катэдры.

У 1934 годзе яна напісала вельмі дэтальна апрацаваны рэфэрат пра творчасьць Брамса. Рэфэрат быў прачытаны на паседжаньні катэдры й здабыў вялікую пахвалу збоку дырэкцыі й выкладніцкага пэрсаналу. За гэтую працу Эльза Зубковіч дастала тытул дацэнта. Ёй было даручана напісаць кнігу аб фартапіяннай творчасьці Брамса і для гэтага яе накіравалі ў Маскву. Там, на аснове сабранага ў бібліятэках матар'ялу яна напісала колькі разьдзелаў кнігі, якія прачытала на паседжаньнях катэдры гісторыі музыкі Маскоўскае кансэрваторыі. Гэтую працу катэдра прызнала за аснову дысэртацыі, якую Эльза Зубковіч павінна была бараніць у лістападзе 1941 году.

Савецка-нямецкая вайна, што пачалася ў чырвені таго-ж году, зруйнавала гэтыя пляны. Пачалося галоднае, халоднае й поўнае хваляваньняў ды клопатаў жыцьцё. Эльза Зубковіч, маючы веду нямецкае мовы, дзе й чым магла, дапамагала сваім суродзічам у дачыненьнях зь нямецкімі ўладамі. Шмат хто й цяпер прыгадвае яе за гэта цёплым словам.

Па вайне Эльза Зубковіч апынулася разам зь сям'ёю ў Нямеччыне. Тут яе напаткала вялікае гора: памёр муж, падарваўшы ў умовах савецкага жыцьця сваё здароўе, пакінуўшы яе зь дзьвюма дочкамі школьнага веку. Ды й гэта яе не зламала. Яна ня толькі добра ўзгадавала сваіх дзяцей, — адна зь якіх, Ліза Маркоўская, сталася з часам ведамай і ўлюбёнай у Амэрыцы сьпявачкай, — але й разгарнула інтэнсыўную музычна-пэдагагічную дзейнасьць.

Як пэдагог, Эльза Зубковіч здабыла сабе імя яшчэ ў часе працы ў Менску. Чульліва й абярэжна падыходзячы да кажнага вучня, яна заўсёды імкнулася разьвіць ягоную выканальніцкую індывідуальнасьць, знаходзячы кажнаму адпаведны пэдагагічны спосаб і рэпэртуар. Часта яна сама піша для сваіх вучняў невялікія фартапіянныя пэдагагічныя п'есы, з шырокім выкарыстаньнем народных мэлёдыяў. Выданьне зборніка гэткіх п'есаў для пачынаючых (азагалоўленага „Першыя радасьці") даўно ўжо стаіць на парадку дня. Зборнік гэты — вынік шматгадовага абагульненьня асноваў і дазнаньня музычна-ўзгадавальніцкае дзейнасьці — будзе бясспрэчна каштоўным укладам у фартапіянна-пэдагагічную літаратуру.

Яшчэ й цяпер Эльза Зубковіч дастае лісты ад сваіх былых вучняў, што засталіся па тым баку. „Вы зрабілі для мяне ў музыцы гэтак шмат, што я прыгадваю Вас заўсёды зь

вялізарнейшай удзячнасьцяй. Асновы, закладзеныя Вамі, сталі мне ў добрай прыгодзе на маім прафэсійным шляху. Зь вялікай адлегласьці часу ўсе ацэнкі стаюцца рэльефнейшымі, і я, прааналізаваўшы, прыйшла да высновы, што Вашая праца са мною была самай каштоўнай", піша Эльзе Зубковіч адна зь ейных былых вучаніцаў у Менскім музычным тэхнікуме, цяпер дацэнт і заслужаная дзеячка мастацтваў Малдаўскае ССР.



**Праф. Эльза Зубковіч з кампазытарам Алесем Карповічам**

Зь вялікага ліку вучняў Эльзы Зубковіч у Нямеччыне выдзяліўся сваім нязвычайным піяністычным дарам нямецкі хлопчык Ганс Штэгер, які пасьля чатырох гадоў заняткаў зь ёю бліскуча скончыў кансэрваторыю ў Мюнхэне ды стаў выдатным піяністым і пэдагогам. Ён выкладае цяпер на вышэйшых навучальных установах Нямеччыны й Злучаных Штатаў Амэрыкі, зь вялікай удачай выступае на канцэртах.

Не пакінула пэдагагічнае дзейнасьці Эльза Зубковіч і ў Амэрыцы. Пад ейным умелым кіраўніцтвам узгадоўваюцца маладыя піяністыя, на выпускных канцэртах яны паказваюць свае дасягненьні. Сама яна таксама выступае на канцэртах, чытае лекцыі пра кампазытараў з собскімі музычнымі ілюстрацыямі, піша рэцэнзіі на канцэрты, рэдагуе кнігі. І тут, у Амэрыцы, ужыцьцёвіліся прарочыя словы прафэ-

сара Юона, сказаныя на разьвітаньні із сваёй вучаніцай. Жыцьцёвыя нягоды не заглушылі таленту.

Пасьля галодных і халодных ваенных і паваенных гадоў, апынуўшыся ўрэшце ў спакойных людзкіх умовах жыцьця, Эльза Зубковіч зноў варочаецца да творчае працы. Больш за ўсё яе прыцягвае жанр фартапіяннае й вакальнае мініятуры. Узьнікаюць цыклі фартапіянных прэлюдыяў, пэдагагічных п'есаў, зборнікі рамансаў, апрацоўкі народных песьняў. Гэтыя творы часта выконваюцца на акадэмічных вечарох і вучнёўскіх канцэртах.

Вельмі плённым было для Эльзы Зубковіч знаёмства з паэзіяй расейскае паэткі Ірыны Сабуравае. Вынікам іхных творчых сустрэчаў стаўся зборнік рамансаў „Осенние падают листья", выдрукаваны ў Ню-Ёрку ў 1972 годзе. Пакладзеныя ў васнову цыклю вершы Сабуравае зь ейнае кнігі „Разговор молча" датычацца да першага паваеннага дзесяцігодзьдзя — галоднага, халоднага, поўнага клопатаў, трывогаў, роспачы, і разам з тым рамантычна-напоўненага, пазначанага росквітам усіх відаў мастацтва, што дазваляла хоць на часіну забыцца пра няпрывабнасьць жыцьцёвага наваколься. Ня кажнаму ўдалося гэтак пабачыць і адчуць гэтую рамантыку цераз цьмяную прызму будзёншчыны, як Ірыне Сабуравай, і ня кажны здолеў-бы гэтак прачытаць пра яе між радкоў ейных вершаў, як прачытала ў сваёй музыцы Эльза Зубковіч.

Нідзе не пераладоўваючы агульнага вобразу й не выступаючы на першы плян, стрымана і нейк прыглушана, ейная музыка памагае зразумець паэтычны тэкст, адцяняючы тое, што недагаворана словамі. Стрыманасьць у сродках музычнага выражэньня не стварае ўражаньня манатоніі й не выключае выкарыстаньня шырокае шкалы эмацыянальных адценьняў. Кажны з васьмёх рамансаў цыклю мае свой „твар", музычны малюнак кажнага разьвіваецца паралельна да сэнсавых выгібаў паэтычнага зьместу. Гэткімі-ж якасьцямі яснасьці й даступнасьці музычнае мовы, натуральнасьцяй і гнуткасьцяй мэлядычнае лініі, выразнасьцяй фразы й шчырасьцяй настрою адзначаюцца й іншыя вакальныя кампазыцыі Эльзы Зубковіч, напісаныя на словы расейскіх паэтаў Ахматавае, Блока, Кляноўскага, маладое паэткі В. Сінькевіч. Яны заўсёды знаходзяць водгульле ў сэрцы слухача й становяць каштоўны ўклад у сучасны вакальны рэпэртуар.

У фартапіяннай творчасьці Эльзы Зубковіч, 12-цёх прэлюдыях, спалучаных у цыклі, у праграмавых мініятурах, апрацоўках народных песьняў адчуваецца ўплыў Брамса, аднаго зь ейных улюблёных кампазытараў, упаасобку — ягоныя intermezzi. Гэтае адчуваньне выклікаецца стройнасьцяй формы, характарам мэлёдыі, што ў сваёй напеўнасьці дасягае часамі да запраўднага драматызму, ды ўсё-ж далё-

кай ад экзальтацыі ці імпрэсіяністычнай размыўнасьці, лёгікай танальнага пляну, сваеасаблівасьцяй гармоніі, якая хоць і ня мае мадэрністычных наслаеньняў, але заўсёды цікавая й выпраўданая. І — гэта ўжо ад Эльзы Зубковіч выканальніцы — яны запраўды плястычныя, цудоўна „кладуцца на пальцы" й добра гучаць.

Яшчэ ў маленстве, жывучы ў Менску, Эльза Зубковіч уважна прыслухоўвалася да беларускіх народных песьняў, падбірала іх на раялі. І пасьля ў ейных першых кампазытарскіх спробах, дзіцячых п'есках, часта адлюстроўваюцца інтанацыі беларускага народнага мэлясу. У часе працы ў Беларускім музычным тэхнікуме, а пасьля — кансэрваторыі, яна была добра знаёмая зь беларускімі кампазытарамі — Аладавам, Равенскім, Цікоцкім, Залатаровам ды іншымі, цікавілася іхнымі творамі, якія часта ўключала ў клясны рэпэртуар, а таксама выконвала на канцэртах.

Часта зварачалася Эльза Зубковіч да беларускае паэзіі ў сваёй вакальнай творчасьці. Як ужо адзначалася, шмат якія ейныя даваенныя рамансы на тэксты беларускіх паэтаў не дайшлі да слухачоў дзеля палітычных прычынаў. Асабліва плённай для беларускае музыкі сталася кампазытарская дзейнасьць Эльзы Зубковіч пасьля ейнага пераезду ў Амэрыку. Піша яна тут шмат кампазыцыяў на словы беларускіх паэтаў. Асабліва блізкою стала ёй паэтычная творчасьць Натальлі Арсеньневай, зь якою Эльза Зубковіч шмат працуе над стварэньнем новага беларускага песеннага канцэртнага рэпэртуару. Шмат твораў Натальлі Арсеньневай, музыка для якіх напісаная Эльзай Зубковіч, можна цяпер пачуць у салёвым ці харавым выкананьні на беларускіх і міжнацыянальных канцэртах і музычных фэстывалях.

Пяць апрацовак беларускіх песьняў былі зробленыя Эльзай Зубковіч для беларускага канцэрту на Сусьветнай Выстаўцы 1964 году ў Ню Ерку, дзе яны й выконваліся. Шмат песьняў для фартапіяна, варыяцыі й фантазіі на беларускія народныя песьні, часта выконвалася на акадэмічных і вучнёўскіх канцэртах. Для сваіх беларускіх вучняў Эльза Зубковіч адмыслова склала пэдагагічны зборнік фартапіянных п'есаў, у які ўвайшлі й ейныя собскія кампазыцыі, і творы іншых беларускіх аўтараў.

У 1972 годзе выйшаў друкам, выдадзены Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Ню Ёрку, зборнік рамансаў Эльзы Зубковіч „Край мой васільковы", у якім зьмешчаныя 12 песьняў напісаных на словы беларускіх паэтаў Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Міхася Кавыля, Натальлі Арсеньневай. Сваім інтанацыйным складам гэтыя творы блізкія да народнае музыкі й іх баржджэй за ўсё можна назваць „Lieder" — жанр, высокія прыклады якога пакінулі па сабе Шубэрт, пасьля-ж Шуман, Брамс, Вольф і Р. Штраус.

У аснову свайго творчага мэтаду Эльза Зубковіч не кладзе паасобных напеваў і інтанацыяў характэрных беларускай народнай песьні, хоць сям-там яны й сустракаюцца. Карыстаючыся сваёй музычнай мовай, інтанацыйна блізкой да народнае песьні, кампазытар імкнецца даць свой абагульнены музычны вобраз, які ўцелаўляў-бы творчую задуму паэты. Удалае разьвязаньне гэтага заданьня робіць зборнік каштоўным укладам ня толькі ў беларускую вакальную культуру.

Беларускія рамансы Эльзы Зубковіч, як і ейныя іншыя вакальныя кампазыцыі, удзячны матар'ял для выканаўцаў. Кампазытар добра ведае й адчувае музычна-выражальныя магчымасьці голасу і, незважаючы на тэхнічную нескладанасьць, у ейных рамансах шмат магчымасьцяў для выканаўца паказаць сваё валоданьне голасам не зь віртуознага боку, а ў выкарыстаньні ўсіх ягоных тэмбрава-выражальных магчымасьцяў.

* * *

„Якасьць найвышэйшая кажнага мастацтва — ягоная шчырасьць", казаў Сяргей Рахманінаў. Творчасьць Эльзы Зубковіч заўсёды шчырая, у ёй ніколі не адчуваеш хвальшу. Кампазытарка піша толькі тады, калі ёй хочацца штосьці сказаць сваёй музыкай, але гэта ня значыць, што яна імправізуе, піша без папярэдняго абдумоўваньня, бяз выношваньня ў сабе кажнага свайго твору. Творчасьць Эльзы Зубковіч заўсёды строга абдуманая, заўсёды фармальна закончаная. Яна эмацыянальная, але кампазытарка ніколі ня губляе кантролю над сваймі пачуцьцямі, творчая фантазія й пачуцьці ў яе заўсёды ў стане раўнавагі.

На заканчэньне хочацца прыгадаць словы яшчэ аднаго вялікага музыкі — Робэрта Шубэрта, які пісаў у сваёй запісной кніжцы: „Я ня люблю творцаў, жыцьцё якіх не адпавядае іхным творам". Жыцьцё й творчасьць Эльзы Зубковіч — увасабленьне гэткае суадпаведнасьці. Удумлівасьць безь непатрэбнае глыбакадумнасьці, пяшчотнасьць — без сэнтымэнтальнасьці, рамантычная прыўзьнятасьць — бяз патасу, шчырасьць, натуральнасьць і нясупыннае імкненьне да прыгаства пачуцьцяў, гукаў, думак. Усе гэтыя якасьці ейнага характару мы знойдзем у ейнай музыцы.

## ELZA ZUBKOVIČ'S MUSICAL COMPOSITIONS

**by Aleś Karpovič**

**Summary:** On the occasion of Elza Zubkovič's 80th birthday, this article traces her musical career and describes her vocal and instrumental compositions as well her activity as pianist, music teacher, musicologist, and composer.

# BYKAU'S SEARCH FOR MORAL IMPERATIVE

## His Novelette "Sotnikaŭ"

by Olga P. Orechwa

**VASIL BYKAU** (Bykov) was born on June 19, 1924, into a peasant family in the village of Byčki in Lepel district of Vitebsk oblast. After completion of the 7-year school, he studied sculpture at the Vitebsk Art School. Bykau spent the war years, 1941-1945, as a soldier and a junior officer, participated in battles, and was twice wounded. He now lives in Grodno, Byelorussia, where he has worked since 1956 on the newspaper, **Grodnenskaya pravda.**

In his literary works, written mostly on war themes, Bykau delves into the complex psychological world of the individual soldier thrown into critical situations.

Since 1949 Bykau has published a number of short stories, novelettes, and film scenarios. The best known of them are the novelettes: **Žurauliny kryk** (The Cry of Cranes) (1960); **Treciaja rakieta** (The Third Flare) (1962); **Zdrada** (Treason) (1962); **Pastka** (The Trap); (1962); **Alpijskaja balada** (Ballad of the Alps) (1964); **Miortvym nie balić** (The Dead Feel No Pain) (1965); **Praklataja vyšynia** (The Damned Hill) (1968); **Kruhlanski most** (The Bridge at Kruhlany) (1969); **Sotnikau** (1970); **Abelisk** (Obelisk) (1971); **Dažyć da svitańnia** (To Survive Until Dawn) (1972); **Voučaja zhraja** (The Wolf Pack) (1974); and **Jaho bataljon** (His Battalion) (1975).

The following books by Vasil Bykau have been published: **Žurauliny kryk** (novelette and short stories, 1960); **Chod kaniom,** (short stories, 1960); **Treciaja rakieta. Zdrada** (1962); **Alpijskaja balada** (1964); **Adna noč** (short stories, 1965); **Apovieści** (1960). His autobiography, see in the book, **Pra čas i pra siabie** ("Biełaruś" Press, Minsk, 1966, pp. 55-57).

In 1974, "Mastackaja litaratura" Press in Minsk published two volumes of Bykau's **Vybranyja tvory** (Selected Works) containing most of his novelettes and five short stories.

Vasil Bykau's literary talent, his penetrating psychological insights, and civic courage brought down the wrath of official Soviet criticism but also made him the most internationally represented writer of modern Byelorussian literature. His works have been translated into Russian, Ukrainian, Lithuanian, Latvian, Estonian, Tadzhik, Polish, Hungarian, Czech, Rumanian, Bulgarian, Arabic, Japanese, German, French, and English.

Vasil Bykaŭ is one of the best writers of Soviet Byelorussian war literature. Most of his work is written in novelette form, which Bykaŭ handles with great skill. The novelette "Sotnikaŭ" discussed here, was first published, in Russian translation, in **Novyj Mir**, № 5, 1970. It is told with clarity and honesty, and is not marred by any of the false pathos or dubious heroics common in the war books of other Soviet authors.

The story is about two Soviet partisans operating behind the enemy lines in German-occupied Byelorussia during World War II. The two men have been sent to scout for food for their partisan detachment, hidden among the forests and swamps. It is a winter's night, cold and deep in snow. The older of the two, Sotnikaŭ, is in his mid-thirties; before his capture by the Germans and subsequent escape from a prisoner-of-war camp, he was a major, a battery commander in the Red Army artillery. The hard life of a partisan has ruined his health; he is short of breath and afflicted with a persistent, racking cough.

Sotnikaŭ's companion, Rybak, ten years younger, is in better physical shape. He is also an escaped prisoner of war, and had been an infantry sergeant in the Red Army. Now on this mission, where physical stamina, knowledge of the terrain, and fast reactions are vital, it is Rybak who is the leader. Each respects the other for a particular quality: Sotnikaŭ acknowledges Rybak's strength and resourcefulness, Rybak values Sotnikaŭ's intelligence and dogged persistence. Their task is to locate an isolated farm near the edge of the forest and get some cattle to replenish their detachment's nearly exhausted food supply. When they reach the farm house they find it burned down. Disappointed and alarmed, they decide to take a risk and set off across open country toward the nearby village.

As they reach it even Rybak is tired and hungry, but Sotnikaŭ is even worse — coughing incessantly, feverish, and scarcely able to breathe. Rybak reconnoiters the first house and finds out from an old woman that there are no Germans or **Polizei** about. The old woman has no livestock, they go to the next-door neighbor, Piotra, who is the village headman appointed by the Germans, and therefore a collaborator. Sotnikaŭ remains in the house to keep a watch over Piotra's wife and Rybak takes Piotra outside where they slaughter a sheep. Sotnikaŭ is in favor of shooting the headman out of hand, but Rybak disagrees. They take the sheep and leave. Crossing a snow-covered open field, they notice two horsedrawn sleds carrying armed policemen. Weighed down by the sheep, Rybak plunges on towards the bushes, while Sotnikaŭ tired, ill, and worn out, falls in the snow. Sotnikaŭ manages to return the fire opened by the policemen, covering Rybak's retreat.

Meanwhile Rybak dumps the sheep and comes back to Sotnikaŭ's aid. They manage to force the police to withdraw, but

Sotnikaŭ is wounded. Rybak helps his injured comrade and they take the road to the next village. Slowly and with difficulty they move forward and reach a graveyard. Not far away stands the first house in the village. Rybak again scouts ahead and finds that there are only three young children alone in the house. They enter the house, and Rybak makes the wounded Sotnikaŭ as comfortable as possible. When the children's mother, called Dziemčycha, returns, she is furious with the two men for jeopardizing her and her children by selecting her house.

Rybak tries to calm her down and considers leaving Sotnikaŭ here in hiding. Voices are heard outside. Rybak and Dziemčycha help Sotnikaŭ up into the loft, Rybak climbs after him and they squeeze behind the chimney. The visitors are the police and they begin to search the house. They are about to leave when Sotnikaŭ is seized by a fit of coughing. The policemen climb to the trapdoor into the loft and order the men to come out or they will start to shoot. Rybak comes out and gives himself up, and the police drag both partisans down and out of the house.

Despite her screams, Dziemčycha is arrested too, and all three are taken to the police headquarters in the nearest town. During the interrogaton Sotnikaŭ is tortured, but he refuses to give any information at all. Rybak, hoping to avoid torture, tries to be cunning and gives a lot of information which is largely false; but the interrogator traps Rybak into saying that in return for his release he might consider turning his coat and joining the police. A new prisoner is thrown into their cell — it is old Piotra — the village headman. Now Sotnikaŭ begins to feel something like remorse at involving Piotra. A fifth prisoner arrives — a thirteen-year-old Jewish girl called Basia. The guard cheerfully informs them that they are all to be executed tomorrow.

Rybak is nagged by fear and uncertainty, not knowing whether there still is a chance for him if he volunteers to join the police. Sotnikaŭ reconciles himself to his fate and decides to make a last attempt to save the others next day by taking all the blame.

Next morning all five are led out and placed in front of the German commandant, who reads out their sentences. Sotnikaŭ steps forward and makes a self-incriminating statement which he hopes will earn the release of the others, but this attempt is disregarded. At this moment Rybak shouts out to the interrogator: "What about your promise? Will you release me if I join the police?" The interrogator confers with the commandant and Rybak is told to step out of the line of prisoners. However, he is made to march to the place of execution.

One by one the prisoners are led up to the platform, under the gallows. The first to step up on the bench is Piotra. Calmly and with dignity he bows to the people who have gathered to

watch the execution, before he puts his head into the noose. Dziemčycha screams, and appeals for mercy for her children's sake; she has to be held by force while the noose is put around her neck. Little Basia sobs in terror as she is lifted up to stand on a packing case, so that the noose reaches to her neck. Sotnikaŭ, steps up onto his log. From there he searches the crowd and sees a thin small boy wearing an old army cap, who stares up at him with a look of indescribable pain. Sotnikaŭ tries to smile back at the boy, to convey somehow an unspoken message of hope and courage. At this moment he hears at his feet a croak from Rybak, ready to pull the log away: "Forgive me, brother." "Go to hell," replies Sotnikaŭ, himself kicking the log from under his feet. The bodies are left dangling on the gallows.

Rybak, quite unthinkingly, falls in line with the policemen, and marches away. Arriving back at the compound, Rybak emerges from his numbed state and begins to realize with horror what he has done. He asks permission to go to the lavatory. Stepping into the smelly little wooden hut, he fumbles for his belt to pull it out and hang himself, but he does not find it because the belt was removed from him when he was brought to the prison the day before. Deprived of even this means of redeeming himself, Rybak stumbles out to find the police commandant waiting to enlist him.

This short synopsis of the plot does not convey the strength and power of the whole novelette; it is presented only as orientation for those who have not read this remarkable work.

From the very beginning of his writing career down to the present time, Bykaŭ has written exclusively about the war. His novelette, "Sotnikaŭ" is no exception. Bykaŭ himself admits that he has chosen to write a war story because war is the situation which places human beings in the position of being forced to make ultimate moral decisions involving the absolutes of life and death, truth and falsehood. This statement also indicates Bykaŭ's concern and preoccupation with the theme of the individual's moral responsibility and the preservation of his stature as a human being.

Bykaŭ's novelette, "Sotnikaŭ" has universal validity; its view of human consciousness is infinitely more searching and profound than the customary superficialities of "Socialist realism" that are prescribed for Soviet writers. Bykaŭ presents the extreme and most telling example of a situation of choice when his hero consciously reaches a decision to sacrifice himself for others in such a way that this act acquires the highest moral significance. The novelette is so constructed as to emphasize man's obligation to act with dignity and courage despite demanding circumstances.

Bykaŭ's characters are totally credible, an uneven amalgam of good and bad, strength and weakness; the reader cannot foresee who of the two main heroes is prone to moral collapse. Packed with keen observation of character, Bykaŭ's story tells us a great deal about his heroes by the careful recording of their behavior. There is no preaching or comment in Bykaŭ's narrative method; the accent falls on the inner, ethical life of man, on the ethical decisions which he cannot always express outwardly.

Of the two main heroes Sotnikaŭ is more capable of self-evaluation and self-criticism than Rybak. Throughout the narrative Sotnikaŭ lives through a painful process of growing self-criticism, in which he grows in moral understanding of the question of civic courage and man's personal dignity. Rybak, too, from the beginning of the story is an assertive moral being possessed of a plain code of human decency and tolerance. It was Rybak, for instance, who disagreed with Sotnikaŭ's intention to kill the village headman Piotra. But at a time of personal danger, Rybak is unable to subordinate his personal interest in survival to an act of solidarity with his fellow-victims.

For both men, Sotnikaŭ and Rybak, their capture by the police is a painful disgrace. But for Sotnikaŭ this is the starting point of a growth in moral stature that enables him to recognize his duty toward himself and his fellow-men. As for Rybak, consumed from this point on by concern for his own survival, he chooses to ignore his own rapid moral downfall. Rybak collapses under the pressure of interrogation and violates the rules of human moral conduct. When Rybak decides to be cunning and provide his interrogator with information, he cancels his membership in the partisan community and relinquishes his moral responsibility. His action is bred of cowardice and conceit, and in the process he prepares his own destruction. He abdicates any concern for those who share his lot and concentrates solely on his own fate.

Sotnikaŭ does not openly condemn Rybak, but instead leaves him prey to the doubts and uncertainties that will finally destroy him. Moreover, by kicking the log from under his own feet, Sotnikaŭ saves Rybak from the guilt of direct responsibility for Sotnikaŭ's death. Throughout the narrative the main focus remains on Sotnikaŭ. In his last act of taking the blame and attempting to save the others, he bears witness to the conviction that nothing absolves the individual of his obligation to act with dignity and courage, even when the assertion of those values that give meaning to life does not guarantee physical survival. In the case of Rybak, his survival is a commentary on the delusion that he has escaped the threat of death. The attempt to hang himself points up Rybak's realization of the appalling consequences of his own cowardice.

Sotnikaŭ's and Rybak's behavior resolves itself into the crucial question: *what is man's duty to himself and his fellowmen?*

In search of moral truth, Bykaŭ posits the supremacy of behavior; his ideal is the man whose conduct is based on subordinating his own personal interest to an overriding moral imperative. Bykaŭ makes the point that the individual himself is the author of the rules that govern his behavior and that he alone is responsible for determining whether his life will be "something worthwhile". The individual who is either unable or unwilling to act in accordance with his conscience will abandon his duty as a moral being, and in his dereliction will become an agent of harm. Man builds his private world as he acts out his drama against external forces, but the common humanity that binds him to his fellowmen demands allegiance to the values which give it meaning.

In Bykaŭ's novelette the moral content, however, is more an exploration of a problem than a suggested solution. Although it clearly involves the plight of people living in time of war in enemy-occupied territory, it has universal relevance in its portrayal of oppression of the weak by the powerful. What is also very important is that Bykaŭ's moral views are inherent in the nature and actions of thoroughly believable characters.

A distinctive note in the novelette "Sotnikaŭ" — a rare feature in a Soviet published work — is Bykaŭ's positive attitude toward Jews; he is not tolerant but compassionate with the situation of the Jews. In more than one instance Bykaŭ reminds his reader of the degree to which the Soviet Jews suffered under German occupation and this concern is integrated into the main structure of the narrative when Basia, the Jewish girl, is subjected to the same fate as Sotnikaŭ and the two people who have, however reluctantly, helped him.

What is more, it takes considerable courage in the Soviet Union to show the **Polizei** as ordinary, dull peasant louts, no different from their brothers on the other side of the line who are dressed in Red Army khaki instead of German field grey. And although the key personage of the interrogator — a Russian — is not presented as an attracttive figure, he is nevertheless psychologically credible and has been given a certain moral consistency.

The novelette is rich in the self-observations of a man acquiring self-knowledge and a firm code of values in time of war. Bykaŭ's main point of departure is that the only ultimate justification of the unique nature of human consciousness lies in our capacity to make moral decisions independently of our personal advantage. It is undoubtedly these qualities, together with the author's unpretentious honesty, which have earned Bykaŭ a lasting place in literature.

## ПОШУКІ БЫКАВАМ МАРАЛЬНАГА ІМПЭРАТЫВУ.

### Ягоная аповесьць „Сотнікаў". Вольга Арэхва.

**Рэзюмэ:** Жахі вайны ў аповесьцях Васіля Быкава прадстаўленыя без рамантычных прыкрасаў і штучнага пафасу. За асноўную мэту Быкаў сабе ставіць паказаць перажываньні чалавека, калі кажнае часіны паграጀае сьмерць і калі абставіны вымагаюць змаганьня да апошняе мяжы людзкіх сілаў. У такім становішчы кажны сам павінен вырашаць, ці ён здольны на гэраічны ўчынак і самаахвярную сьмерць.

У аповесьці „Сотнікаў" дадзены эпізод з жыцьця партызанскага аддзелу на тэрыторыі Беларусі ў часе нямецкае акупацыі ў суровую зіму 1944 году. Два галоўныя гэроі аповесьці, Сотнікаў і Рыбак, высланыя, каб здабыць харчы для аддзелу, што ў сутычцы зь немцамі быў разгромлены ды загнаны ў глухое, засыпанае сьнегам балота. Перад чытачом два людзкія характары, пра якія загадзя ня скажаш, хто зь іх які й хто да чаго дойдзе. Чытач раскрывае маральную істоту гэрояў аповесьці толькі прасачыўшы іхныя ўчынкі.

Аўтар уцягвае чытача ў псыхалягічны працэс, які адбываецца ў душы Рыбака, калі ён даходзіць на навагі ратаваць за ўсякую цану сваё жыцьцё. Пад страхам сьмерці Рыбак губляе духовую сувязь зь людзьмі аднолькавага лёсу. Сотнікаў-жа ў бязвыхадны момант выбірае лёс засуджаных разам зь ім на сьмерць. Галоўная думка аповесьці, што маральная пазыцыя чалавека залежыць не ад абставінаў, у якіх ён апынаецца, але ад ягонай волі, ад абавязку выбіраць яе самому.

#### A Bibliography of Literary Criticism on Bykau's Works

Adamovich A., in: **Gorizonty belorusskoy prozy**, Moscow: "Sovetskiy pisatel" Press, 1974, pp. 176-263.

Adamovich A., "Tvorchestvo cheloveka," in: **Voprosy Literatury**, Moscow, 1973, № 5, pp. 134ff.

Adamovič Aleś, "Apovieści Vasila Bykava," **Połymia**, Minsk, 1973, № 10, pp. 220-238.

Adamovič Aleś, "Na biezterminovaj pieradavoj," in: **Pra tavaryšau pa piaru**, K. I. Kraucova, compiler, Minsk: "Narodnaja aśvieta" Press, 1976, pp. 208-223.

Ahiejeu I., "'Praklataja vyšynia'... 'Prapaščaja rota'... Prykry tvor," **Zviazda**, Minsk, Sept. 28, 1968.

Bondaryov Yu., "Chelovek. Voyna. Podvig," **Literaturnaya gazeta**, Moscow, 14 March 1973.

Bykau V., "Soviet 'Translations' of V. Bykau," **Facts on Byelorussia**, New York, v. I, № 6, pp. 47-50.

Bykau Vasil, "Writing in Byelorussia" (Bykau's speech at the 1966 Fifth Congress of Byelorussian Writers, translated by Michael Glen-

ny), **Partisan Review,** Rutgers University, New Brunswick, N. J. v. 34, № 2, Spring 1972, pp. 255-263.

Bykov Vasil, "Eta zhestokaya pamyat'," **Izvestiya,** March 3, 1972.

Bykov Vasil, "Podvig soldata i dosuzhiye vymysly," **Literaturnaya gazeta,** Feb. 14, 1973.

Cathala Jean, "Introduction" in: V. Bykov, **Sotnikov.** Traduit par Bernadette du Crest. Edition Albin Michel, Paris, 1974, pp. 5-14.

Dzivasił, "Vasil Bykau na usiesajuznym piśmieńnickim forumie," **Biełarus,** New York, № 216, April 1975.

Frioux Claude, "La vision tragique de Vassil Bykov," **Le Monde,** Feb. 28, 1975.

H. P., "Offensive du journal da l'armée soviétique contre les écrivains 'modernistes' accusés de calomnier les héros," **Le Monde,** Apr. 23, 1966.

Hoppe S., "Zu den neueren Erzaehlungen Vasil's Bykau's, **Zeitschrift für Slawistik,** East Berlin, Heft 5, 1974, pp. 667-680.

Kozlov I., "Podvig Sotnikova," **Literaturnaya gazeta,** Oct. 16, 1970.

Kozlov I., "V te surovyje gody," **Literaturnaya gazeta,** Oct. 2, 1974.

Kozlov I., "Pered litsom dolga," **Oktyabr',** Moscow, 1975, № 6, pp. 206-212.

Lakishik, S., "Utverzhdaya budushcheye," **Neman,** Minsk, 1975, № 3, pp. 175-177|

Macużanka Zenona, "Bykow — rówieśnik 'Kolumbów'," Warsaw, **Kultura,,** Feb. 17, 1974, № 7, p. 9.

Motyashov I., "Tak chto zhe proizoshlo u kruglanskogo mosta?" **Literaturnaya gazeta,** Jan. 7, 1969.

Naumova N., "Povesti Vasila Bykova," **Neva,** Leningrad, 1975, № 3, pp. 182-190.

Plotkin L., "Chetvert' veka spustya," **Neva,** 1971, № 9, pp. 175ff.

Smolkin M., "Z paemy čałviečych losaů. Natatki pra paetyku Vasila Bykava," **Połymia,** Minsk, 1974, № 10, pp. 220-238.

Stankievič St., "Uznou suprać V. Kykava," **Bielarus,** New York, № 147-148, Aug. 1969.

Stankievič St., "Piśmieńnicki profil Vasila Bykava," **Biełarus,** № 208, July 1974.

Tsvetkov A., "Vozmozhnosti i granitsy pritchi," **Voprosy literatury,** Moscow, 1973, № 5, pp. 152ff.

Yakimenko L., "Literaturnaya kritika i sovremennaya povest'," **Novyi mir,** Moscow, 1973, № 1, pp. 288ff.

# ПЁТРА МСЬЦІСЛАВЕЦ ДЫ ІВАН МАСКВІЦІН

**Сымон Брага**

У гадох 1974 і 1975 прыпадалі юбілейныя даты дзьвюх важных падзеяў гісторыі ўсходнеславянскага кнігадруку: 400-я ўгодкі ад выхаду ў 1574 годзе львоўскага „Апостала" Івана Федаровіча Масквіціна, першае кнігі надрукаванае на ўкраінскай зямлі, ды 400-я таксама ўгодкі ад зьяўленьня ў 1575 годзе першага віленскага выданьня Пётры Мсьціслаўца — „напрастольнага" Евангельля.

Пры нагодзе гэтых юбілейных датаў час зьвярнуць увагу на справу, якая ў літаратуры навуковай, асабліва ў публікацыях паваенных гадоў, насьвятляецца ці неадпаведна, ці й наагул хвальшыва. Ідзе тут пра розную ацэну працы й заслугаў вышэй названых выдатных майстроў кірылічнага кнігадруку ў часе іхнае супольнае дзейнасьці ў Маскве ды Заблудаве.

Здавалася-б, калі і ў пaслоўях кнігаў маскоўскіх, і ў прадмове надрукаванага разам выданьня заблудаўскага, імёны Івана Масквіціна ды Пётры Мсьціслаўца стаяць заўсёды побач, як тых, што над наладжаньнем друкарняў у Маскве ды Заблудаве й друкам там кнігаў разам працавалі, разам „трудзіліся", і ні аднаго ні другога ў прадмовах ня вырозьніваецца ані ня ўзвышаецца, дык і заслуга за нязвычайна важны гістарычнымі вынікамі друкарскі пачын павінна прыпадаць пароўну абаім, бяз вырозьніваньня таго ці іншага друкара.

Нешта зусім адваротнае даводзіцца назіраць у літаратуры пра Пётру Мсьціслаўца ды Івана Масквіціна. І ня толькі ў старых ці навейшых публікацыях папулярна-юбілейных, але ціраз і ў выданьнях, што зьяўляюцца пад імём акадэміяў навук, можна заўважыць тэндэнцыю ўсю гістарычную заслугу за запачаткаваньне кнігадруку ў Маскве прыпісваць аднаму Івану Федаровічу. Пётра-ж Мсьціславец ці адсоўваецца пры гэтым у цень, ці, — здараецца й гэтак, — і зусім не ўспамінаецца. Ягоная дзейнасьць уважаецца за дзейнасьць толькі Івану Федаровічу дапаможную й яму цалком падпарадкаваную. Ёсьць аўтары, якія Пётру Мсьціслаўца выабражаюць сабе як нейкага толькі выканаўцу задумаў і даручэньняў Івана Федаровіча.

На беспадстаўнасьць і неадпаведнасьць гэткага няроўнага трактаваньня двух майстроў кірылічнага кнігадруку зьвярнуў увагу ў публікацыі юбілейнага якраз 1975 году Я. Д. Ісаевіч:

> тры маскоўскія выданьні 1564-1565 гадоў трэ ўважаць за супольныя выданьні Івана Фёдарава й Пётры Мсьціслаўца, ня прыпісваючы іх толькі першаму зь іх. Таму цяжка зразумець, чаму й цяпер некаторыя аўтары пра Апостал 1564 г. пішуць, што ён „надрукаваны Іванам Фёдаравым".[1]

Як прыклад гэткага „прыпісваньня" Ісаевіч падае ў зносцы артыкул 1963 году ведамага ангельскага дасьледніка кірылічных старадрукаў Дж. С. Г. Сіммонса.[2] Што выдадзеную двумя друкарамі разам кнігу ангельскі аўтар у сваім артыкуле „прыпісаў" аднаму Івану Федаровічу, ня будзе аднак-жа й гэтак дзіўна, калі зьвернем увагу на тое, што так якраз у паваенныя гады ўвесь час пішуць аўтары маскоўскія. Дык Дж. С. Г. Сіммонс у гэтым выпадку толькі рэха афіцыйных паглядаў сучасных маскоўскіх гісторыкаў кнігадруку. І ў сваім артыкуле ён толькі раз, мімаходзь, ужыў ляканічную фразу: „экземпляр Апостала, напечатанного Иваном Федоровым в Москве в 1564 году", калі тымчасам у паасобных публікацыях маскоўскіх „прысвойваньне" Івану Федаровічу маскоўскіх выданьняў і ўсіх зьвязаных з гэтым заслугаў праводзіцца наважана й сыстэматычна.[3]

Яскравым прыкладам гэтага могуць паслужыць публікацыі хоць-бы маскоўскага гісторыка кірылічных старадрукаў ды іхных гравюраў А. А. Сідарава, які пра маскоўскія кнігі двух друкароў ды супольна імі надрукаванае выданьне заблудаўскае, піша блізу вылучна, як пра друкарскае дасягненьне аднаго Івана Федаровіча. Публікацыі Сідарава перасыпаныя выражэньнямі: „выданьні Івана Фёдарава", „кнігі Івана Фёдарава", „Апостал Івана Фёдарава", „Часоўнік Івана Фёдарава", „шрыфты Івана Фёдарава" ды падобнымі.[4]

Дзейнасьці Пётры Мсьціслаўца ў Маскве ці Заблудаве, як дзейнасьці майстры друку паважнейшага значаньня, за падобнымі выказваньнямі ў А. А. Сідарава наагул ня відаць. У сваім-жа большым нарысе „Узловые проблемы . . .", у разьдзеле „Московский подвиг", у якім даецца разгляд пачаткаў маскоўскага кнігадруку ды які таксама перасыпаны зваротамі „Апостал Ивана Федорова", „шрыфты Ивана Федорова" ды падобнымі, імя Пётры Мсьціслаўца Сідараў ні разу навет і ня ўспомніў, як быццам-бы гэтага беларускага майстры-друкара ў Маскве пры пачатках там друку й наагул ня было![5]

Калі, тымчасам, трымацца строга паказаньняў, што дадзеныя самымі майстрамі ў надрукаваных імі разам кнігах,

правільна гаварыць заўсёды пра кнігі, шрыфты, гравюры, як супольныя плады працы Івана Федаровіча ды Пётры Мсьціслаўца. Прызнае-ж часам і А. А. Сідараў, што самі друкары сваю друкарскую працу ніколі не разьдзялялі, трактавалі заўсёды яе як справу супольную, непадзельную: „нашыя першавыдаўцы ніколі якімі-колечы дакладнымі паказаньнямі не разьдзялялі сваіх функцыяў".[6]

Навет і віленскую друкарска-выдавецкую дзейнасьць Пётры Мсьціслаўца, да якое Іван Федаровіч ня меў ужо абсалютна ніякага дачыненьня, А. А. Сідараў трактуе не як дзейнасьць самастойную, а толькі як рэалізацыю друкарска-выдавецкіх задумаў і плянаў Івана Федаровіча Масквіціна! Дык друкарскае індывідуальнасьці й самастойнасьці Сідараў Пётру Мсьціслаўцу ня прызнае навет і ў віленскую пару, хоць ведама, што сваімі высокімі ўзорамі друкарска-графічнага майстэрства плады якраз віленскае друкарска-выдавецкае дзейнасьці Мсьціслаўца мелі вялізнае ўзьдзеяньне на далейшае разьвіцьцё ўсяго кірылічнага кнігадруку, у гэтым ліку й кнігадруку Масквы. Сідараў піша:

> Бліжэйшымі пасьлядоўнікамі Івана Фёдарава... былі ягоныя „клевреты"... Гэта цiраз намі ўспамінаны Пётра Мсьціславец, што пасьля Заблудава працаваў у Вільні, ды Андронік Цімахвеявіч Нявежа, што застаўся ў Маскве. Абодва яны ня гэткія выдатныя мастакі й дзеячы, якім быў Іван Фёдараў, майстра запраўды бясьсмертны... Абодва яны працавалі над адным заданьнем — працягваць ды ўдакладніць справу Івана Фёдарава...[7]
>
> Галоўная заслуга Мсьціслаўца ў гэтым, што ён працягваў справу Фёдарава...[8]

Для ўзвышэньня Івана Федаровіча А. А. Сідараў, ды й некаторыя іншыя аўтары маскоўскія, ігнаруюць цэлы чарод добра сяньня ведамых канкрэтных фактаў. Найперш, строга бяручы, няма падставаў гаварыць пра Івана Федаровіча ці Пётру Мсьціслаўца ў Маскве ці Заблудаве як пра „выдаўцоў". Ні ў Маскве, ні ў Заблудаве, ні ў Астрогу выдаўцом Іван Федаровіч ня быў, а толькі друкаром. У пасьлоўях маскоўскіх кнігаў ясна кажацца, што выдавецтва ў Маскве было наладжанае на загад й сяродкі цара. Дык было гэта ў існасьці выдавецтва дзяржаўнае.

У Заблудаве-ж кнігі выдаваліся „повеленіем" ды „власным накладом его милости" гэтмана Рыгора Хадкевіча, а ў Астрогу — „накладом" князя Канстантына Астроскага. Выдаўцом Іван Федаровіч быў толькі кароткі час у Львове, дзе зь ягонае друкарні выйшлі два выданьні — „Апостал" ды невялічкі буквар. Дык пра гэтыя толькі дзьве кнігі правіль-

на гаварыць як пра „выданьні” Івана Федаровіча, але не пра выданьні маскоўскія, заблудаўскія ды астроскія.

Кнігі й артыкулы А. А. Сідарава ды й іншыя падобныя маскоўскія публікацыі, у якіх блізу ўся заслуга за запачаткаваньне маскоўскага кнігадруку прыпісваецца Івану Федаровічу, амаль нічога не пакідаючы Пётру Мсьціслаўцу, Я. Д. Ісаевіч пэўна-ж ведае. Калі свой дакор за нязгадваньне Пётры Мсьціслаўца як судрукара маскоўскіх выданьняў скіраваў ён аднак-жа на адрыс аднаго толькі аўтара, аўтара замежнага, Дж. С. Г. Сіммонса, гэта бадай толькі „дыпляматычны” пасярэдні спосаб крытыкі маскоўскіх якраз аўтараў, што не адзін раз і ня прыпадкам, але сыстэматычна прапагуюць думку пра мінімальную ролю Мсьціслаўца пры пачатках маскоўскага кнігадруку. Ведамая рэч, што ў СССР і ў пасталінскім часе выпадкі рэдкія, каб аўтары нацыянальных рэспублікаў асьмеліваліся адкрыта крытыкаваць расейскіх аўтараў цэнтральнае Масквы.

Тэндэнцыі ўзвысіць Івана Федаровіча Масквіціна над Пётрам Мсьціслаўцам у галіне ўжо строга друкарскага майстэрства А. А. Сідараў трымаецца, хоць і ён сам дапушчае, што рысаваньня ды гравіраваньня „фігураў” вучыўся Іван Федаровіч ад Пётры Мсьціслаўца, а не наадварот. Сідараў кажа:

> У сіле застаецца, аднак-жа, адна заўвага, выказаная першы раз А. С. Зярновай: якраз ды толькі ў супрацоўніцтве з Мсьціслаўцам Іван Фёдараў дасягаў сваіх найлепшых вынікаў. Мы-б ня зьдзівіліся, калі-б выявілася, што Мсьціславец у нейкай меры навет **вучыў** Івана Фёдарава рысунку ды гравіраваньня фігураў.[9]

Што Пётра Мсьціславец быў дасканальным майстраммастаком у выразаньні шрыфтоў, заставак, гравюраў ды адначасна зарадным друкаром, давёў ён гэта, калі пасьля пераезду з Заблудава да Вільні сам, бязь Івана Масквіціна, патрапіў стварыць камплет патрэбных для друкарні прыладаў, шрыфтоў, ініцыялаў, заставіцаў. Зусім магчыма, што гэта ён рэзаў у дрэве й знакамітыя дрэварыты для выдадзеных ім у Вільні кнігаў. Дык талентам сваіх рук Пётра Мсьціславец даў рады стварыць ды ўсім патрэбным выснасьціць зусім новую друкарню й надрукаваць раскошным „напрастольным” выданьнем Евангельле 1575 году ды кнігі іншыя.

Накш было зь Іванам Федаровічам Масквіцінам. Пасьля пераезду з Заблудава да Львова друкаваў ён там кнігі прывезенымі заблудаўскімі шрыфтамі й друкарскімі матар’яламі. Калі-ж пасьля спатрэбіліся новыя шрыфты для друку Біблії ў Астрогу, сам Іван Федаровіч, бязь Пётры Мсьціслаўца, выканаць, выглядае, іх ня мог. Давялося яму паслаць

на свой кошт на два гады на навуку да львоўскага мастака-майстры Лаўрына Піліповіча свайго маладога друкарскага памочніка, заблудаўца Грыня Івановіча. Піліповіч вучыў Грыня in arte pictoriale — мастацтва рысунку.[10]

Пасьля адбытае ў Піліповіча навукі Грынь Івановіч выразаў ды адліў шрыфты для друкарні астроскай. Крыху пазьней, у 1582 годзе, выканаў ён шрыфты й для Мамонічаў у Вільні. Пасьля працаваў ён над шрыфтамі й для плянаванае новае львоўскае друкарні Івана Федаровіча. З усяго гэтага вынікае, што сам Іван Федаровіч у галіне рысаваньня й граціраваньня бязь Пётры Мсьціслаўца быў бездапаможным і стаў цалкам залежным у гэтым ад таленту рук Грыня Івановіча Заблудаўца.

Пазнаёміўшыся з львоўскімі архіўнымі матар'яламі, у якіх ёсьць ведамкі пра навуку Грыня Івановіча ў мастака Піліповіча ды пра выконваньне ім пазьней шрыфтоў Івану Федаровічу, В. Січынскі, І. Агіенка, Н. Галубец ды іншыя аўтары, і паставілі пад сумлеў, ці Іван Федаровіч рысаваць наагул умеў,[11] бо-ж, кіруючы на свой кошт Грыня Івановіча на навуку in arte pictoriale, гэтым ён быццам прызнаваўся, што мастацкі бок друкарскае справы — рысаваньне літараў і дрэварытаў, — ня ў межах ягонае кампэтэнцыі. І Сідараў пра Івана Федаровіча кажа: „сам ён не ўважаў сябе за спэцыялістага ў галіне рысунку, быў ён ‚делатель книг', ‚друкар' ".[12]

З аднаго боку зараднасьць, якою выказаўся ў Вільні Пётра Мсьціславец пры выкананьні патрэбных для друкарні друкарскіх матар'ялаў, шрыфтоў, заставіцаў, дрэварытаў, з другога-ж канечная Івану Федаровічу дапамога Грыня Івановіча Заблудаўца ў той самай справе пры наладжваньні друкарні астроскай і другой сваёй друкарні львоўскай, наводзяць на думку, што й выглядам падобныя да літараў Мсьціслаўцавае віленскае друкарні літары кнігаў маскоўскіх — Апостала ды Часоўніка, — а таксама літары выданьняў заблудаўскіх, рысаваў ды рэзаў Пётра Мсьціславец, а ня Іван Федаровіч Масквіцін.

Дык, вынікае, ня мыляліся аўтары XIX ст. — А. Гатцук, А. Пыпын, В. Д. Спасовіч, П. В. Валадзіміраў, Е. Е. Галубінскі ды іншыя, — калі думалі, што майстэрства друку Іван Федаровіч Масквіцін вучыўся ад беларуса Пётры Мсьціслаўца.[13] Датычных да гэтага пытаньня ведамак актаў львоўскіх архіваў гэтыя аўтары яшчэ ня зналі. Сваё дапушчэньне яны высоўвалі як пастулят самое толькі лёгікі на тэй падставе, што Мсьціславец паходзіў зь Беларусі, краю, у якім друкарская справа была ведамая гадоў колькідзесят перад тым, як яна зьявілася ў Маскве.

Калі сяньня ведама, што ў часе супольнае дзейнасьці роля Пётры Мсьціслаўца ў справах друкарскага майстэрства была ня толькі ня менш важнаю за ролю Івана Федаровіча,

а, выглядае, была гэта роля майстры-настаўніка, — чаго не выключае й Сідараў, — зразумела чаму ўва ўсіх надрукаваных друкарамі разам кнігах іхныя імёны стаяць заўсёды неразлучна побач: першае, з належнаю сьвятаром пашанаю, дыякана Івана Федаровіча, а пасьля, як чалавека стану ня духоўнага, але сьвецкага, Пётры Мсьціслаўца.

Хоць усіх дэталяў пра характар працы гэтых двух друкароў падчас іхнае супольнае дзейнасьці мы ня ведаем, але й вышэй прыведзеных фактаў даволі на тое, каб усьведамляць, што няма ніякіх асноваў ставіць у галіне друкарства й мастацкае гравюры Пётру Мсьціслаўца ніжэй за Івана Федаровіча Масквіціна.

Калі прыраўнаць паслоўе Івана Федаровіча з львоўскага Апостала да паслоўяў Пётры Мсьціслаўца ў ягоных віленскіх выданьнях, можна бачыць, што Масквіцін перавышаў Мсьціслаўца сваімі літаратурнымі здольнасьцямі. У асобы стану духоўнага, што прафэсійна мела ўвесь час дачыненьне з кнігамі, гэта бадай і ня дзіва. Таму, калі ўжо шукаць нейкае перавагі Івана Масквіціна над Пётрам Мсьціслаўцам, дык выяўлялася яна ў здольнасьцях пяра, але не ў рысаваньні, не ў гравіраваньні, не ў друкарскім майстэрстве.

У Паслоўі маскоўскага 1564 году Апостала кажацца, што друкарня ў Маскве была наладжаная на загад цара Івана Васілевіча, які „нещадно даяше от своих сокровищ делателем. . . діякону Ивану Федорову да Петру Тимофееву Мстиславцу на составленіе печатному делу и к их оупокоенію".[14] І ў паслоўі да маскоўскага Часоўніка сказана, што „повеленіем благочестиваго царя" была заснаваная друкарня, у якой надрукаваная кніга Часоўнік „подвиги и тщаніем, труды же и снисканіем, діякона . . . Ивана Федорова, да Петра Тимофеева Мстиславца".[15]

З прыведзеных словаў можна бачыць, што даручэньне наладзіць у Маскве друкарню было царом дадзенае абодвум друкаром. Абодвум, не шкадуючы, выдзяляў ён для гэтага з „сваіх скарбаў" усё патрэбнае, ніводнага нічым ня вырозьніваючы. У наяве гэтых, пададзеных самымі друкарамі інфармацыяў, неабгрунтаваныя намаганьні тых сучасных аўтараў, якія, як А. А. Сідараў ды іншыя, усе заслугі за наладжаньне ў Маскве друкарскае справы прыпісваюць аднаму „бяссьмертнаму" Івану Федаровічу, робяць яе ягоным адно „делом", Пётру-ж Мсьціслаўца калі пры гэтым і згадваюць, дык вельмі рэдка, ці, часам, і наагул ня ўспамінаюць.

Калі ў выдадзеных загадам і коштам цара кнігах у недаверлівай заўсёды да людзей чужых Маскве зь імём маскоўскага дыякана называецца й імя чужынца ды чалавека сьвецкага, які прыбыў з варожае Маскве дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага, ужо само гэта довад таго, што пры за-

сноўваньні ў Маскве друкарні ды друкаваньні там кнігаў Пётра Мсьціславец ня быў нейкім вучнем-служкаю Івана Федарава. У гэткім выпадку ня было-б ніякага апраўданьне для тога, каб ягонае імя ставіць у кнігах з роўнаю пашанаю побач імя радавітага масквіча ды дыякана.

У каранёх няроўнае й несправядлівае ацэны гістарычных заслугаў двух выдатных друкароў ляжаць, бясспрэчна, патрыятычна-нацыянальныя пачуцьці. Як кажа пра Івана Федаровіча А. А. Сідараў, „его жизнь . . . нашая национальная гордость".[16] Празьмерны патрыятызм, рэч ведамая, часта ня ў сілах на аб'ектыўную ацэну фактаў, падзеяў, чалавека. Маем і яскравыя гэтага прыклады.

Калі ў 1909 годзе ў Маскве наважылі паставіць помнік для ўшанаваньня пачаткаў маскоўскага кнігадруку, дык помнік ставілі не друкаром абодвум імёны якіх стаяць неразлучна на ўсіх іхных трох маскоўскіх кнігах як тых, што над друкаваньнем іх разам „трудзіліся", але толькі аднаму. Стаяў на помніку толькі „масквіцін", толькі Іван Федаровіч. Для Пётры-ж Цімахвеевіча з далёкага ад Масквы ды ёй чужога беларускага Мсьціслаўля, месца на маскоўскім помніку не знайшлося.

Як з гэтага бачым, хоць ніводнага з двух выдатных друкароў за іхным жыцьцём нічым ня вырозьніваў, іхных друкарскіх абавязкаў і працы не разьдзяляў, аднаго над другім ня ўзвышаў і ня ставіў у Маскве сам цар Іван Грозны, стагодзьдзяў колькі пазьней у тэй самай Маскве двух сяброў друкарскае справы пастараліся ўсё-ж падзяліць на больш і менш важнага й заслужанага. Аднаго ўзьнялі высака на гранітны п'едэстал помніка, другога-ж на гэтым помніку й па імі не назвалі.

Вось гэтую маскоўскую „традыцыю" ў сваіх публікацыях працягваюць далей ды „распрацоўваюць" тыя аўтары, што пачаткі маскоўскага кнігадруку настойліва прапагуюць як „дело Федорова" толькі — як справу й заслугу аднаго Івана Федаровіча Масквіціна.

## PIOTRA MSCISŁAVIEC AND IVAN MASKVICIN

### by Symon Braha

**Summary:** Some authors ascribe the merit for the activity of Ivan Fedarovič (Fedorov) Maskvicin and Piotra Mścisłaviec (Mstislavets) as printers in Moscow and Zabłudava, Byelorussia, exclusively to Ivan Fedarovič. An examination of archival sources and of books published by two printers proves such a view to be unfounded. The unusually high level of Mścisłaviec's printing art in his own publishing house in Vilna, with which Ivan Feda-

rovič was not connected whatsoever, is an especially clear indication that during the years of their common work the part played in printing by Piotra Mścisłaviec was of no less significance than that of Ivan Fedarovič.

---

[1] Я. Д. Ісаєвич. Першо-друкар Іван Федоров і виникнення друкарства на Україні. Львів, 1975, б. 40.

[2] Дж. С. Г. Симмонс. О некоторых старопечатных кириллических книгах в Дублине („Книга", сб. 8. Москва, 1963, б. 246).

[3] Прыклады: М. Н. Тихомиров. Начало книгопечатания в России (У зборніку „У истоков русского книгопечатания". АН СССР. Москва, 1957, б. 9-40). Т. Н. Протасьева. Описание первопечатных русских книг (тамсама, б. 180). 400 лет русского книгопечатания („Книга", сб. 9. Москва, 1964, б. 5-6). Блізу ўсё зьвязанае з маскоўскімі друкамі двух друкароў прыпісваецца аднаму Івану Федаровічу ў публікацыях А. А. Сидоров: Древнорусская книжная гравюра. АН СССР. Москва, 1951, б. 60-126. Художественно-технические особенности славянского первопечатания („У истоков русского книгопечатания", 1957, б. 41-80). Узловые проблемы и нерешенные вопросы русского книгопечатания („Книга", сб. 9. Москва, 1964, б. 26-32) ды іншых.

[4] Асабліва часта гэткая тэрміналёгія ўжываецца ў кнізе Сідарава „Древнерусская книжная гравюра", 1951.

[5] А. А. Сидоров. Узловые проблемы..., б. 26-32.

[6] А. А. Сидоров. Древнерусская книжная гравюра..., б. 111.

[7] Тамсама, б. 118.

[8] Тамсама, б. 126.

[9] Тамсама, б. 113.

[10] Stanisław Ptaszycki. Iwan Fedorowicz, drukarz ruski we Lwowie z końca XVII wieku (Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału filologicznego Akademii Umiejętności, t. XI. W Krakowie, 1886. 30)

[11] В. Сичинский. До питання про автора гравюр українського перводруку („Библіологичні вісти". Київ, 1926). Н. Голубец. Графика друків Івана Федоровича („Стара Україна", Львів, 1924). І. Огієнко. Історія українського друкарства, т. І, Львів, 1925, б. 118.

[12] А. А. Сидоров. Древнерусская книжная гравюра..., б. 115.

[13] А. Гатцук. Очерки истории книгопечатного дела в России („Русский вестник", кн. 99. Москва, 1892, б. 328-343). А. Н. Пыпин и В. Д. Спасович. История славянских литератур, СПб, 1879, т. І, б. 325. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. СПб, 1888, б. 207. Е. Е. Голубинский. К вопросу о начале книгопечатания в Москве („Богословский вестник", № 2. 1895, б. 229).

[14] Фатаперадрук паслоўя да маскоўскага Апостала: М. В. Щепкина. Переводы предисловий и послесловий первопечатных книг („У истоков русского книгопечатания". Москва, 1959, б. 218-219).

[15] Тамсама, б. 223.

[16] А. А. Сидоров. Узловые проблемы..., б. 30

# ЛАТГАЛЬЦЫ — СПРАДВЕЧНЫЯ СУСЕДЗІ

**Андрэй Багровіч**

У навуковай літаратуры агульна ўважаецца, што пасьля зыходу зь гістарычнае арэны колішніх прусаў, яцьвягаў, а таксама голядзі ды іншых усходніх балцкіх племяў, сяньня існуюць толькі два балцкія народы — латыскі й лятувіскі, ды дзьве толькі жывыя балцкія мовы — латыская ды жамойцка-лятувіская. Пагляд гэты памылковы. Вынікае ён стуль, што зь віду выпускаецца існаваньне латгальцяў ды трэцяе жывое балцкае мовы — мовы латгальскае.

Латгальцы — спрадвечныя суседзі беларусаў. І таму ня толькі дзеля самое навуковае праўды ці актуальных этнічна-палітычных праблемаў сяньняшняга часу, але й для належнага зразуменьня паасобных пытаньняў старое гісторыі й дагісторыі беларускага народу важна пры беларусаведных дасьледваньнях не забывацца пра існаваньне нашчадкаў летапіснае „Латыгалы" ды іх балцкае мовы.

Усходнеславянскія летапісы XI-XII стагодзьдзяў і пазьнейшыя дакумэнты часта згадваюць племя „Латыгальцаў", што жыло на прасторы паўночнага Прыдзьвіньня, на захад ад полацкіх Крывічоў, і якое засяляла „Латыгальскую зямлю". І дзеля тэрытар'яльнага суседзтва, і дзеля зьвязанасьці важным камунікацыйным шляхам, ракою Дзьвіной, Латыгальская зямля была тады ў цеснай гаспадарча-культурнай сувязі з княствам Полацкім, а часта і ў палітычнай ад яго залежнасьці.

З чатырох ведамых старых латыгальскіх княстваў два прыдзьвінскія — Герцыке й Кукенойс — даўжэйшы час былі пад уладай Полацка. Ведама, што ў найбольшым з гэтых княстваў, у Герцыке, на пачатку XIII стагодзьдзя існавалі праваслаўныя цэрквы. Былі яны напэўна і ў Кукенойсе, бо й там Полацак саджаў на княжаньне князёў свайго князёўскага роду.[1]

Полацка-балцкія ды полацка-латыгальскія дачыненьні на пачатках гісторыі Ўсходу Эўропы гісторык Ляўмянскі асэнсоўвае гэткімі словамі:

> можна ... рэканструаваць, праўда агульна, але даволі выразны абраз полацка-балцкіх дачыненьняў ды генэзы „полацкае

імпэрыі": калі нарманская экспансія не ахапіла Латгаліі, дык таму, што гэтае племя было ў саюзе з Полацкам, які патрапіў зарганізаваць належную яе абарону. Калі іншыя плямі — Лівы, Зямгалы, Куры, — знаходзіліся ў засягу нарманскае агрэсыўнае дзейнасьці, гэта сьветчыць, што абарона гэтых, далейшых ад Полацка тэрыторыяў, у сваіх выніках ня была ў поўнасьці эфэктыўнаю. І ў тым, і ў другім выпадку дапамога, што даставалася ад Полацка, была адным з фактараў фармаваньня „полацкае імпэрыі", у склад якое ўваходзілі „трыбутарныя" саюзьнікі — плямі латыскія ды Лівы.[2]

Ад пачатку XIII стагодзьдзя Латгалію захоплівае нямецкі Ордэн Мечаносаў, пазьнейшы Ордэн Лівонскі, які паганскім латыгальцам накінуў каталіцкую веру. У валаданьні ордэну Латгалія заставалася да 1561 году, калі, у выніку распаду ордэну, Латгалія ды частка іншых земляў Лівоніі пераходзіць у склад Вялікага Княства Літоўскага. Было тады створанае „Задзьвінскае Княства" — Ducatus Transdunensis, — якое ад Люблінскае вуніі 1569 году афіцыйна было правінцыяй Рэчпаспалітае, супольным валаданьнем Літвы й Польшчы.

У часе дзьвесьцегадовай палітычна-дзяржаўнай залежнасьці ад Рэчпаспалітай Латгалія была падпарадкаваная законам Вялікага Княства, у тым ліку й юрыдычным нормам Літоўскага Статуту. Статут гэты на тэрыторыі краю заставаўся дзейным і пасьля таго, як у 1772 годзе Латгалію захапіла Расея, а ад 1802 году адміністрацыйна яе ўлучыла ў Віцебскую губэрню. Юрыдычная сіла Літоўскага Статуту на землях Латгаліі была царскімі ўладамі скасаваная толькі ў 1831 годзе.

Аднэй з важных культурна-гістарычных кансэквэнцыяў далучэньня земляў Латгаліі да Вялікага Княства Літоўскага было тое, што па веры латгальцы засталіся каталікамі, тымчасам як на землях латыскіх зямгалаў ды куршаў пашырыўся й замацаваўся пратэстантызм, а разам і моцныя ўплывы нямецкае культуры. Другім важным вынікам гэтага было, што тагачасная нямецкая сацыяльная верхавіна Латгаліі праз стагодзьдзі знаходжаньня пад уладай Рэчпаспалітай, спалянізавалася.

Спрадвечнае суседзтва зь беларускім народам, гаспадарча-культурныя сувязі ды колькісотгадовае сужыцьцё ў аднолькавых палітычна-дзяржаўных умовах, склаліся на тое, што да Першае Сусьветнае вайны сацыяльная структура, зямельная гаспадарка й быт латгальцаў былі ў істоце аднолькавымі як беларусаў суседняе Полаччыны ды паўночнае Віленшчыны: тыя самыя багатыя вялікімі абшарамі зямлі двары ды побач невялікія сялянскія вёскі, тая самая землеробская сыстэма трыпалёўкі, тыя самыя гаспадарскія пабу-

довы. Гаспадарка краю была чыста аграрная, зь мінімальнай індустрыяй і зачаткамі толькі ўрбанізацыі.

Выглядам лучыць Латгалію з суседнімі прасторамі Беларусі й хвалісты, паледавіковае фармацыі, рэльеф паверхні: марэнныя, усыпаныя каменямі, паледавіковыя грады й узгоркі з раськіданымі па лагчынах на поўдні тысячамі азёраў, а на поўначы — балотнымі масывамі. Тыя самыя, як на паўночным Беларускім Азер'і, цёмнахваёвыя, пераважна яловыя, лясы.

І сацыяльна-гаспадарчае ды нацыянальна-культурнае жыцьцё латгальцаў пад Расеяй было аднолькавае як і ў беларусаў: тая самая русыфікацыя, забарона свайго друку, той самы гаспадарчы застой і эканамічна наканаваная масавая эміграцыя жыхарства краю.

Дзеля цяжкога гаспадарчага палажэньня ў выніку эканамічнае адсталасьці Расейскае імпэрыі ды пры каляніяльнай да гэтага палітыцы расейскага ўраду на падбітых землях „інародцаў", ад другое палавіны XIX стагодзьдзя й аж да Першае сусьветнае вайны, у пошуках заробткаў ды лепшых умоваў жыцьця, адбываецца масавы адплыў вясковага жыхарства Латгаліі ў бліжэйшыя большыя месты імпэрыі, у сталічны Пецярбург, на пасяленьні ў Сібіры, пры адначаснай масавай эміграцыі за акіян, у краі Амэрыкі.

Русыфікацыя ў Латгаліі праводзілася асабліва напорна ад 1863 году, калі адміністрацыйна Латгалія была падпарадкаваная віленскаму генэралгубэрнатару, ведамаму Мураўёву „вешальніку". Пачаткі кнігадруку на латгальскай мове ды латгальскае пісьменнасьці даў выдадзены ў 1585 годзе ў Вільні каталіцкі катэхізіс. У 1865 годзе віленскі генэралгубэрнатар выдае цыркуляр, якім забаранялася далейшае друкаваньне кнігаў „латгальскім дыялектам" лацініцай, друкаваць можна было толькі „рускімі літарамі". Практычна гэта азначала забарону латгальскага друку, у якім ужывалася толькі лацініца. Кніжкі латгальскаю моваю ды лацініцай выходзілі аднак-жа й пасьля забароны, але друкаваліся яны цяпер ці нелегальна, ці за межамі Расейскае імпэрыі, або — перапісваліся рукой. Важна пры гэтым адцеміць, што друкаваньня кнігаў лацініцай палатыску, на пратэстанцкіх латыскіх землях, царскія ўлады не забаранялі.

Аналягічныя, як на землях Беларусі, адбываліся культурна-палітычныя працэсы ў Латгаліі й пасьля скасаваньня ў 1904 годзе забароны друку. Адразу пачалі зьяўляцца латгальскія газэты й часапісы, друкаваліся, ужо легальна, латгальскаю моваю кніжкі ды шпарка пачала разьвівацца латгальская літаратура. Гады ад скасаваньня забароны друку й да расейскае лютаўскае рэвалюцыі 1917 году адзначаюцца шырокім разьвіцьцём латгальскага нацыянальна- адраджэнскага руху. Па ўсёй Латгаліі паўстаюць тады культурна-гра-

мадзкія, гаспадарчыя й палітычныя латгальскія арганізацыі.

На пачатку XX стагодзьдзя перад правадырамі латгальскага нацыянальнага руху стала й важная праблема — устанаўленьне свайго нацыянальнага назову. Старыя летапісы — прыкладам пісаная палацінску Хроніка Гэнрыка — жыхароў сучаснае Латгаліі ў 1206 годзе называла або „летыгаламі", або „летамі", а іхны край „Летыгаліяй" або „Летіяй", ці бо Латвіяй — Lethigallia, Letthia. Так тады называлася толькі Латгалія, а ня ейныя балцкія суседзі на захадзе. Ад XV стагодзьдзя назовы Летія, Латвія, як і Летыгалія, летыгальцы, у дачыненьні да Латгаліі й латгальцаў зьнікаюць, а зьяўляюцца назовы пераняныя ад суседніх эстонскіх Ліваў: Лівонія, Ліфляндыя, ад якіх пайшлі й польскія „Інфлянты".

Назовы Латгаліі й латгальцаў „Латвія", „леты", „латышы" былі гэтым самым часам перанесеныя на землі й жыхароў Курляндыі й Зямігаліі. У часе латыскага нацыянальнага адраджэньня куронцы й зямігальцы прынялі іх за свой нацыянальны назоў. У сувязі з гэтым, кіраўнікі латгальскага нацыянальнага руху, каб і назовам адзначыць сваю спрадвечную нацыянальна-культурную й моўную самабытнасьць, на пачатку XX стагодзьдзя наважылі вярнуцца да свайго пляменнага назову „латгальцы" ды свой край пачалі называць „Латгола" — Латгалія.

У працэсе хуткага нарастаньня кадраў інтэлігенцыі й шпаркага пашырэньня палітычна-нацыянальнае сьведамасьці народных масаў, падзеі Першае Сусьветнае вайны перад правадырамі латгальскага нацыянальнага руху паставілі важнае пытаньне — справу палітычна-дзяржаўнае будучыні Латгаліі й латгальскага народу.

Пасьля расейскае Лютаўскае рэвалюцыі, 9-10 травеня 1917 году, у Рэжыцы быў склікан латгальскі кангрэс для абмеркаваньня справы будучыні Латгаліі. На кангрэсе бальшынёю галасоў — 43 супроць 23 — перамагае канцэпцыя, што трэба імкнуцца да стварэньня супольнае з куронцамі й зямгаламі Латвійскае аўтаномнае рэспублікі, латгальцам у якой аднак мусяць быць загарантаваныя нацыянальнае самакіраўніцтва на сваёй тэрыторыі ды правы латгальскае мовы.

Мяншыня кангрэсу была за тым, каб аўтаномная Латгалія заставалася ў фэдэрацыйнай лучнасьці з Расеяй. Гэткае становішча было абумоўленае страхам, што ў супольнай латвійскай рэспубліцы пратэстанцкая бальшыня можа пасягаць на культурна-моўную, нацыянальную й рэлігійную свабоду каталіцкае веры латгальцаў.

У ліпені 1917 году ў Рызе адбываецца супольны кангрэс прадстаўнікоў Латгаліі з прадстаўнікамі Зямгаліі й Курляндыі. На гэтым кангрэсе делегаты Латгаліі далі згоду на ўваход свайго краю, як асобнае адміністрацыйнае адзінкі, у

склад аўтаномнае Латвіі, але пад умовай, што, — як казалася ў прынятай на рыскім кангрэсе пастанове, — „Латгалія, як складовая частка Латвіі асаблівая, будзе мець поўнае самакіраўніцтва ў справах адміністрацыі, самаўраду, мовы, школы, царквы".

У выніку, у паўсталай пазьней незалежнай Латвійскай рэспубліцы былі дзьве дзяржаўна раўнапраўныя балцкія мовы — у Латгаліі мова латгальская, на іншых-жа землях Латвіі — мова латыская. У Латвіі міжваенных гадоў, з чатырох адміністрацыйных акругаў рэспублікі Латгалія была найбольшаю тэрыторыяй. У 1935 годзе Латгалія мела 567 000 жыхароў, каля 60% зь якіх былі латгальцы. У межах Латгаліі знаходзілася тады й беларуская этнічна тэрыторыя, што трапіла ў межы Латвійскае рэспублікі. Дваццаць валасьцяў усходняе Латгаліі мелі жыхарства ці беларускае ці пераважна беларускае.

Загварантаваныя Рыскім кангрэсам 1917 году нацыянальна-культурныя правы латгальцаў заставаліся ў сіле аднак толькі да 1934 году, да дыктатуры ў Латвіі К. Ульманіса. Ад гэтага часу латгальскае самакіраўніцтва было скасаванае, латгальская мова ў школах Латгаліі была забароненая, на яе месца была заведзеная мова латыская. З школьных ды іншых бібліятэкаў былі выкінутыя ўсе надрукаваныя латгальскаю моваю кніжкі. Дык страх мяншыні латгальскага кангрэсу з травеня 1917 году ў Рэжыцы даволі хутка знайшоў сваё гістарычнае апраўданьне.

Палажэньне не зьмянілася на лепшае й пасьля апошняе вайны, калі Латгалія апынулася ўжо ў межах Латвійскае ССР. Доля латгальцаў пагоршала цяпер яшчэ тым, што разам з далейшай прымусовай латышызацыяй, праводзіцца, як і ўва ўсёй Латвіі, і безаглядная русыфікацыя. З усіх школаў Латгаліі выкінутая цяпер латгальская мова й навучаньне адбываецца толькі палатыску й парасейску. Як ведама, у паваенных гадох і ўсе беларускія школы на тэрыторыі Латвійскае ССР ператвораныя ў школы расейскія, хоць беларускія школы былі там праз усе гады існаваньня незалежнае Латвійскае рэспублікі, навет у часы дыктатуры Ульманіса.

Пасьля апошняе вайны паступова былі закрытыя ўсе выдаваныя латгальскаю мовай газэты й часапісы. Апошняя латгальская газэта перастала выходзіць у 1959 годзе. Ад году 1960 ўсякае друкаваньне кніжак і газэтаў палатгальску забароненае. Дык савецкая Масква вярнулася да забароны 1865 году латгальскага друку царскае ўлады, з той розьніцай, што цяпер не дазваляецца друкаваць палатгальску й кірыліцай. Сяньня газэты, часапісы, кніжкі друкуюцца латгальскаю мовай толькі за межамі СССР, толькі ў краёх Захаду, але не на землях латгальскага народу, не ў Латгаліі.

Ад 1948 году ўва ўсіх публікацыях Латвійскае ССР забаронена ўжываць і тэрмін „латгальская мова". Пішацца толькі „латгальскі дыялект" або „верхне латвійскі дыялект латыскае мовы".

Цяпер у Латгаліі праводзіцца палітыка прасьледу й тэрору супроць усіх нацыянальна актыўных латгальцаў ды ў першую чаргу супроць культуратворчае латгальскае нацыянальнае інтэлігенцыі. Пра сучаснае палітычнае палажэньне ў Латгаліі сьветчаць факты прыведзеныя ў мэмар'яле, які ў 1973 годзе генэральнаму сакратару Задзіночаных Нацыяў пераслала падпольная Латгальская Нацыянальная Рада. У мэмар'яле, між іншага, кажацца:

Латгальская Нацыянальная Рада, што дзеіць цяпер у нелегальных умовах ды якая арганізуе й кіруе змаганьнем за свабоду Латгальскае этнічнае групы, гэтым перасылае Вашай ветлівай увазе гэткія факты:

Латгальцы, лікам каля 700 000, жывуць пераважна ў усходняй частцы Латвійскае ССР. Побач зь лятувісамі й латышамі, латгальцы твораць трэцюю галіну існуючых балцкіх народаў. Сяньня яны пад уціскам падвойным — русыфікацыі й латышызацыі. Латгальцы апошнімі дзесяцігодзьдзямі пераживаюць нячуваную ў цывілізаваным сьвеце хвалю генацыду.

Латгальская мова... якая навучалася ў школах, цяпер ува ўсіх школах забароненая... Латгальская мова забароненая і ўва ўсіх дзяржаўных і самаўрадавых ўстановах, установах юрыдычнае й паштовае сыстэмаў, грамадзкіх арганізацыях, гаспадарчых прадпрыемствах... Латгальцы, якія адкрыта прызнаюцца да свае нацыянальнасьці, звальняюцца з працы...

Забаронена выдаваць у латгальскай мове кніжкі незалежна ад іх зьместу, хоць латгальскія кніжкі друкаваліся ўжо ад XVI ст., а за межамі СССР друкуюцца яны й цяпер. Забаронена выдаваць у латгальскай мове часапісы, газэты, календары, хоць за межамі СССР латгальскія пэрыядычныя выданьні выходзяць...

Усякія пратэсты супроць... уціску латгальскага народу... уважаюцца за антысавецкую дзейнасьць ды канчаюцца арыштам, звальненьнем з працы ды іншымі рэпрэсіямі.

Пры безаглядным гвалчаньні фундамэнтальных правоў і асноўных свабодаў чалавека, само існаваньне латгальскае этнічнае групы сяньня ў загрозе. Група гэтая й ейная культура, якія існуюць ад тысячаў гадоў, зьнішчаюцца.

У імя чалавечнасьці дапамажэце нам!... Зрабеце ўплыў на савецкі ўрад, каб стрымаў генацыднае нішчэньне латгальцаў...

Латгальская Нацыянальная Рада.[3]

(подпісы)

Рэжыца, 15 кастрычніка 1973 г.

Палітыка савецкае Масквы да латгальскага народу гадоў міжваенных і часоў паваенных кардынальна розная, сабе супярэчная. У міжваенную пару, калі Латвія й Латгалія былі вонках СССР, у Маскве выдаваліся, яшчэ да 1938 году, часапісы латгальскаю мовай, сваім зьместам накіраваныя супроць Латвійскае рэспублікі ды быццам у абароне гвалчаных у Латвіі нацыянальных правоў латгальцаў. У 1920-х-1930-х гадох сярод латгальскіх перасяленцаў на Сібіры было заснавана колькідзесят латгальскіх школаў.

У савецкай „Литературная энциклопедия", т. 6, 1932 г., б. 105, пісалася:

> Школы ў Латгаліі трымаюць курс на паступовую латышызацыю латгальцаў, вызываючы гэтым справядлівае абурэньне шырокіх масаў латгальскіх працоўных.

„Большая советская энциклопедия", т. 26, 1938 г., б. 82-83, падавала:

> Латгальская мова зьяўляецца самастойнай мовай, а не дыялектам, як хацелі-б прадставіць справу фашысцкія ідэялёгі канцэпцыі „Вялікае Латвіі"... латыская буржуазія ў Латвіі выганяе латгальскую мову з школаў і праводзіць гвалтоўную асыміляцыю...

У паваенным-жа трэцім выданьні гэтае самае энцыкляпэдыі, у томе 14-м 1973 г., б. 205, вось што напісана пра Латгалію, латгальцаў ды іхнюю мову:

> Латгалія... гісторыка-культурная вобласьць у Усходняй Латвіі, якую ў пэрыяд раньняга фэўдалізму засялялі латгалы... старалатыская народнасьць, якая дала назоў усяму латыскаму народу... Латгальцы... жыхарства гісторыка-культурнай вобласьці Латвійскай ССР... што гавораць верхне латыскім дыялектам латыскае мовы... нашчадкі латгалаў... У выніку асаблівых гістарычных умоваў... у матар'яльнай і духовай культуры латгальцаў захаваліся своеасаблівыя архаічныя элемэнты... Лякальныя асаблівасьці ў культуры латгальцаў хутка зьнікаюць.

З вышэй прыведзенага можна бачыць, што палітыка Масквы ў паваенныя гады, калі Латгалія, разам з усёй Латвіяй, трапіла пад ейную ўладу, зрабіла „дыялектычны" зварот на 180° і сяньня сама рэалізуе канцэпцыю „фашысцкае ідэялёгіі" да латгальцаў, сама гвалтоўна іх дэнацыяналізуе. Дэнацыяналізацыя праводзіцца шляхам ня толькі русыфікацыі, але й латышызацыі, зь відавочным разьлікам, што раней-пазьней і латыскі народ будзе зрусыфікаваны ды стане „гісторыка-культурнай вобласьцяй Расеі".

Гэтым самым часам, як на латгальскай зямлі праводзіцца генацыдная дэнацыяналізацыя латгальскага народу, даволі вялікую актыўнасьць выказваюць у культурна-нацыянальнай і палітычнай галіне латгальцы вольнага сьвету. У краёх Захаду дзеюць латгальскія арганізацыі, выходзяць

латгальскаю моваю газэты, часапісы, календары, кніжкі. Ад 1960 году дзеіць, заснаваны ў Нямеччыне, зь сядзібай у Мюнхене, Латгальскі Дасьледны Інстытут, які друкуе манаграфіі навуковага зьместу ды выдае навуковыя зборнікі Acta Latgalica. Ужо выйшла 6 тамоў гэтага выданьня, на зьмест якога складаюцца артыкулы, працы, дакумэнты ў мовах латгальскай ангельскай, нямецкай ды іншых пра латгальскую гісторыю, мову, літаратуру, бібліяграфію, тапаніміку.[4]

Трэба прызнаць, што пра суседні беларусам латгальскі народ, ягоную мову, нацыянальна-палітычны рух і дзейнасьць ніколі нічога ня пішацца ня толькі ў беларускім савецкім, але і ў беларускім замежным друку. Адна з прычынаў гэтага — моўная бар'ера. Публікаваныя латгальскаю моваю газэты й кніжкі беларускаму чытачу недаступныя.

А палітычна-нацыянальнае жыцьцё й доля старых гістарычных суседзяў беларускага народу павінны цікавіць ня толькі беларускіх палітычна-грамадзкіх дзеячоў, але й навукоўцаў-беларусаведаў. Толькі усьведамленьне, што існуюць ня два, а тры балцкія народы й ня дзьве, а тры жывыя балцкія мовы дае магчымасьць гістарычна правільна асэнсаваць падзеі й нацыянальна-этнічныя працэсы на латгальскім адрэзку беларуска-балцкага ўзьмежжа.

У галіне навуковай важна гэта асабліва цяпер дзеля шырокага распрацоўваньня ў археалёгіі, моваведзе, гідраніміцы ды тапаніміцы Беларусі пытаньня важнасьці балцкіх элемэнтаў, а таксама ролі балцкага этнічна субстрату ў этнагенэзе беларускага народу. У сувязі з гэтым вядуцца пошукі балцкіх, у гэтым ліку й латыскіх, субстратных элемэнтаў у беларускай мове.

Усьведамляючы, што не латышы, але толькі латгальцы былі ад дагістарычных часоў беспасярэднімі суседзямі беларусаў, можна загадзя сказаць, што латыскіх элемэнтаў у мове беларускай няма, бо ў суседзтве з латышамі беларусы ніколі ня жылі. Таму таксама на аснове латгальскае, а не латыскае мовы трэба высьняць і той ці іншы тапанімічны ці гідранімічны назоў на беларускім прылатгальскім узьмежжы разглядаючы магчымае балцкае яго паходжаньне.

Беспасярэднюю сутычнасьць з латгальцамі й латгальскім нацыянальна-палітычным рухам мелі ў міжваенныя гады толькі беларусы тае нацыянальнае тэрыторыі, што была тады ў межах Латвіі, а цяпер у межах Латвійскае ССР. Але й там якія-колечы бліжэйшыя латгальска-беларускія дачыненьні нейк не завязаліся.

Увесну 1921 году кіраўнікі Беларускага Культурна-Асьветнага Таварыства „Бацькаўшчына" ў Латгаліі, і асабліва энэргічны віцэстаршыня гэтага таварыства, Канстантын Езавітаў, рабілі захады ў справе стварэньня пры Міністэрстве асьветы Латвіі, за прыкладам іншых нацыянальнасьцяў,

Аддзелу беларускага. Галоўным заданьнем гэтага Аддзелу мела быць апека над беларускім пачаткавым і сярэднім школьніцтвам у Латвіі.

На перашкодзе стала аднак вымаганая законам фармальнасьць, каб заяву з прапановай стварыць беларускі Аддзел сьціраваў у міністэрства нехта з прадстаўнікоў латвійскага Ўстаноўнага Сойму. Свайго прадстаўніка ў латвійскім парлямэньце беларусы тады яшчэ ня мелі. Толькі колькі гадоў пазьней у парлямэнт ад беларусаў быў выбраны Уладзімер Пігулеўскі.

Па дапамогу ў справе адкрыцьця Аддзелу пры міністэрстве кіраўнікі Беларускага Таварыства зьвярнуліся таму, між іншым, і да латгальскіх прадстаўнікоў парлямэнту. Выявілася, аднак, што на дапамогу латгальскіх партыяў ды іхных прадстаўнікоў у Сойме лічыць было немагчыма. Сярод іх не знайшлося ніводнага ахвотнага дапамагчы суседзям у патрэбе. Дапамогу беларусам Латвіі даў тады ведамы латыскі паэта й грамадзкі дзеяч Ян Райніс-Плекшан, з тым вынікам, што 13 верасьня 1921 году пастановаю Рады Міністраў Беларускі Аддзел пры Міністэрстве асьветы быў створаны. Першым кіраўніком быў настаўнік-фальклярысты С. Сахараў.[5]

## THE LATGALIANS, NEIGHBORS OF THE BYELORUSSIANS SINCE OLDEST TIMES, by Andrej Bahrovič

**Summary:** The view that there are only two living Baltic peoples and only two living Baltic languages — Latvian and Lithuanian — is erroneous because it disregards the existence of the Latgalian people and the third living Baltic language — Latgalian. Consideration of this fact is important not only for a proper understanding of current political events in the land of Byelorussia's neighbor, Latgalia, but also for a correct historical analysis of ethno-linguistic processes along the Byelorussian-Baltic border.

This article provides a brief review of the Byelorussian-Latgalian relationship from the beginning of history. It describes the main phases in the national renascence of the Latgalians and their current fate under the Soviet regime.

---

[1] Н. А. Казакова. Полоцкая земля и прибалтийския племена в X- начале XII века (Проблемы истории феодальной России. Сборник статей. Ленинград, 1971, б. 87).

[2] Henryk Łowmiański. Geneza ziemi Połockiej (Z polskich studjów sławistycznych. Seria 3. Historia. Warszawa, 1968, 23).

[3] Acta Latgalica, vol. 5, München, 1974, 406-408.

[4] Acta Latgalica, vol. 1-6. Latgalian Research Institute — Latgalu Pétniceibas Instituts. München, 1965-1976.

[5] К. Езавітаў. Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва „Бацькаўшчына" ў Латгаліі. Рыга, 1932, б. 12-15.

# ДА ПЫТАНЬНЯ ПОЛЬСКАЕ МЯНШЫНІ НА БЕЛАРУСІ

**Віктар Сянькевіч**

Апошнім часам у польскім эміграцыйным друку, асабліва на старонках лёнданскае газэты „Тыдзень Польскі”, вядзецца „польска-ўкраінскі дыялёг”. У ім бяруць удзел публіцысты, навукоўцы й палітыкі абодвух бакоў. Пасьля бурнае палемікі на пачатку 1950-х гадоў у справе звароту Польшчы заходніх беларускіх і ўкраінскіх земляў зь Вільняй і Львовам,[1] больш рэалістычная частка польскай эміграцыі дайшла да высновы, што заміж таго, каб лятуцець аб вялікай Польшчы, лепш шукаць прыязьні й супрацоўніцтва зь беларускім ды ўкраінскім народамі, зь якімі палякі дзялілі супольны гістарычны лёс. У выніку, у канцы 60-х гадоў у Лёндане было заснаванае „Польска-Украінскае Таварыства”. Мэта Таварыства і дыялёгу — польска-ўкраінскае паразуменьне ды прапагандаваньне прынцыпаў, на якіх павінны абапірацца польска-ўкраінскія дачыненьні ў будучыні. У ходзе гэтага дыялёгу, хоць толькі пасрэдна, закранаюцца часта й справы беларускія.

Нам ведама, што ў Лёндане, дзе сканцэнтраваная найбольш актыўная частка польскай палітычнай эміграцыі, з боку палякоў рабіліся спробы навязаць бліжэйшыя кантакты і зь беларусамі. Прапанавалася навет стварыць, на ўзор польска-ўкраінскага, таварыства польска-беларускае. Тымчасам беларусы паставіліся да гэтага адмоўна. Напэўна мелі на гэта свае прычыны. Не забываймася, што польска-беларускія дачыненьні маюць зусім іншы характар, як польска-ўкраінскія. У іх няма шмат якіх фактараў, якія характэрныя дачыненьням паміж палякамі і ўкраінцамі.

Бяручы, аднак, на ўвагу тое, што мы не павінны адмаўляцца ад кантактаў і дыялёгу з нашымі суседзямі, мы разгледзім у нашым артыкуле адзін з найважнейшых аспэктаў польска-беларускіх дачыненьняў: пытаньне існаваньня на тэрыторыі Беларусі польскае этнічнае групы. Пытаньне гэтае закранілася на старонках беларускага эміграцыйнага друку ціраз, асабліва ў сувязі зь перасяленьнем жыхарства Заходняй Беларусі ў сучасную Польшчу ў паваенным пэ-

рыядзе ды перапісамі жыхарства СССР у 1959 і 1970 гадох.[2] Пра гэтак званых „палякоў" у Беларусі пісаў яшчэ ў 1919 годзе Кастусь Езавітаў.[3]

У беларускім савецкім друку пытаньне гэтае закраналася таксама ў сувязі з успомненымі перапісамі, але вельмі павярхоўна. Больш увагі палякам у Беларусі прысьвячаюць савецкія навуковыя выданьні ў сувязі з этнаграфічна-антрапалягічным вывучэньнем жыхарства, а таксама з прычыны вывучэньня польскіх гаворак у СССР.[4]

Найбольш, аднак, піша на гэтую тэму польскі эміграцыйны друк, які не прапушчае ніякае нагоды, каб не прыгадаць, што ў БССР жыве й далей вялікі лік палякоў ды што ўрад БССР, у вадрознасьць ад Лятувіскай ССР, тарнуе да польскага жыхарства дыскрымінацыйную палітыку: не дазваляе на адкрыцьцё польскіх школаў, на існаваньне польскай прэсы.[5] Робіцца ўсё гэта з мэтаю, каб апраўдаць польскія пасяганьні на беларускія землі. Такія, прыкладам, цьверджаньні як „Усходнія землі зь Вільняй і Львовам становяць складовую частку Польшчы" або „Ніхто ня мае права адракацца ад усходніх польскіх земляў" — тыповыя пастуляты й лёзунгі бальшыні польскай палітычнай эміграцыі.[6]

А як-жа выглядаюць справы ў запраўднасьці? Якія рэальныя асновы існуюць для падобных цьверджаньняў? Каб даць адказ на гэтыя пытаньні, мы зьвернемся да навуковых выданьняў, прычым выданьняў савецкіх, якіх нельга падазраваць у беларускім нацыяналізьме. Савецкія аўтары арыентуюцца хіба-ж лепш у этнічнай сытуацыі на Беларусі, як польскія палітыкі ў Лёндане.

Гэтак, у 1952-53 гадох, яшчэ пры Сталіне, Інстытут этнаграфіі Акадэміі навукаў СССР правёў антрапалягічныя дасьледваньні ў Прыбалтыцы. Досьледы пачаліся ў прыгранічных вёсках на сучаснай лятувіска-беларускай мяжы. Вось што пісалі савецкія навукоўцы ў сваёй працы пра склад жыхарства Ўсходняй Прыбалтыкі:

> Беларусы (Смаргоняў) здаўна жывуць у непасрэднай блізіні да паўдзённа-ўсходніх лятувісаў, дзеля гэтага яны разглядаліся як параўнальная група. Бальшыня зь іх называе сябе „палякамі", хоць валодаюць трымя мовамі: беларускай, расейскай і польскай. Дома, у сям'і, як правіла, гавораць „папросту", гэта значыць, на аднэй з гаворак беларускае мовы. Абсьледаваная намі група беларусаў залічыла сябе да палякоў бязумоўна ў сувязі з тым, што „беларусы-палякі" былі ў мінуўшчыне (а ў пэўнай ступені й цяпер) каталікамі ў вадрознасьць ад навакольнага праваслаўнага жыхарства. Урад буржуазнай Польшчы праводзіў нацыяналістычную палітыку асыміляцыі няпольскага жыхарства і, у прыватнасьці, усіх беларусаў-каталікоў залічаў да „палякоў".[7]

Колькі гадоў пазьней, у сувязі зь перапісам жыхарства СССР у 1959 годзе, паводля якога ў БССР налічвалася 539.000 палякоў, што станавіла 9,7% жыхарства рэспублікі, беларускі савецкі аўтар А. Ракаў пісаў:

> Польская нацыянальная група ў рэспубліцы ў сваёй масе мясцовага паходжаньня. Яшчэ ў часе перапісу 1897 году на тэрыторыі Беларусі ў сучасных межах налічвалася прыкладна 140 тысячаў палякоў. Ведама таксама, што ў Заходнюю Беларусь, якая знаходзілася пад уладай буржуазнай Польшчы, з 1921 па 1939 год, з мэтаю яе калянізацыі было выслана каля 300,000 польскіх чыноўнікаў, цывільных і вайсковых асаднікаў.[8] Лягічна дапусьціць, што выяўлены перапісам 1959 г. такі вялікі лік палякоў у БССР і іхная амаль у тры разы большая ўдзельная вага ў вагульнай колькасьці жыхарства, як у часе перапісу 1897 году, зьвязаны з прымусовай калянізацыяй жыхарства Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гадох шляхам яго акаталічваньня. Гэта ў пэўнай ступені пацьвярджаецца тым, што 47.7% тых, што назвалі сябе палякамі, лічаць роднай мовай беларускую, тымчасам, як прадстаўнікі ўсіх іншых нацыянальнасьцяў у бальшыні выпадкаў лічаць роднай мовай калі ня мову свае нацыянальнасьці, дык расейскую мову.[9]

Падобна падходзіць да справы польскай мяншыні ў БССР Е. Сабаленка[10], які свой артыкул пра сучасную этнічную сытуацыю ў БССР (аўтар памылкова кажа „у Беларусі", бо БССР — гэта толькі частка Беларусі і не ахапляе ўсяе беларускае этнічнае тэрыторыі — В. С.) надрукаваў у № 3 „Весцяў Акадэміі навук БССР" за бягучы год. Аналізуючы вынікі перапісу жыхарства СССР 1970 г., аўтар сьцьвярджае:

> У характарыстыцы этнічнай сытуацыі ў Беларусі наагул і ў Горадзенскай вобласьці ў прыватнасьці даволі складаным зьяўляецца пытаньне адносна палякоў. Усяго, па перапісу 1970 г., на тэрыторыі Беларусі пражывае 382,600 палякоў. Значную частку іх складаюць людзі, якія **ня ведаюць ні польскай мовы, ні польскай культуры — акаталічаныя беларусы** (падкрэсьлена намі — В. С.).
>
> Калі Беларусь уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, рэлігія ў беларусаў адыйграла вызначальную этнадыфэрэнцыюючую ролю, а рэлігійнае самавызначэньне атаесамлялася з этнічным: каталікі называлі сябе палякамі, праваслаўныя — беларусамі ці рускімі. Сьляды гэтага захаваліся й па сёньняшні дзень, асабліва ў Горадзенскай вобласьці, якая да 17 верасьня 1939 году знаходзілася пад уладай буржуазнай Польшчы і падпадала пад моцнае прымусовае акаталічваньне. Гэта, відаць, адыйграла пэўную ролю ў тым, што 25% насельніцтва Горадзенскай вобласьці назвалі сябе палякамі.

Гаворачы-ж пра родную мову жыхарства БССР, Е. Сабаленка канстантуе:

> Паказальна, што толькі 16.7% палякоў назвалі роднай мовай польскую. Відаць, тут дзейнічаюць тыя фактары, аб якіх гаварылася вышэй, атаесамліваньне нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасьці. Пэўная колькасьць акаталічаных беларусаў назвалі сябе палякамі, а родную мову тую, на якой гавораць і якую яны добра ведаюць, — беларускую. Прыкметную ролю адыграў таксама фактар часу. Большасьць палякоў, ці тых, хто называе сябе палякамі, здаўна жывуць у Беларусі, засвоілі беларускую мову і даўно лічаць яе роднай.[11]

У сваю чаргу, лятувіская савецкая моваввед, Г. Грынавецкене, пішучы пра некаторыя зьявы кантактаваньня лятувіскіх і славянскіх гаворак у паўдзённа-ўсходняй ЛітССР[12] сьцьвярджае наступнае:

> У некаторых раёнах Летувы, асабліва ў раёнах беларускалятувіскага сумежжа, з прычыны пэўных палітычных і грамадзкіх адносінаў, якія склаліся ў ходзе гістарычнага працэсу, сустракаюцца суцэльныя, часамі даволі вялікія тэрыторыі, жыхары якіх умеюць гаварыць на колькіх мясцовых гаворках паасобных моваў. Прыкладам, жыхары паўдзённа-заходніх ваколіцаў лятувіскае сталіцы (паўдзённа-ўсходняя частка Віленскага раёну, усходняя частка Троцкага, Эйшышскі раён) у асноўным гавораць пабеларуску (або, як яны самі выказваюцца, „папросту") і папольску; ведаюць расейскую мову; зрэдку старыя, у веку ад 70 да 80 і больш гадоў, гавораць палятувіску; слаба гавораць таксама палятувіску дзеці школьнага веку . . .

І далей:

> На дасьледванай тэрыторыі ў бальшыні выпадкаў у хатнім ужытку й таварысьцьве людзі гавораць пабеларуску („папросту"), асабліва сярэдняе пакаленьне й моладзь, хоць уважаюць сябе за палякоў.[13]

Вельмі цікавае дасьледваньне беларускага савецкага навукоўца В. Чэкмана вёскі Азеркі, што на поўнач ад Горадна,[14] заснаванае, паводля вуснае традыцыі ейных жыхароў, выхаджэнцамі зь Летувы. У Азерках Парэцкага сельсавету Горадзенскага раёну да 1959 году жыло 66 сем'яў. Паколькі вёска была разьмешчаная далёка ад дарогаў, а зямлі, прыдатнае для апрацоўкі, навокала яе было вельмі мала, дык яна была прызнаная беспэрспэктыўнай для далейшага разьвіцьця і ейным жыхаром было запрапанавана перабрацца

ў іншыя пункты. 16 сем'яў выбралі сабе за новае месца жыхарства вёску Чарнуху (5 км. ад Парэчча ў бок Друськенікаў), 16 — вёску Граньдзічы (4 км. на поўнач ад Горадна); па колькі сем'яў пасяліліся ў вёсцы Прывалкі, гарадзкім пасёлку Парэчча, вёсцы Гожа, Друськеніках ды ў самым Горадне. Больш за 20 сем'яў выявілі жаданьне перабрацца ў Польшчу. Такім парадкам, кажа Грыгавецкене, вёска Азеркі ў даны мамэнт ня існуе. Лятувіскія, беларускія й польскія гаворкі былых ейных жыхароў вывучаліся ў вёсцы Граньдзічы, дзе азярчане пасяліліся кампактнай групай і, захоўваючы цесныя й дабрасуседзкія дачыненьні, твораць своеасаблівую вёску ў вёсцы.

Афіцыйна жыхары вёскі зарэгістраваныя як палякі. У часе перапісаў жыхарства абсалютная бальшыня іх, у асноўным прадстаўнікі старэйшага й сярэдняга пакаленьняў, роднай мовай называюць мову польскую. Аднак людзі старэйшага пакаленьня (народжаныя да 1923 году) дома, асабліва між сабою, гутараць вылучна палятувіску. Прадстаўнікі сярэдняга пакаленьня (народжаныя да 1943 году) карыстаюцца пераважна беларускай мовай у сваіх сем'ях і ў гутарках з аднавяскоўцамі.

Папольску сярод азярчанаў гутараць толькі прадстаўнікі старэйшага пакаленьня, аднак няма асноваў уважаць, як уважаюць яны, што іхная родная мова — польская. Польскаю моваю не карыстаюцца ў ніводнай сям'і міжсобску, не карыстаюцца ёю суседзі й знаёмыя ў бытавых гутарках, бабулі ніколі не расказваюць папольску казак сваім унукам. Калі ня зьявіцца чужы чалавек і не пачне гутарыць у гэтай мове, дык можна пражыць сярод азярчанаў даволі доўга і не пачуць ніводнае польскае фразы.

У гутарках высьвятляецца, працягвае далей Чэкман, што уважаючы сябе за „палякоў" (г. зн. рыма-каталіцкае веры), азярчане стараліся авалодаць польскую мову, умець весьці гутарку ў гэтай мове было ў іх традыцыйным жаданьнем. Вялікае значаньне для іх мела тое, што яны заўсёды слухалі казані папольску ў касьцеле вёскі Прывалкі. Іхная веда польскае мовы значна папоўнілася ў пэрыяд, калі гэтая тэрыторыя была часткай даваеннае Польшчы. Шмат з прадстаўнікоў старэйшага пакаленьня хадзілі ў польскую школу. Характэрна, што ў паваенным часе ў Польшчу выяжджалі найчасьцей тыя сем'і, у якіх з тае ці іншае прычыны лепш гутарылі папольску. Гэткім парадкам, польская мова ў азярчанаў займае і, відаць, заўсёды займала ў сфэры моўных зносінаў вельмі скромнае месца, і ў гэтым дачыненьні Азеркі ня розьняцца ад шмат якіх вёсак Горадзеншчыны.[15]

Пададзеныя ў артыкуле Чэкмана факты маюць дачыненьне да жыхароў лятувіскага, г. зн. балцкага паходжаньня, якія, будучы акружаныя беларускаю моўнаю стыхіяй, пра-

ходзяць працэс беларусізацыі. Як цьвердзіць аўтар, „праз колькі дзесяткоў гадоў азярчане будуць аднамоўнымі носьбітамі аднае зь беларускіх гаворак Горадзеншчыны”.[16]

Падобных выказваньняў пра „палякоў” у Беларусі, выказваньняў савецкіх ды й польскіх даваенных і паваенных аўтараў, можна прывесьці безьліч. Аднак і гэтага дастаткова, каб рабіць адпаведныя высновы пра запраўдны стан польскае меншыні ў Беларусі.

Як мы ўжо згадвалі раней, „польская” нацыянальная група ў БССР у сваёй масе — мясцовага, г. зн. беларускага паходжаньня. „Палякі” гэтыя ня ведаюць ні польскае мовы, ні польскае культуры — гэта проста акаталічаныя беларусы. Мы бачылі таксама, што падобны стан рэчаў узьнік у выніку настойлівае палянізацыйна-асыміляцыйнае акцыі ў 1919-1939 гадох акаталічаных беларусаў, праводжанае трыста тысячнай арміяй польскіх урадаўцаў, цывільных і вайсковых асаднікаў ды, асабліва, пры дапамозе каталіцкага касьцёлу й польскага духавенства.[17]

Довадам таго, што „палякі” ў Беларусі — гэта ня што іншае як карэннае беларускае жыхарства — іхная родная мова, якой яны карыстаюцца ў штадзённым жыцьці. Паводля перапісу жыхарства 1970 году, толькі 16.7% „палякоў” у Беларускай ССР назвалі роднай мовай польскую. На вёсцы гэты працэнт яшчэ ніжэйшы, бо каля 96% жыхароў свабодна валодаюць беларускай мовай, прычым 86% прызнае яе роднай.[18] У канкрэтных ліках гэта значыць, што польскай мовай як роднай у Беларускай ССР карыстаецца адно 63,894 чалавекі, або 0.7% усяго жыхарства рэспублікі! На прыкладзе Азерак мы пабачылі, што нават тыя „палякі”, якія падалі як родную польскую мову, ніколі ёю не карыстаюцца: „можна бо пражыць даволі доўга сярод азярчанаў і не пачуць ад іх ніводнае польскае фразы”. А Азеркі істотна ня розьняцца ад іншых вёсак Горадзеншчыны!

Як ведама, Беларуская ССР у сучасных межах ня ўлучае ў сябе ніякае польскае этнічнае тэрыторыі. Наадварот, значныя часткі аўтахтоннага беларускага жыхарства Беласточчыны й Падляшша належаць цяпер да Польскае Народнае Рэспублікі. Ня кажам ужо пра сотні тысячаў беларусаў, каталікоў і праваслаўных, якія, каб вырвацца спад беспасярэдняга маскоўскага панаваньня, перабраліся па вайне ў Польшчу на гэтак званыя „Земе Одзысканэ”.[19]

Такім парадкам, палякоў польскага этнічнага паходжаньня сяньня на Беларусі няма. Тыя-ж, што былі раней, у вабставінах гістарычных падзеяў, на беларускіх землях ня ўтрымаліся. Частка зь із уцякла зь Беларусі ўжо ўвосень 1939 году. Тыя-ж, што засталіся, былі пасьля (у 1940-41 гг.) вывезеныя ўглыбкі Савецкага Саюзу. Невялікі лік, што яшчэ заставаўся, выехаў шляхам афіцыйнага абмену польскага

жыхарства БССР на беларускае ў паваенных часох, асабліва ў часе перасяленьня жыхарства з былых усходніх земляў Польшчы на землі панямецкія.[20]

Дзеля гэтага цьверджаньні польскага эміграцыйнага друку, што лік палякоў на Беларусі мог-бы быць прынамся ў тры разы вышэйшы, калі-б беларускія савецкія ўлады ў часе перапісу жыхарства не рабілі цяжкасьцяў паляком у дачыненьні да іхнае нацыянальнасьці — беспадстаўныя.

У сьвятле ўстаноўленых фактаў беспадстаўныя таксама нараканьні на дыскрымінацыю палякоў у Беларускай ССР на тэй падставе, што ўрад БССР не дазваляе „паляком" на адкрыцьцё польскіх школаў, на выдаваньне польскіх газэтаў і часапісаў ды на дзейнасьць польскіх таварыстваў. Адчыняць школы для каго? Мо, як на Віленшчыне, для карэннага беларускага жыхарства каталіцкае „польскае веры", родная мова якіх беларуская, каб вучыць іх польскае мовы? Ці для гэных 63 тысячаў раськіданых па цэлай Беларускай ССР беларусаў, што хоць і падалі польскую мову як родную, але яе пераважна ня знаюць ды ёю не карыстаюцца?

Беларуска-польскі дыялёг, калі мае пачынацца, дык ад прызнаньня палякамі факту, што на землях Беларусі палякоў этнічнага польскага паходжаньня няма. Існуе затое беларускае пытаньне ў сучаснай Польшчы. А затым лятуцеьні некаторых польскіх эмігрантаў пра зварот „усходніх земляў" Польшчы ня маюць пад сабой рэальнае базы, яны беспадстаўныя.

Палякі, што жывуць на сваёй бацькаўшчыне, зразумелі гэта. Найлепшым довадам гэтага — дакумэнт, што нядаўна трапіў на Захад, і які быў выдрукаваны ў травенскім нумары згаданага ўжо „Тыдня Польскага".[21] Дакумэнт гэты бяз даты, бяз подпісу і бяз адрысу, але мае ўсе азнакі аўтэнтычнасьці. Вось што кажацца ў ім пра ўсходніх суседзяў Польшчы:

> Мы — ня суседзі Расеі. Нашымі суседзямі — Украіна, Беларусь і Летува. З гэтымі краінамі нас лучыць шматвекавое суіснаваньне — больш ці менш згоднае, часамі парушанае празмернай экспансыўнасьцяй палякоў, але дабраахвотнае, у рамках аднае дзяржавы: польскае Супольнасьці Народаў. Народы ўкраінскі, беларускі, лятувіскі й латыскі сяньня ня маюць незалежнасьці; яны сілаю далучаныя да Савецкага Саюзу й падлягаюць значна вайстрэйшым як наш народ палітычным, ідэйным і рэлігійным парадкам. Супраць іх вядзецца акцыя русыфікацыі. Шматгадовая супольнасьць не дазваляе нам глядзець на гэта з абыякавасьцяй або з маўклівым спачуваньнем. Мы выказваем цёплую салідарнасьць і падтрыманьне гэтым народам у тым, каб яны сталі незалежнымі ад расейскага гвалту. Мы павінны іх у гэтым імкненьні падтрымоўваць у меру нашых собскіх магчымасьцяў.

Перад нашымі ўсходнімі суседзямі мы ня высоўваем тэрытарыяльных прэтэньсіяў, хоць страта Львова й Вільні, местаў здаўна зьвязаных з польскай культурай, для нас ёсьць і будзе вельмі балючай. Дамагаймася-ж ад усіх урадаў, якія будуць выконваць уладу на колішніх тэрыторыях Рэчыпаспалітае — тэрыторыях адарваных ад яе сілай чужых пастановаў, не пацьверджаных ніводным зь непасрэдна зацікаўленых народаў — каб загарантавалі палякам, якія жывуць на гэтых землях, роўнае права й магчымасьць свабоднага захаваньня нацыянальнае мовы й культуры. Дамагаймася таксама, каб палякі з Польшчы мелі магчымасьць неабмежанага доступу да месцаў зьвязаных зь гісторыяй нашага народу й колішняй нашай супольнай дзяржавы.

Гэта — праграма польскіх патрыётаў, што жывуць на сваёй бацькаўшчыне, праграма на будучыню здаровае часткі польскага народу, якую мы павінны ўзяць на увагу, бо ня польская эміграцыя, а польскі народ будзе пастанаўляць аб дачыненьнях да сваіх усходніх суседзяў, у тым ліку й народу беларускага.

## THE QUESTION OF THE POLISH MINORITY IN BYELORUSSIA, by Viktar Siankievič

**Summary:** The author discusses the ethno-linguistic features of those inhabitants of the Byelorussian SSR who, during the last census, in 1970, indicated their nationality as "Polish." As linguistic and statistical data show, the native language of the majority of those "Poles" is Byelorussian. They registered themselves as "Poles" simply because of their Catholic religion, which was identified with Polish nationality. In the Byelorussian SSR the 1970 census indicated 382,600 "Poles" of whom only 16.7 per cent, i. e., 63,894 named Polish as their native language. The majority of them consider Byelorussian to be their mother tongue.

---

[1] Язэп Каранеўскі. Імпэрыялістычныя пасяганьні палякаў („Бацькаўшчына", Мюнхен, № 5(84), 1952, б. 1, 4). Яго-ж: Маячаньні аб Вялікай Польшчы (тамсама, № 7-8(86-87), 1952, б. 1, 3).

[2] Мікола Волаціч. Насельніцтва Заходняе Беларусі й яго перасяленьне між сучаснай Польшчай і БССР („Беларускі зборнік", кн. 4. Мюнхен, 1956, б. 5-40). П. Залужны. Як зьнікаюць беларусы й іншыя народы СССР („Бацькаўшчына", № 8(492). Мюнхен, 1960, б. 2). Андрэй Багровіч. Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году („Запісы", кн. I. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1962, б. 9-88, асабліва б. 58-67). В Пануцэвіч. ,Палякі' на Беларусі („Беларус", № 201. Ню Ёрк, 1974, б. 4).

[3] К. Езовитов. Белоруссы и поляки. Документы и факты из истории оккупации Белоруссни поляками в 1918 н 1919 годы. Перевод с белорусского. Ковно, 1919, б. 10-12.

[4] М. В. Внтов, К. Ю. Марк, Н. Н. Чебоксаров. Этническая антропология Восточной Прибалтики (Труды Прибалтийской Об'единеной комплексной экспедиции, кн. 2. Москва, 1959). Польские говоры в СССР. Исследования и материалы 1967-1969 г., ч. 1. Минск, 1973. Польские говоры в СССР. Исследования и материалы 1969-1971 г., ч. 2. Минск, 1973. Е. Й. Гринавецкене. Некоторые явления контактирования литовских и славянских говоров. На материале языковых контактов в южно-восточной Литве (Балто-славянский сборник. Москва, 1972, б. 394-408).

[5] Uparte tępienie polskości na "sowieckiej Białorusi" ("Dziennik Polski", 23. 2. 1972. DS: Co się naprawdę dzieje na Ziemiach Wschodnich? (тамсама, 30. 12. 1971). Jak zmiejsza się liczbę Polaków w sowieckich spisach ludności? (тамсама, 19. 5. 1971). Zniekształcanie obrazu narodowości w Sowietach (тамсама, 27. 4. 1971) і іншыя.

[6] JPB: Prawa Polskie do Ziem Wschodnich ("Dziennik Polski", 21. 5. 1976). Nikt nie ma prawa wyrzekać się ziem polskich. Rezolucje Polskiej Rady Jedności w Stanach Zjednoczonych (тамсама, 18. 6. 1976).

[7] М. В. Внтов, К. Ю. Марк, Н. Н. Чебоксаров, тамсама, б. 10.

[8] Цікава адзначыць, што лік прысланых з Польшчы палякоў (урадоўцаў, цывільных і вайсковых асаднікаў і г. д.), якую падае Ракаў у асноўным згаджаецца зь лікам, які падаў беларускі эміграцыйны дасьледнік М. Волаціч, які азначаў яго на 260 тыс. між 1919 а 1931 гг. Гл. М. Волаціч, тамсама, б. 12-13.

[9] А. А. Раков. Население БССР. Минск, „Наука и техника", 1969, б. 130.

[10] Э. Р. Сабаленка. Сучасная этнічная сытуацыя ў Беларусі (Весці АН БСРР, Сэрыя грамадзкіх навук, № 3. Мінск. 1976. б. 102-108).

[11] Тамсама, б. 107.

[12] Е. Й. Гринавецкене, тамсама, б. 394.

[13] Тамсама, б. 395.

[14] В. Н. Чекман. Деревня Озерки — язык и люди (Польские говоры в СССР, ч. 2, б. 40-72).

[15] Тамсама, б. 62.

[16] Тамсама, б. 72.

[17] А. Багровіч, тамсама, б. 59. Э. Сабаленка, тамсама, б. 104. Пра ролю польскіх ксяндзоў у часе перасяленьня „палякоў" у Польшчу ў паваенныя гады гл. М. Волаціч, тамсама, б. 25.

[18] Э. Сабаленка, тамсама, б. 107-108.

[19] М. Волаціч, тамсама, б. 25. А. Багровіч, тамсама, б. 60-63.

[20] А. Багровіч, тамсама, б. 58-59.

[21] Program Polskiego Porozumienia Niepodległościowego w Kraju ("Tydzień Polski", 15. 5. 1976. Adam Ciołkosz. Mądrość narodu (тамсама, 29. 5. 1976).

# БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ ІМЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

**Антон Луцкевіч**

30 гадоў таму, у 1946 годзе, на загад Масквы быў закрыты й раськіданы — „расфарміраваны” — віленскі Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча, музэй нязвычайна багаты памяткамі гісторыі Беларусі ды скарбамі духовае й матар'яльнае культуры беларускага народу ад часоў дагістарычных і аж да пары палітычна-нацыянальнага адраджэньня XIX-XX ст. Асноўныя багацьці музэю былі сабраныя ахвярнаю працай выдатнага археалёга й духовага правадыра беларускага нацыянальнага адраджэньня Івана Луцкевіча (25. 5. 1881 — 20. 8. 1919). Дырэктарам музэю ад часу ягонага адкрыцьця ў 1921 годзе й аж да арышту ў восені 1939 году ды дэпартацыі ў канцэнтрацыйныя лягеры, быў Іванаў брат Антон Луцкевіч (30. I. 1884 — 1946).

З нагоды 30-х угодкаў ад зьнішчэньня Беларускага Музэю ў Вільні й таксама 30-х угодкаў ад сьмерці ягонага дырэктара Антона Луцкевіча, тут дадзены ягоны вопіс калекцыяў музэю зроблены ў 1933 годзе. Артыкул перадрукоўваецца з выданьня цяпер нязвычайна рэдкага: „Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства”, кн. I, Вільня, 1933, б. 176-182. Мець трэба на ўвазе тое, што за 13-гадовы пэрыяд пасьля вопісу А. Луцкевіча, зборы музэю на час яго закрыцьця ў 1946 годзе яшчэ выдатна ўзбагаціліся.

Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча паўстаў з прыватнае калекцыі Івана Луцкевіча, якую гэты тварэц беларускага руху й няўтомны працаўнік на ніве беларускае археалёгіі зьбіраў на працягу ўсяго свайго жыцьця — ад трэцяе клясы гімназіі. Ідэяй Івана Луцкевіча й было стварэньне беларускага нацыянальнага музэю, дзеля чаго — за год да сваей передчаснай сьмерці — ён і падараваў сваю калекцыю Беларускаму Навуковаму Таварыству. Аднак Таварыства, ня маючы ўласнага памяшчэньня й карыстаючы само з прыватнае кватэры ахвярадаўцы, не магло пераняць у свае рукі цэннага дару, што вымагаў значных матар'яльных затратаў на перахаваньне калекцыі і ўсыстэматызаваньне яе. Дзеля гэтага ўсе рэчы заставаліся ў кватэры Луцкевічаў у Вільні й толькі пасьля сьмерці ахвярадаўцы — у 1921 годзе — былі

перавезеныя ў Базыльянскія муры, дзе тагачасныя ўласьнікі гмаху (Праваслаўнае Духавенства) далі бясплатнае памяшчэньне пад арганізацыю ў ім Музэю. Памяшчэньне гэтае, вельмі запушчанае за час нямецкае акупацыі, было даведзенае да належнага стану коштам двух сяброў Т-ва: брата ахвярадаўцы, Антона Луцкевіча, і інж. Лявона Дубейкоўскага.

Гэткім чынам праца ў кірунку ўсыстэматызаваньня і ўпарадкаваньня калекцыі Ів. Луцкевіча была распачатая Беларускім Навуковым Таварыствам толькі пасьля 1921 году. З гэнага часу пачынаецца й прыток новых экспанатаў — ці то ахвяраваных прыватнымі асобамі, ці набытых Таварыствам. Аднак, лік гэткіх экспанатаў, раўнуючы да калекцыі Ів. Луцкевіча, была дужа невялікая, і характар збораў застаўся ў асноўных сваіх рысах такім-жа самым, якім быў за жыцьця Ів. Луцкевіча.

Ів. Луцкевіч, творачы сваю калекцыю, меў на мэце сабраць матар'ялы, якія далі-б магчымасьць вывучэньня матар'яльнае й духовае культуры беларускага народу, беларускага мастацтва — галоўным чынам народнага, беларускае гісторыі— перад усім з часоў Вялікага Княства Літоўскага. Ад часу пераняцьця калекцыі Т-вам вельмі ўзбагаціўся аддзел архіўных матар'ялаў, датычных ваенных і паваенных часоў — часоў дзяржаўнага будаўніцтва Беларускае Народнае Рэспублікі й пэрыяду наступнага — да сягоньняшніх дзён. Узбагацілася таксама й бібліятэка пры Музэі, якая абыймае друкі ў беларускай мове й працы па беларусазнаўству. Разам з кніжкамі Ів. Луцкевіча (пераважна старадрукі), часткай бібліятэкі Е. Р. Раманава й вялікім кнігазборам Барыса Даніловіча, бібліятэка пры Музэі складаецца з блізу 14 тысячаў тамоў. У канцы 1932 году было здэпанавана ў Музэй рад цэнных прадметаў (зброя, партрэты й інш.) з Наваградчыны.

Разгледзім паасобныя аддзелы Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча й стан распрацаваньня іх.

У дагістарычным аддзеле скаталягаваных экспанатаў ёсьць каля 200. Яны складаюцца з прадметаў, што былі знойдзены пры раскопках курганоў, робленых як Ів. Луцкевічам, так і іншымі асобамі. Шмат рэчаў паходзіць з раскопак Эўстаха Тышкевіча, якія былі робленыя па ўсей Беларусі; нажаль, месца знаходу дакладна не паказанае. Цікаўныя рэчы што былі знойдзеныя ў Барысаўшчыне (ваколіцы Палялееўкі) у 1876 годзе, а такжа выкапні Тэрэбенева ў Дзісьненшчыне з 1893-4 г.г. З навейшых раскопак цікаўныя выкапні знойдзеныя ў Мядзельскай воласьці, Пастаўскага пав., і выкапні з ваколіц воз. Нарач. Агулам устаноўлена паходжаньне экспанатаў з 18 паветаў: Віленскага, Вялейскага (цяпер часткова Маладэчанскага), Сьвянцянскага, Лідзкага,

Ашмянскага, Дзісьненскага, Пастаўскага, Горадзенскага, Наваградзкага, Нясьвіскага, Менскага, Барысаўскага, Бабруйскага, Ігуменскага, Рагачоўскага, Чаўскага, Сененскага й Гомельскага. Калі-б удалося дакладней устанавіць мясцовасьці ў якіх былі робленыя раскопкі гр. Тышкевічам, дык тэрыторыя, зь якой прадстаўленыя экспанаты, напэўна шматбы пашырылася. Апрача вялікага ліку урнаў ручное лепкі й станковае работы, маем розныя прадметы з эпохі палеаліту, нэаліту, бронзавага й зялезнага пэрыядаў, а такжа цікаўныя аздобы зь серабра, усялякага роду бусы й г. д.

Вельмі даўных часоў сягае багатая сфрагістычная калекцыя, якая налічвае 103 пячаці. Найстарэйшыя — пячаці на сыгнэтах полацкіх князёў Усяслава (XI ст.) і Барыса (XII ст.). Пячаці гэтыя даюць вычэрпваючы адказ на пытаньне, якога гэрбу ўжывалі полацкія князі — патомкі Уладзімера Кіеўскага. Ня менш цікаўная пячаць, якую літоўскі дасьледчык д-р І. Басановіч закваліфікаваў як пячаць Міндаўга — з Пагоняй пад каралеўскай каронай і нейкімі знакамі, якіх расшыфраваць дагэтуль не ўдалося. Па сваім характары яны напамінаюць знакі, якія сутракаюцца на цэглах і кафлях з разбуранае сьцяны Каложскае царквы ў Горадні. Праца д-ра Басановіча аб гэтай пячаці была надрукаваная ў І кн. "Lietuviu Tauta" і ў расейскай брашуры п. з. „Печати короля Миндовга и вел. князя Кейстута", (Вильна, 1913 г.).

Гаворачы аб гэтых памятках старое беларускае й беларуска-літоўскае дзяржаўнасьці, гожа адзначыць і перахоўваную ў Беларускім Музэі копію з гэтак званага „бэрла Гедыміна", на якім, паводле даваенных досьледаў расейскіх вучоных,[1] сьпіральлю выбіты быў залатымі гваздочкамі літоўскі каляндар. Арыгінал знойдзены быў у зямлі ў 1680 г. над ракою Страваю, ніжэй Кітвішак, у Троцкім павеце. Перахоўваўся доўгі час у сям'і Сьцяпана Александровіча, кашталяна наваградзкага, пасьля перайшоў у іншыя рукі й урэшце загінуў; засталося толькі колькі копіяў.

Далей зварачае на сябе ўвагу маестатычная пячаць Яна Сабескага (кароль сядзіць на пасадзе). Цікаўныя пячаці манашых ордэнаў, манастыроў, кравецкага цэху (з часоў Сьцяпана Батуры — 1580 г.), школаў, войскаў Вялікага Княства Літоўскага, Галоўнага Трыбуналу В. Кн. Літоўскага, 17 уланскага палка з 1812 году (палк. гр. Міхал Тышкевіч), усялякіх беларускіх адраджэнскіх арганізацыяў і ўстановаў грамадзкага й дзяржаўнага характару й г. д. Нажаль, з прычыны цеснаты памяшчэньня Музэю, выстаўленая для агляду толькі невялікая частка пячацяў.

Да пячацяў у пэўнай меры далучаецца калекцыя персьцянёў, часткова з выразанымі на іх пячаткамі. Асабліва ці-

каўныя сярэднявечныя персьцяні — знакі ўлады (каштэлянаў і інш.).

Калекцыя манэтаў (сярод якіх на асаблівую ўвагу заслугоўвае багаты збор манэтаў Вял. Кн. Літоўскага), а такжа калекцыя мэдалёў дагэтуль не маглі быць выстаўленыя з прычыны нястачы месца для вітрынаў і самых вітрынаў. З апошняе выстаўлены толькі рэдкі экзэмпляр „Зьмеявіка" — бронзавага круглага мэдальёну з XI-XII стагодзьдзя з эмблемамі — з аднаго боку паганскімі, з другога — хрысьціянскімі.

Сярод прадметаў рэлігійнага культу вызначаецца калекцыя старадаўных крыжоў (ад XII ст.), складняў, царкоўных апаратаў, антымінсаў, ікон і абразоў. Вялікім багацьцем адзначаюцца сакосы віленскіх мітрапалітаў XV і XVI стагодзьдзяў, розная касьцельная снасьць і вопратка. Калекцыя іконаграфічная прадстаўляе багаты матар'ял для досьледаў над гісторыяй беларускага мастацтва й параўнаньня з расейскай іканаграфіяй (у Музэі ёсьць іконы Рублёўскае й Строганаўскае школы, Наўгародзкага пісьма й інш.). Побач зь вялікім лікам іконаў чыста бізантыйскага стылю (пачынаючы ад XIII ст.), бачым цэлую групу іконаў, якія бязумоўна маляваныя на Беларусі й прадстаўляюць нязвычайна цікаўны сынтэз бізантыйскіх традыцыяў і заходніх уплываў. Характэрныя, у вялікім ліку, каталіцкія абразы мясцовае работы. Кідаецца ў вочы сваей мастацкасьцяй абраз сьв. Анупрэя работы Смуглевіча.

Сьвецкае малярства прадстаўленае цэлым радам малюнкаў ведамых краёвых маляроў (той-жа Смуглевіч, Русецкі, Сьляндзінскі і інш.). Многа партрэтаў гістарычных асобаў, спэцыяльна зьвязаных з краем. Запачаткаванае зьбіраньне й новага беларускага й наагул краёвага малярства (Сяргіевіч, Драздовіч, Дыдзякас, Варнас і інш.), а такжа сваей і чужой скульптуры (Грубэрскі, Яхімовіч, Крэмень, Арлоўскі). Аднак, даступная для агляду далёка ня ўся гэтая калекцыя, якая ў значнай часьці яшчэ пахаваная ў папках (прыкладам калекцыя працаў Трутнева і др.).

Недаступная для агляду — усё з той-жа прычыны цеснаты памяшчэньня — і даволі багатая графіка — зарысоўкі, гравюры, дрэварыты, літаграфіі. Поруч з адбіткамі гравюраў на медзі, у Музэі перахоўваецца калекцыя граверскіх бляхаў (89 нумароў) і дрэварытных табліцаў. Сярод граверскіх бляхаў пераважаюць віленскіх гравераў зь першае паловы XIX ст.: Маўрыціус, Кармэліта, Ставэцкі, Падолінскі, Кіслінґ, Эґґерфэльдэр, Вэйсс, Больцэвіч, Навіцкі і інш. Некаторыя гравюры маюць паданае месца выкананьня — Нясьвіж, Пінск, Кельмы. XVII стагодзьдзе прадстаўленае Паўлам Флярыянам Пятровічам (1675 г.) і крыптонімам ТІК (Кельмы 1672). Пятроўскі, Пэрль рэпрэзэнтуюць XVIII ст. Уся

калекцыя прадстаўляе вельмі цэнны матар'ял для досьледаў над краёвай графікай і кіраўніцтва Музэю праектуе сарганізаваць выстаўку як граверскіх бляхаў, так і вялікае калекцыі эстампаў, як толькі апошнія будуць упарадкаваныя.

Асобную групу складаюць беларускія дрэварыты й каляровыя дрэварыты (гэтак званыя „лубкі") віленскіх майстроў з XVIII і пачатку XIX стагодзьдзя. Іх прымітывізм у рысунку й калярыстыка — нязвычайна цікаўныя. На некаторых надпісы беларускія (Павел Комар — 1750 г.), на другіх — лацінскія (1760), на іншых — польскія (1821). Тут мы ўжо падыходзім да мастацтва народнага.

Этнаграфічны аддзел у Музэі на тканіны й народную вопратку небагаты, бо калекцыя апошніх, якая ў 1918 годзе была пасланая зь Вільні на выстаўку ў Менск, пры адсылцы яе назад у Вільню падарозе прапала. Захавалася толькі калекцыя старых гарсэцікаў — сялянскіх і мяшчанскіх, сучасныя ўзоры сьвітак, збор паяскоў (адзін дыванок складаецца з 180 паяскоў, зь якіх ён сьплецены; паходзіць з Ваўкавыскага павету). Ёсьць і характэрныя гунькі. Багатая зборка зарысовак узораў беларускіх тканінаў.

Але найбольш цэннай зьяўляецца калекцыя твораў народных разьбяроў. Нязвычайна характэрныя й цікаўныя з мастацкага боку прымітыўнага тыпу фігуры Хрыста й сьвятых — з дрэва й мэталю. Кідаецца ў вочы даволі вялікая фігура Хрыста зь выбіванае меднае, пазалочанае бляхі — з маляваным тварам, рукамі й нагамі (паходзіць з Тургеляў). Асаблівым хараством адзначаюцца фігуры Хрыста работы нейкага майстры-самавучкі з ваколіц Мядзельскага возера. Ёсьць экспанаты і зь Віленшчыны, і з Наваградчыны. Для вывучэньня народнае творчасьці — неацэненае й нявыкарыстанае дагэтуль багацьце. Характэрныя й цікавыя воты з воску, складаныя ў царкву.

Народная музыка прадстаўленая калекцыяй музыкальных інструмантаў: ліра, колькі тыпаў дуды, цымбалы, трубы пастырскія й рагі ды жалейкі.

Гліна, фаянс (віленскі), шкло (Урэчча й інш.) — нешматлікія, але характэрныя. Цікаўнае люстра ўрэцкага шкла — з масонскае лёжы ў Менску. Ёсьць дошкі для друкаваньня ўзорыстага палатна („крашаніны"), якое цяпер ужо пайшло ў забыцьцё; арыгінальны вясельны каравай з зусім выразна адзначанымі сымваламі разродчае сілы (астача даўнага фалічнага культу) з Ваўкавыскага павету. Узоры хлебаробскіх прыладаў — дапаўняюць этнаграфіку.

Бытавы аддзел дапаўняюць старадаўныя вопраткі й прыборы да іх (поўны шляхоцкі ўбор — кунтуш, жупан, пояс, боты, шапка), калекцыя слуцкіх паясоў — шаўковых і літых, дываны (Тызэнгаўзаўскае фабрыкі, Нясьвіскае фабрыкі), брокаты, вышыўкі й г. д.

Militaria складаюцца з старадаўнае зброі — панцыры, кальчугі, мячы, шаблі, усялякая стрэльба, конская зброя й сядло; з навейшага часу — мундзіры ўланскія — 17 і 19 палкоў, з 1812 году. Цікаўны меч віленскага ката й прылады да мукаў.

Сярод зарысовак,[2] гравюраў і фатаграфіяў — вельмі багаты матар'ял да беларускага будаўніцтва — з каменя й з дрэва. Характэрныя блёкі, зь якіх быў пабудаваны віленскі замак ды якія Музэй мае колькіх тыпаў. Асабліва цікаўныя для вывучэньня старадаўнага беларускага будаўніцтва гэтак званыя „галасьнікі", якія паходзяць з разваліўшаеся сьцяны Каложскае царквы ў Горадні й служылі ня толькі як рэзанатары, але й для аблягчэньня цяжару сьценаў будоўлі.

Багатыя аддзелы рукапісаў і друкаў Музэю.

Рукапісны аддзел дзеліцца на дзьве групы рукапісаў. Адна складаецца з рукапісаў старых, другая — новых, архіўных матар'ялаў беларускага адраджэнскага руху, дзяржаўнага будаўніцтва й грамадзкага жыцьця наагул.

З рукапісных кнігаў трэба адзначыць, як найстарэйшы рукапіс, жухавіцкае Евангельле XIV стагодзьдзя (да вайны перахоўвалася ў царкве ў Жухавічах, у Наваградчыне). Евангельле мае цікаўныя ілюмінацыі: чатырох евангелістых і застаўкі на пачатку кажнага евангельля. Фармат Евангельля — ў ліст. Пятнаццаты век прадстаўлены „Аглашэньнямі" Тодара Судыта. Рукапіс захаваны вельмі добра, пісаны паўуставам, разьмер у ліст. Як паказвае цікаўная мэтрыка, кніга гэтая пісаная нейкім Іванчыкам, служкаю Івана Семяновіча, пісара вялікага князя Аляксандра, у Вільні ў 1476 годзе.

Багацейшы рукапіснымі кнігамі XVI век. Тут маем: дужа пекнае Евангельле зь ілюстрацыямі (чатыры евангелісты й вельмі прыгожыя застаўкі), разьмер 1/4 ліста, паходзіць зь Мялішава, каля Берасьця; Слуцкі Памяньнік з 1517 году (in folio); Дзеяньні Апосталаў зь сямейнай хронікай Бунакоў (кальвіністых) спад Росеняў (на Жмудзі), пісаныя ў пачатку XVII ст. у беларускай і польскай мове (in folio); Трэбнік з 1545 году, пісаны дзяком Ярмолай у двары Шышкінях „подле места Віленскага, за ракою Вельею" для царквы ў Жыровіцах па загаду маршалка Аляксандра Солтана, як сьветчыць мэтрыка на рукапісе, аздобленым дзьвюма прыгожымі застаўкамі (in folio).

На ўвагу заслугоўвае беларускі рукапіс арабскімі літарамі — гэтак званы Аль Кітаб (in folio) з Сорак Татараў пад Вільняй. Аль Кітаб транскрыбаваны на лацініцу ў Пражскім унівэрсытэце стараньнем сябры Беларускага Навуковага Таварыства д-ра Я. Станкевіча й прадстаўляе вялізарную цэннасьць для вывучэньня беларускае мовы XVI ст.

Да цікавейшых рукапісных памятак XVII ст. трэба залічыць Устаў Младзенчаскага Брацтва ў Дзісьне (in folio),

а XVII ст., дакладней канца яго (а мо й пачатку XIX?) — сьпісак, што хадзіў па рукох на працягу колькіх стагодзьдзяў, беларускага перакладу Александрыі ды повесьці пра Баву, ня згубіўшых, як відаць, сваёй цікаўнасьці сярод беларусаў і ў такі позны час.

Багатая (хоць яшчэ не апрацаваная поўнасьцю) зборка старадаўных беларускіх граматаў прыватнага й дзяржаўнага характару, пачынаючы ад другое паловы XV стагодзьдзя (пэргамэнты). І тут найбагацей граматы з XVI стагодзьдзя — пэргамэнты з подпісамі каралёў і г. д. Вельмі цікаўныя архіўныя матар'ялы, што датычаць дзейнасьці й жыцьця Базыльянаў (ад XVI ст.). Наагул archivalia мала апрацаваныя й могуць яшчэ выкрыць шмат цікаўнага для гісторыкаў, філялёгаў і іншых дасьледчыкаў.

Больш упарадкаваныя новыя archivalia што датычаць беларускага руху. Аднак і іх апісаньне вымагае яшчэ вялікае працы.

Аддзел старадрукаў багаты выданьнямі краёвых друкарняў — у першы чарод беларускімі. З краёвых друкаў ёсьць кніжкі друкаваныя ў Вільні, Еўі, Лоску (вельмі рэдкі друк), Горадні, Супрасьлі, Семятычах („пакаёвая друкарня"), Нясьвіжы, Слуцку, Полацку, Магілеве, Кутэйне й інш.

З замежных старадрукаў найцікавейшыя: „Тріодь Цветная", друкаваная ў Кракаве ў Швайпольта Фэоля ў 1491 г. па загаду Казімера Ягеллона; Біблія д-ра Франьцішка Скарыны, друкаваная ў Празе ў 1517 годзе (частка); першы маскоўскі друк Пётры Мсьціслаўца й Івана Фёдарава з 1564 году („Часаслоў") і інш. З краёвых — першае друкаванае выданьне Літоўскага Статуту ў беларускай мове (друкарня Мамонічаў у Вільні — 1588 г.); віленскі-ж друк „Казаніе Кирила" з 1596 г.; „Учительное Евангеліе" 1618 году з друкарні ў Еўі; Повесьць пра Варлаама й Іоасафа з Кутэйнскае друкарні (1637 г.) — ды шмат іншых, вельмі цікаўных для дасьледчыкаў старое беларускае літаратурнае мовы XVI і XVII стагодзьдзяў.

З больш новых друкаў у беларускай мове заслугоўваюць на ўвагу першыя ластаўкі адраджэнскага руху з XIX стагодзьдзя: А. Рыпінскага "Białoruś" (Парыж, 1840), зборнікі песьняў Яна Чачота, Беларускі Катахізм з 1835 году, першыя выданьні твораў Дунін-Марцінкевіча й Багушэвіча (апошняга — заграні́чныя выданьні), рэдкія брашуры палітычнага характару (Драгаманава „Пра беднасьць та багацтво", Жэнэва 1881), экзэмпляр падпольнага часапісу беларусаў-нарадавольцаў у расейскай мове „Гомон" з 1884 г. (№ 2), друкі з пачатку XX стагодзьдзя, камплекты першых беларускіх газэтаў — „Нашае Долі" й „Нашае Нівы" й г. д. Наагул, у Музэі сабраныя гадавікі часапісаў і кніжак усякага зьместу што выходзілі ў беларускай мове.

Пакольки кнігазбор Івана Луцкевіча й частка кнігазбору Раманава — у адносінах да сучасных друкаў — маюць асаблівую вагу для беларусазнаўства, патолькі кнігазбор Даніловіча багаты кнігамі агульна навуковага характару. Асабліва цэнная зборка гэтак званых „таўстых" расейскіх журналаў, што выходзілі на працягу колькіх дзесяткаў гадоў. Тут — нязвычайна багаты матар'ял для вывучэньня грамадзкага жыцьця й грамадзкіх настрояў у даваеннай Расеі.

Кіраўніцтва Музэем ляжыць на абавязку Музэйнае Рады, што працуе як сэкцыя Беларускага Навуковага Таварыства. Музэйная Рада складаецца з трох асобаў: дырэктара Музэю (А. Луцкевіч), бібліятэкара (Ул. Самойла) і скарбніка Т-ва (інж. А. Нэканда-Трэпка). Беспасярэдня працуюць у Музэі толькі дзьве асобы — гр. гр. Луцкевіч і Самойла, дзеля чаго праца ня можа разьвівацца ў належным тэмпе. Другая прычына павольнасьці музэйнае працы — цесната памяшчэньня Музэю й нястача грошаў на неабходныя інвэстыцыі, перад усім — габлёты, шкляныя шафы й г. д. Наагул, бяз сталага, забясьпечанага на доўгія гады й адпаведна абшырнага ўласнага памяшчэньня справа належнага разьвіцьця Музэю й поўнага выкарыстаньня сабраных у ім скарбаў ня можа быць пазытыўна разьвязаная.

## THE IVAN ŁUCKIEVIČ BYELORUSSIAN MUSEUM IN VILNA

**by Anton Łuckievič**

**Summary:** The Byelorussian Museum in Vilna, inaugurated in 1921, had as its base the rich private collection donated by Ivan Łuckievič (1881-1919), archeologist and political leader. Thirty years ago, in 1946, this Museum was closed by Moscow's order, and its collections dispersed among various museums of the Lithuanian SSR. In the same year of 1946, Anton Łuckievič, Ivan's brother and former director of the Museum, perished in a Soviet concentration camp.

In order to preserve for history data about the riches of the Vilna Museum, a description made of it in 1933 by Anton Łuckievič is reprinted here.

---

[1] Гл. стацьцю М. Гусева ў „Известия Императорского Археологического Общества", т. V, стр. 335.

[2] Сярод зарысовак асаблівую ўвагу зварочваюць на сябе альбомы Я. Драздовіча.

# "МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА" — НАБАТ ПАЎСТАНЬНЯ 1863 ГОДУ

**Янка Запруднік**

**У нас, Дзяцюкі, адно учаць у школах, каб ты знаў чытаці па маскоўску, а то для того, каб цебе заўсім перэрабілі на маскаля.**
**„Мужыцкая Праўда" № 4**

Сем нумароў нелегальнае беларускае газэты „Мужыцкая Праўда" становяць ці не найгалаўнейшую крыніцу для вывучэньня паўстаньня 1863 году на Беларусі й сьветагляду ягоных кіраўнікоў. Дасьледніцкая літаратура пра „Мужыцкую Праўду" даволі багатая.[1] Не зважаючы на гэта, аднак, доступ да самых тэкстаў газэты вельмі ўскладнены, а ў савецкіх падкантрольных умовах для шмат каго проста немагчымы. Тым ня менш, савецкія аўтары аднадушна заяўляюць пра важнасьць газэты — для вывучэньня характару паўстаньня, станаўленьня беларускае журналістыкі, літаратурнае мовы, і г. д.

Гэтак, паводля Івана Лушчыцкага, на аўтарытэт якога часта спасылаюцца іншыя дасьледнікі, „ ‚Мужыцкая Праўда' адыграла вялікую ролю ў справе падрыхтоўкі паўстаньня 1863 году. Яна ўпяршыню на беларускай мове несла рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі ў асяродзьдзе сялянства, выхоўвала яго ў духу нянавісьці да прыгоньніцтва і самаўладзтва, заклікала на барацьбу зь імі".[2]

А. Ф. Сьмірноў, аўтар вялікага ліку працаў пра паўстаньне 1863 году й пра Кастуся Каліноўскага, заве „Мужыцкую Праўду" „першым зваротам з вольным і праўдзівым словам да селяніна-беларуса ў ягонай роднай мове".[3]

Генадзь Кісялёў, плённы дасьледнік гісторыі Беларусі XIX ст., схарактарызаваў „Мужыцкую Праўду" як „вольнае беларускае слова", а Кастуся Каліноўскага — як „вялікага знаўцу народных гаворак, які тонка адчуваў слова, унёс буйны ўклад у справу стварэньня беларускай літаратурнай мовы". „ ‚Мужыцкая Праўда', — кажа Г. Кісялёў, — ня толькі палітычны дакумэнт, але й літаратурны твор".[4]

Фёдар Янкоўскі, аўтар „Гістарычнае граматыкі беларускае мовы", ацэньваючы „Мужыцкую Праўду" з гледзішча ейнага культурнага значаньня, залічае газэту да „найбольш прыкметных літаратурных зьяваў XIX ст."[5]

А Міхаіл Цікоцкі ў сваёй манаграфіі, быццам падагульняе ўсіх іншых, кажучы пра газэту: „ ‚Мужыцкая Праўда’, якую ён (Каліноўскі — Я. З.) пісаў, рэдагаваў і распаўсюджваў, — цудоўны дакумэнт гэраічнай эпохі 60-х гадоў на Беларусі”.[6]

Калі ў дасьледніцкіх працах пра „Мужыцкую Праўду” часта пішацца з агаворкамі — „Каліноўскі не разумеў сацыяльнае сутнасьці ўлады, ідэалізаваў мінуўшчыну” й г. д. — дык у папулярнай літаратуры, улучаючы сюды й школьныя падручнікі, Кастусь Каліноўскі й ягоная „Мужыцкая Праўда” беззасьцярожна ўсхваляюцца, як прыкладам у падручніку для сярэдніх школаў „Беларуская літаратура”:

> Добрае веданьне жывой мовы, традыцыйных форм народных гутарак, уменьне карыстацца сакавітым народным гумарам, часам грубаватым, але трапным і дакладным, спалучэньне тонкага лірызму са зьедлівай сатырай — усё гэта дазволіла К. Каліноўскаму весьці на старонках газэты простую, сардэчную размову зь сялянамі, умела будзіць і весьці іх думку, апэрыраваць даступнымі ім паняцьцямі, прыводзіць зразумелыя яскравыя паралелі.
>
> Газэта „Мужыцкая Праўда” вызначалася сваёй мэтанакіраванасьцю, глыбінёй пастаноўкі і вырашэньня пытаньня, вострым палітычным запалам, заклікамі да барацьбы з прыгнятальнікамі. Яна была першым узорам беларускай публіцыстыкі.[7]

У ўмовах партыйнага таталітарнага „ўзгадоўваньня масаў” вытварыўся парадаксальны стан: савецкай уладзе даводзіцца хаваць ад народу тое, што яна хваліць — „цудоўны дакумэнт гэраічнай эпохі 60-х гадоў”, „Мужыцкую Праўду”, — каб ад поўнага тэксту газэты не разьвеялася хвальшывая інтэрпрэтацыя эпохі, якую яна адлюстроўвае. Не выпадкова пра „Мужыцкую Праўду” ў савецкай гістарыяграфіі сьпісана паперы ў сто разоў больш, як самых тэкстаў газэты.

### Дзе тэксты „Мужыцкае Праўды”?

Тэксты ўсіх сямёх нумароў — лацінкаю, гэтак як у арыгінале — былі апублікаваныя ўпяршыню ў кнізе С. Агурскага „Очерки по истории революционного движения в Белоруссии, 1863-1917”, выдадзенай у Менску Белдзяржвыдавецтвам у 1928 годзе (бб. 211-219). Агурскі-ж дастаў іх зь Інбелкульту, як сам пра гэта піша: „ ‚Мужыцкая Праўда’ з № 1 па 7 дадзеная нам Інбелкультам, для якога гэты тэкст быў зьняты з арыгіналу жандарскіх справаў т. І. Віткоўскім” (б. 211).

Заслугу С. Агурскага ў выданьні тэкстаў „Мужыцкае Праўды" адзначыў А. Ф. Сьмірноў у сваім артыкуле пра газэту ў зб. „Восстание 1863 года и русско-польские революционные связи 60-ых годов" (Выд. АН СССР, Масква, 1960, бб. 11-12): „Заслуга аўтарава значная, бо экзэмпляры ‚Мужыцкае Праўды' даўно сталіся бібліяграфічнай рэдкасьцяй і раськіданыя па розных архівах і фондах. Нат найбольш поўная калекцыя, што знаходзіцца ў справах III аддзелу, ня мае сёмага нумару — ЦКИМ, ф. 109, I эксп., 1862 г., д. 230, ч. 143, лл. 13, 86, 93 и др.".

Да Агурскага тры нумары газэты — 3-і, 5-ы й 7-ы — апублікаваў Ал. Шлюбскі ў першым нумары часапісу „Полымя" за 1926 год (бб. 160-166). Шлюбскі не карыстаўся, аднак, арыгіналамі: ён перадрукаваў нумары 3-і й 7-ы з ковенскага часапісу "Karo Archyvas, redagavo majoras V. Steponaitis. I. Kaunas, Vyriausiojo štabo karo mokslo skyriaus leidinys. MCMXXV", а нумар 5-ы — з газэты „Савецкая Беларусь" (№ 192 за 1923 г.).

Расейскія пераклады „Мужыцкае Праўды" — з зазначэньнем, што арыгіналы знаходзяцца ў кнізе Агурскага (гл. вышэй) — былі апублікаваныя ў зборніках дакумэнтаў, што былі выдадзеныя ў Маскве (выд. „Навука") у 1964 і 1965 гадох: „Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861-1862 гг." (бб. 124-133 — „Мужицкая Правда" (№№ 1-6) і „Восстание в Литве и Белоруссии 1863-1864 гг." (бб. 25-26 — „Мужицкая Правда" № 7).

У 1966 годзе ў Польшчы тэксты ўсіх сямёх нумароў „Мужыцкае Праўды" былі апублікаваныя ў арыгінале ў зборніку дакумэнтаў польскае Акадэміі навукаў "Prasa tajna z lat 1861-1864". Część I. Wrocław-Warszawa-Kraków (str. 318-329).

Фатастаты першых старонак некаторых нумароў газэты (друкавалася яна пераважна на двух бакох аднаго ліста; фармат быў розны — у цэнтымэтрах: 12,5 x 23, 25 x 23, 21 x 23) можна знайсьці ў працах паасобных дасьледнікаў. Гэтак, прыкладам, фатастат першае старонкі першага нумару пададзены ў вышэй згаданым зборніку польскае Акадэміі навукаў „Праса тайна" (б. 319), а таксама ў маскоўскім зборніку 1964 году „Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861-1862 гг." (б. 125). Фатастат першае старонкі 3-га нумару падаў у манаграфіі І. Лушчыцкі — „Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і фаласофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку" (выд. БДУ, Мінск, 1958, б. 135). Фатастаты 1-га й 5-га нумароў (5-ы нумар увесь зьмешчаны на адным боку ліста) пададзеныя ў згаданым вышэй артыкуле А. Ф. Сьмірнова „Мужицкая Правда" ў зб. „Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х годов" (Масква, 1960, бб. 27 і 29).

У 1971 годзе была зробленая спроба ў Менску апублікаваць максымум тэкстаў „Мужыцкае Праўды" ў хрэстаматыі „Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя".[8] Складальнікі хрэстаматыі змушаныя былі, аднак, пайсьці на кампраміс з цэнзурнымі вымогамі. Апублікаваныя імі тэксты пярэсьцяцца ад шматкроп'я. Дзе студэнты маглі-б знайсьці поўныя тэксты газэты, складальнікі не сказалі, не датрымаўшы свайго-ж абяцаньня на пачатку кнігі (б. 4), што ў камэнтарох да яе „адзначаюцца першакрыніцы". Прамоўчаная кніга Агурскага, як крыніца тэкстаў „Мужыцкае Праўды", і ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі. Даведка ў БелСЭ пра „Мужыцкую Праўду" (т. 7, б. 302) адсылае чытача па поўныя тэксты газэты да найменш даступнага на Беларусі польскага зборніка „Праса тайна" (гл. вышэй). Маўчыць БелСЭ і пра тры нумары „Мужыцкае Праўды", апублікаваныя Шлюбскім у часапісе „Полымя"; маўчыць таксама пра расейскія пераклады газэты ў маскоўскіх зборніках 1964 і 1965 гадоў „Революционный подъем" і „Восстание в Литве и Белоруссии" (гл. вышэй).

Савецкія дасьледнікі, калі цытуюць „Мужыцкую Праўду", дык робяць гэта пераважна без спасылак на друкаваную крыніцу, а падаюць толькі ў дужках нумар газэты. Некаторыя-ж зь іх, як прыкладам Іван Лушчыцкі ў згадванай ягонай манаграфіі „Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і фаласофскай думкі ў Беларусі", цытуючы „Мужыцкую Праўду", спасылаюцца на архівы Масквы, Ленінграду, Вільні (але ня Менску).

Хоць патрэба апублікаваньня поўных тэкстаў гэткага ключавога гістарычнага дакумэнту як „Мужыцкая Праўда" відавочная, у савецкіх афіцыйных выданьнях вельмі рэдка пра гэта гаворыцца. На тым большую ўвагу заслугоўвае голас пяцёх студэнтаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў газ. „Літаратура і Мастацтва" з 25. IX. 1964 г.:

> У апошнія гады, пасьля XX і XXII зьездаў партыі, карэнным чынам перагледжана гісторыя беларускай літаратуры. Але, нажаль, мы і цяпер ня маем выданьняў шмат якіх твораў нашай літаратурнай спадчыны. Пры вывучэньні публіцыстыкі Каліноўскага даводзіцца гартаць старыя кнігі, каб знайсьці тэксты яго „Мужыцкай Праўды" . . .

Зусім нядаўна, 24. IX. 1976 г., якраз на дванаццатыя ўгодкі заявы пяцёх студэнтаў БДУ, газэта „Літаратура і Мастацтва", пад заг. „Надзённыя пытаньні", паведаміла пра першае паседжаньне новастворанае „гісторыка-мэмарыяльнае камісіі" Саюзу пісьменьнікаў БССР. На паседжаньні тым „члены камісіі выказалі думку, што больш увагі неабходна ўдзяліць выданьню спадчыны рэвалюцыйных дэмакратаў К. Каліноўскага, А. Гурыновіча, К. Каганца . . ."

Можа публікацыя тэкстаў газэты Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва за акіянам у Нью-Ёрку прывядзе ўрэшце да разьвязаньня ў Менску аднаго з „надзённых пытаньняў" — выданьня „цудоўнага дакумэнту гэраічнае эпохі", поўных тэкстаў „Мужыцкае Праўды" для савецкага дасьледніка й чытача.

## Варыянты тэкстаў і мовы газэты

Тэксты й мова „Мужыцкае Праўды" дайшлі да нас у розных варыянтах. Варыянты гэтыя йдуць ад таго перш-наперш, што „асобныя нумары перадрукоўваліся паўторна" ды „мелі некаторыя адрозьненьні",[9] а таксама, і, бадай, у большай меры — ад таго, што перапісчыкі й друкары рабілі памылкі. Непасьлядоўнасьць у мове была і ў выдаўцоў газэты. Усе галоўныя тэкстуальныя разыходжаньні ў нас адзначаныя адпаведнымі зноскамі. Апублікаваныя ніжэй тэксты ў асноўным узятыя з кнігі Агурскага. Пры супаставе тэкстаў Агурскага з наяўнымі фатастатамі, калі выяўлялася розьніца, мы трымаліся фатасттату, як дакумэнту больш аўтэнтычнага. Абзацы й пунктуацыя захаваныя паводля Агурскага, калі не разыходзяцца з фатастатам.

Паміж тэкстамі Агурскага й зб. „Праса тайна" вельмі шмат моўных разьбежнасьцяў, зашмат, каб кожную адзначаць зноскаю. Затым, аднак, што „Мужыцкая Праўда" важная й для вывучэньня мовы, мы падаём ніжэй, дзеля параўнаньня, варыянты некаторых словаў у Агурскага й „Прасе тайнэй".

| **Агурскі** | | **„Праса тайна"** | |
|---|---|---|---|
| tolki | dabici sie | tolko | dabici sia |
| piśmo | życio | pismo | życie |
| panskaho | jeść | pańskaho | je |
| ksiązki | swaho | księzki | swojeho |
| niczoho | czaławiek | niczeho | człowiek |
| pańszczyznu | naszej | panszczynu | naszaj |
| samoho | niebiesnoje | samaho | niebieskoje |
| sudziecież | chacieu | sudzicież | chocieu |
| wolnaść | swieta | wolność | swiata |
| abjawlali | podusznie | abjaulali | poduszne |
| swiecie | pasiarednika | swieci | posierednika |
| niewolu | niebuło | niawolu | niebyło |
| heta | niekruty | heto | nekruty |

У трох нумарох „Мужыцкае Праўды", апублікаваных Шлюбскім у „Полымі", ёсьць падобныя разьбежнасьці, а ёсьць і проста бяссэньсіца (Шлюбскі перадрукоўваў не з

арыгіналаў і не лацінкаю, а кірыліцай — што магло яшчэ пабольшыць лік памылак). Шлюбскі, ня могучы расшыфраваць некаторых словаў, пакідаў іх у лацінічным напісаньні: "czcien" (у арыгінале — "chacieu"), "nadurad" (у арыгінале "nam rąd"), "pamoju rukoju" (у арыгінале — "pounaju rukoju"), „окураці" (у арыгінале — "aszukaci") і да г. п.

**Месца выданьня „Мужыцкае Праўды"**

Месца выданьня „Мужыцкае Праўды", газэты падпольнае, не ўстаноўленае. У зборніку „Праса тайна" кажацца: ‚Друкавалі яе праўдападобна ў розных месцах, пераважна ў Беластоку, Горадне й Вільні" (б. 318).

У зб. „Революционный подъем в Литве и Белоруссии" (Масква, 1964) проста кажацца, што газэта выходзіла ў Горадзенскай губэрні (б. 133).

Пашыралася-ж „Мужыцкая Праўда" па цэлай Беларусі, а таксама ў Ліцьве й Лацьвіі.

**Аўтарства „Мужыцкае Праўды"**

У публіцыстычнай і мастацкай літаратуры ды некаторых дасьледніцкіх працах Кастусь Каліноўскі падаецца як аўтар „Мужыцкае Праўды" — „якую ён пісаў, рэдагаваў і распаўсюджваў".[10] А. Ф. Сьмірноў, артыкулы якога прысьвечаныя выключна „Мужыцкай Праўдзе" і на якога найчасьцей спасылаюцца іншыя аўтары, кажа: „беспасярэдніх паказаньняў самога Каліноўскага пра пісаньне ці выдаваньне ім ‚Мужыцкае Праўды' мы ня маем".[11] Тым ня менш, разглядаючы сьветчаньне Урублеўскага, найбліжэйшага паплечніка Каліноўскага, пра тое, што „выданьне ‚Мужыцкае Праўды' ня было справай аднаго чалавека", Сьмірноў адзначае ўсё-ж, што „найгалаўнейшую ролю граў К. Каліноўскі", што ён „быў рэдактарам органу групы — ‚Мужыцкая Праўда' ".[12] Вось да якое высновы прыходзіць Сьмірноў у сваім аналізе праблемы аўтарства газэты:

> Сьветчаньне Ражанскага поўнасьцяй супадае з паказаньнямі В. Урублеўскага й не пакідае сумлеваў як у тым, што Каліноўскі быў рэдактарам „Мужыцкае Праўды", гэтак і ў тым, што газэта — плод калектыўнае працы, выражэньне думак і паглядаў рэвалюцыйнае групы, што рыхтавала народ да паўстаньня. Яно цікавае яшчэ й затым, што паказвае неаднароднасьць складу групы горадзенскіх рэвалюцыянераў. У ёй мы знаходзім і прадстаўнікоў ніжэйшага духавенства, і ахвіцэраў, і інтэлігенцыю . . .

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што „Мужыцкая Праўда" самым цясьнейшым парадкам зьвязаная зь імём Каліноўскага.

Няма дадзеных, каб катэгарычна цьвердзіць, што ён быў аўтарам кожнага радка ў кожным нумары. Больш правільнай будзе выснова, што шэраг нумароў быў напісаны Каліноўскім, а ў цэлым уся „Мужыцкая Праўда" выдавалася ім з дапамогаю У. Урублеўскага й Ф. Ражанскага пад іхным супольным кантролем.[13]

У анатацыях да зб. „Праса тайна" кажацца: „У рэдагаваньні ,Мужыцкае Праўды' бралі ўдзел: Кастусь Каліноўскі, Валеры Урублеўскі, Фэлікс Ружанскі, Станіслаў Сонгін. Псэўдонім ,Яська гаспадар спад Вільні', якім падпісаны кожны нумар, трэба ўважаць за супольны для цэлае рэдакцыйнае калегіі".[14]

## Кастусь Каліноўскі й рэлігія

У Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі Кастуся Каліноўскага запісалі ў атэісты: „Як атэіст, — чытаем там, — Каліноўскі крытыкаваў догмат пра тое, што Бог стварыў людзей і даў ім аднолькавую душу. Мужыцкую праўду ён ставіў вышэй за Бога. Не малітвамі, ня верай у Бога, а шляхам рэвалюцыі заклікаў ён зьмяніць тагачасны сьвет".[15] Іван Лушчыцкі, які напісаў для БелСЭ артыкул пра Каліноўскага, спасылаецца далей на вырваную з кантэксту й абрэзаную цытату з „Мужыцкае Праўды".

Паколькі, аднак, адзін зь сямёх нумароў газэты, нумар шосты, увесь прысьвечаны абароне вуніяцкае рэлігіі, а з кантэксту ўвесь нумар вырваць нельга, дык савецкія дасьледнікі ставяць пад сумлеў якое-колечы дачыненьне Каліноўскага да шостага нумару наагул. БелСЭ, артыкул для якое пра „Мужыцкую Праўду" напісаў Г. Кісялёў, цьвердзіць: „Ад астатніх нумароў адрозьніваецца шосты, які меў рэлігійную ахварбоўку; напісаны, відаць, тымі членамі групы К. Каліноўскага, што не да канца падзялялі яго рэвалюцыйна-дэмакратычныя погляды".[16] Пра абарону вуніяцкае рэлігіі вядзецца, аднак, гутарка і ў іншых нумарох „Мужыцкае Праўды": у 3-м, 5-м і 7-м. Прыпісваньне аўтарства 6-га нумару камусьці іншаму сытуацыі аніяк не мяняе.

Для разуменьня становішча Каліноўскага й іншых рэвалюцыянераў 1863 году ў рэлігійным пытаньні трэба ўзяць на ўвагу факты гістарычнае пары. У канцы XVIII ст. больш як 80% сельскага жыхарства Беларусі было вуніятамі.[17] Афіцыйна Вуніяцкая царква на Беларусі была скасаваная адно 24 гады перад паўстаньнем 1863 году, прычым скасаваньне гэнае суправаджалася гвалтамі над вернікамі й духавенствам. „Гістарычныя факты кажуць — мякка адзначае й А. Ф. Сьмірноў, — што скасаваньне вуніі, праведзенае ў 1839 годзе, у шэрагу месцаў дзеля грубога адміністрацыйнага ўмеш-

ваньня ўладаў у веравызнавальныя справы ўзбуджала незадаваленьне."[18]

Каліноўскі, як таленавіты рэвалюцыянер-арганізатар, ня мог ня ўлічаць рэлігійных настрояў сялянскіх масаў ды выкарыстоўваў гэтыя настроі для рэвалюцыйнай антымаскоўскай прапаганды. Да рэлігійных пачуцьцяў народу падыходзіў ён як да вельмі важнага фактару, які трэба было браць на ўвагу ў змаганьні супраць царызму, падпарадкоўваючы яго вышэйшай стратэгічнай мэце — уздыму масавага народнага паўстаньня.

Рэлігійныя перакананьні самога Каліноўскага, што паходзіў з каталіцкае сям'і — важнае пытаньне, але перакананьні гэтыя не абавязкава раскрываюцца прапагандавымі артыкуламі-заклікамі „Мужыцкае Праўды". На яе старонках пытаньне рэлігі трактавалася перш-наперш як пытаньне рэвалюцыйнае тактыкі паўстаньня, а не асабістых перакананьняў рэдактара ці рэдактароў газэты, вуніятамі якія ня былі. Улічваліся галоўна рэлігійныя перакананьні й пачуцьці тых, для каго газэта пісалася — сялянаў. Каліноўскі быў ня рэлігійным прапаведнікам, а прапаведнікам народнае рэвалюцыі.

### Значаньне слова „маскаль" у „Мужыцкай Праўдзе"

У ўсіх сямёх нумарох „Мужыцкае Праўды" словы „маскаль", „маскалі" (ды таксама словы „маскоўскі", „маскоўская" й г. д.) ужытыя 48 разоў. У якім значаньні?

Савецкія гісторыкі й пісьменьнікі, пішучы пра Кастуся Каліноўскага й паўстаньне 1863 году, тлумачаць гэтае пытаньне на адзін лад:

> Слова „маскаль" у Беларусі, а таксама ў Польшчы, Ліцьве й на Украіне ў XIX ст. мела тры значаньні: 1. цар або прадстаўнік царскіх уладаў; 2. салдат; 3. расеец. Суадпаведныя значаньні мела й вытворнае ад яго слова „маскоўскі". У „Мужыцкай Праўдзе" гэтыя словы ўжываюцца ў пераважнай бальшыні выпадкаў у першым значаньні.[19]

Дзеля належнага разуменьня гэтага ключавога тэрміну, не без карысьці будзе глянуць, як-жа тлумачаць яго акадэмічныя слоўнікі расейскае мовы.

### Тлумачальны слоўнік Даля:

> **Москаль, м. юж. москвич, русский; солдат, военнослужащий. От москаля,** хоть полы отрежь, да уйди! Кто идет? Чорт! Ладно, абы не москаль. С москалем дружись, а камень за пазухой держи (а за кол держись). Мутит, как москаль на селе, т. е. солдат. Не за то бьют москаля, что крадет, а чтобы концы хоронил. *Знает москаль дорогу, а спрашивает!*[20]

**Тлумачальны слоўнік Ушакова:**

**Москаль,** *я,* м. (дореволюц. пренебр.). Шовинистическое прозвище, прилагавшееся жителями Украины и Белоруссии к русским, представителям Московского государства, а также к солдатам.[21]

**Слоўнік сучаснае расейскае літаратурнае мовы:**

**Москаль, я, м. Устар., простореч. Шовинистическое прозвище русских и солдат в дореволюционной Украине, Белоруссии и в старой Польше.** Если сами малороссы не совсем доверяют нам, так этому виной такие исторические обстоятельства, в которых участвовала административная часть русского общества, а уж никак не народ. Да это, впрочем, понимает масса людей в самой Малороссии: москалями зовут там солдат, так точно, как панами зовут помещиков.
Доброл. Расск. из нар. русск. быта (рец.).[22]

Цікава адзначыць тут, што ўсе тры слоўнікі на першым месцы падаюць не сацыяльны аспэкт азначэньня, а нацыянальны: „маскаль — расеец", а тады — „маскаль" — прадстаўнік улады, салдат. У „тлумачальнікаў"-жа „Мужыцкае Праўды" выходзіць наадварот. Іван Лушчыцкі, прыкладам, каб падтрымаць сваё „тлумачэньне" гэтага тэрміну, спасылаецца[23] на выказваньне Дабралюбава, якое падае й „Слоўнік сучаснае расейскае літаратурнае мовы". Тымчасам куды бліжэй да праўды было-б у гэтым выпадку спаслацца на самога Леніна, які ў 1917 годзе казаў:

...Весь народ польский пропитан насквозь одной мыслью о мести москалям. Никто так не угнетал поляков, как русский народ. Русский народ служил в руках царей палачом польской свободы.[24]

Ленін, праўда, казаў пра палякоў, а не пра беларусаў. Але сказанае ім поўнасьцяй датычыла й да стану на Беларусі ў 1862-1863 гадох, дый паўстаньне-ж на Беларусі, не зважаючы на разыходжаньні ў Каліноўскага з Варшавай, рабілася разам з Польшчай. У гэткім ленінскім значаньні ўжывалася слова „маскаль" і ў беларускай літаратуры XIX-пачатку XX стагодзьдзя. У гэткім значаньні ўжывалі яго Янка Купала, Якуб Колас ды іншыя пісьменьнікі ў сваёй творчасьці.

Янка Купала:

Проста жывём мы, як доля лучыць,
І крывадушыць не прабавалі...
Просім папросту: кіньце нас мучыць,
ляхі, маскалі![25]

Якуб Колас:

Толькі-ж, брацьце, край ня зьгінуў,
Не пагнуўся яго стан,
І із нас душы ня выняў
Ні маскаль, ні польскі пан.[26]

Незалежна ад таго, якія іншыя, прыхільныя або няпрыхільныя, выказваньні Каліноўскага пра расейскі народ знаходзяцца ў архівах — у „Мужыцкай Праўдзе" словы „маскаль" і „маскоўскі" на ўсе 48 разоў 39 разоў азначаюць расейцаў.

**„Мужыцкая Праўда" й русыфікацыя**

Паўстаньне 1863 году як на Беларусі й Жамойці, гэтак і ў Польшчы, мела **нацыянальна-вызвольны** характар. Звужваньне-ж яго савецкай гістарыяграфіяй і публіцыстыкай галоўна да **сацыяльнага** аспэкту — нічога іншага, як спроба прыхаваць якраз тое, што родніць савецкі рэжым з царскім: расейскі імпэрыялізм і русыфікацыю.

Выдаўцы „Мужыцкае Праўды" добра ўсьведамлялі сабе маскоўскі імпэрыялізм зь ягонай народагубнай палітыкай русыфікацыі, калі пісалі ў 4-м нумары газэты: **„У нас, Дзяцюкі, адно учаць у школах, каб ты знаў чытаці па маскоўску, а то для того, каб цебе заўсім перэрабілі на маскаля".**

Мясьціны гэтае савецкія аўтары ня цытуюць і не камэнтуюць. На яе накладзеная маўклівая забарона. Яна тлумачыць у вялікай меры, чаму поўныя тэксты „Мужыцкае Праўды" цяпер не перадрукоўваюцца ў савецкай Беларусі.

Сэнс-жа гэтых словаў нагэтулькі ясны, што яго ня прыхаваеш ніякай казуістыкай „марксыцка-ленінскае мэтадалёгіі". Актуальнасьць гэтых словаў сяньня — 115 гадоў пасьля таго, як яны былі напісаныя — нагэтулькі войстрая, што партыйная цэнзура й дасюль баіцца іхнага ўзьдзейваньня на псыхалёгію сучасных беларусаў. Гэтыя словы найвымоўней кажуць пра тое, што змаганьне, на якое Кастусь Каліноўскі ўздымаў беларускі народ, і ў якім сваё жыцьцё ахвяраваў, яшчэ ня скончанае.

---

[1] Працы пра „Мужыцкую Праўду" часткава пералічаныя ў даведніку „Бібліяграфія па гісторыі Беларусі. Феадалізм і капіталізм", Мінск, 1969, бб. 218-219.

[2] І. Лушчыцкі. Нарысы па гісторыі грамадзка-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку. Мінск, выд. БДУ, 1958, б. 133.

[3] А. Ф. Смирнов. „Мужицкая правда" (у зб. Восстание 1863 года и русско-польские революционные связи 60-х годов. Москва, издат. АН СССР, 1960, б. 11).

[4] Генадзь Кісялёў. Сейбіты вечнага. Мінск, Дзярж. выд. БССР, 1963, бб. 66, 67.

[5] Ф. Янкоўскі. Гістарычная граматыка беларускай мовы. Ч. I, Мінск, выд. „Вышэйшая школа", 1974, б. 44.

[6] М. Цікоцкі. З гісторыі беларускай журналістыкі XIX стагодзьдзя. Мінск, выд. БДУ, 1960, б. 48.

[7] А. М. Налівайка, Т. А. Бурэйка. Беларуская літаратура. Мінск, выд. „Вышэйшая школа", 1971, б. 39.

[8] Складальнікі: С. Александровіч, А. Лойка і В. Рагойша; кніга выйшла ў менскім выдавецтве „Вышэйшая школа".

[9] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. 7, б. 302.

[10] М. Цікоцкі, цыт. пр., б. 48.

[11] А. Ф. Смирнов, цыт. пр. б. 17.

[12] Тамсама, б. 20.

[13] Тамсама, б. 21.

[14] Prasa tajna z lat 1861-1864. Część 1. Wrocław-Warszawa-Kraków, wyd. Polskiej Akademii Nauk, 1966, str. 318.

[15] БелСЭ, т. 5, б. 266.

[16] БелСЭ, т. 7, б. 302; тое самае кажа й А. Ф. Смирнов, цыт. пр., б. 33.

[17] А. П. Грыцкевіч. Рэлігійнае пытаньне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай (Весці АН БССР. Серыя грамадзкіх навук, 1973, № 6, б. 63).

[18] А. Ф. Смирнов, цыт. пр., б. 32.

[19] Гл. зб. дакумэнтаў: Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861-1862 гг. Москва, издат. „Наука", 1964, б. 125. Дакладна гэткае-ж тлумачэньне дае гэтаму тэрміну й беларускі пісьменьнік Алесь Якімовіч у сваёй гістарычнай аповесьці для маладога чытача — „Кастусь Каліноўскі" (Мінск, выд. „Беларусь", 1971, б. 29). Найшырэй пра слова „маскаль" — у тым-жа самым духу — гл. А. Ф. Смирнов, цыт. пр., бб. 29-31.

[20] Толковый словарь живого великорусского языка Владимира Даля. Третье, исправленное и значительно дополненное издание под ред. проф. И. А. Бодуэна-де-Куртенэ. Том. 2 СПб-Москва, 1905, б. 912.

[21] Толковый словарь русского языка, под ред. проф. Д. Н. Ушакова, т. 2. Москва, Гос. издат. иностранных и национальных словарей, 1938, б. 264.

[22] Академия наук СССР. Институт языкознания. Словарь современного русского литературного языка, т. 6. (Москва-Ленинград, издат. АН. СССР, 1957, б. 1284).

[23] І. Лушчыцкі, цыт. пр., м. 245.

[24] В. И. Ленин, Речь по национальному вопросу (29 апреля (12 мая) 1917 г.), т. 31. Полное собрание сочинений, 5-е изд., Москва, 1962, б. 432).

[25] Янка Купала, верш „Папросту", зб. Спадчына. Мюнхэн, выд. „Бацькаўшчына", 1955, б. 101.

[26] Якуб Колас, Сымон Музыка. Паэма. Мюнхэн, выд. „Бацькаўшчына", 1955, бб. 80-81.

№ 1.

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dziecioki!

Minuło uże toje, kali zdawało sia usim, szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi, — ciepier nastau taki czas szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim chlebom no jeszcze i uczyć swajej mużyckoj praudy.

Pytali i pytajuć usie, szto czuwaci na swieci, chto nam biedym mużykam dašć wolność? No praudu skazauszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe — pa sprawiedliwości. My mużyki, braty waszyje, my wam budziem hawaryć cełuju praudu, tolko słuchajcie nas!

Maskali, czynouniki i mnoho panou, buduć pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z pańskaho rodu i z miasteczkowych, szto choczuć waszej swabody, waszaho szczaścia. — jony to wam sami heto pismo dawaci buduć, kab wy znali chto wasz pryjaciel, a chto wasz woroch.

Sześć let uże minuło jak paczali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawaryli, tałkawali i pisali mnoho, a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau, to taki duray, szto czort wiedaje da czeho jon padobny, — nijakoj u niom niema praudy, niema z jeho dla nas nijakoj karyści. Parabili Kancelaryi, zrabili sud, jakby heto nie usio rouno brać u sraku czy z sudom, czy bez suda. Parabili Pisarou, Pasredni-

Першая бачына першага нумару „Мужыцкае Праўды" 1862 году.

гадаваньня ў езуіцкіх школах сыны магнатаў, шляхты, мяшчанаў часта пасьля пакідалі веру сваіх бацькоў ды пераходзілі на каталіцтва.

Моваю навучаньня ў сярэдніх і вышэйшых езуіцкіх школах была мова лацінская, але вучылі ў іх і мову польскую ды дзяржаўную мову ВКЛ, мову „рускую" (беларускую). Як сьветчыць праграма заняткаў 1583 году віленскае калегіі, на лекцыях беларускае мовы вучылі чытаць, пісаць, паясьнялі адрыўкі евангельля або катэхізысу, якія пасьля вучні завучвалі напамяць.

Выхаваньне дзяцей у езуіцкіх школах ды каталіцкая прапаганда вусная й друкам давялі да таго, што ў сярэдзіне XVII ст. ня шмат беларускіх праваслаўных магнацкіх і шляхоцкіх радоў засталося пры сваёй веры. Дзеіў у гэтым кірунку й націск каталіцкага каралеўскага двара, асабліва ў часы вернага ды паслухмянага агрэсыўнаму артадаксальнаму каталіцтву караля Жыгімонта Вазы. З сваім пераходам у каталіцтва магнаты й шляхта спалучалі спадзяваньні лягчэйшага доступу да вышэйшых дзяржаўна-адміністрацыйных становішчаў ды зьвязаных з гэтым уплываў і матар'яльных карысьцяў. Хуткую перамогу каталіцтва над пратэстантызмам моцна аблягчыла й вялікае разьбіцьцё рэфармацыйнага лягеру з вострымі міжсобнымі змаганьнямі кальвіністых, лютаранаў, арыянаў.

Ды і ў палавіне XVII ст. паасобныя беларускія праваслаўныя магнаты займалі высокія становішчы ў ВКЛ. Прыкладам, сэнатарам у 1648 годзе быў менскі ваявода Аляксандра Агінскі, апякун праваслаўнае друкарні ў Еўі каля Вільні. Сэнатарамі былі тады таксама праваслаўныя Багдан і Самуіл Стэцкевічы, наваградзкія кашталяны. Праваслаўным быў і берасьцейскі 1653-1659 гадоў ваявода Максыміліян Беразоўскі. Дык мыляецца аўтар, калі піша, што ў палавіне XVII ст. пры праваслаўнай веры ў ВКЛ засталося адно сялянства. Праваслаўя трымаліся тады яшчэ й некаторыя беларускія магнаты ды шляхцічы. На гэтую памылку зьвярнуў увагу аўтару ў сваёй рэцэнзіі Т. Васілеўскі ("Kwartalnik historyczny", № 1. Warszawa, 1975, 176). Дачыненьні рэфармацыйнага руху да праваслаўнае веры, веры ў сярэдзіне XVI ст. 80% жыхарства ВКЛ, разглядаюцца ў кнізе наагул вельмі коратка, пераважна ў сувязі зь Берасьцейскай вуніяй 1596 году.

Паважная загана кнігі што сьледам за пануючай у польскай гістарыяграфіі традыцыяй назовы XVI-XVII ст. ‚Літва', ‚ліцьвін' аўтар пераважна зьвязвае з сучасным іхным значаньнем у польскай мове, ці бо ўкладае ў іх лятувіска-жамойцкае этнічнае паймо, хоць тады назовы гэтыя мелі іншае значаньне. Ведамы выдатны польскі гісторык старое культуры Рэчпаспалітае А. Брукнэр у 1928 годзе пісаў, што ў XVI

ст. назовы ,літоўскі', ,ліцьвін' ужываліся „заміж ,беларускі, беларус', бо пра запраўдную этнаграфічную Літву (г. зн. сучасную — В. Т.) ў 1510 годзе ніхто й ня сьніў".[1]

У выніку блытаньня поймаў XX ст. з старымі іншага значаньня гістарычнымі поймамі стагодзьдзяў XVI-XVII, кніга часта навязвае чытачу памылковы пагляд быццам „літоўскія паны" — беларускія магнаты што кіравалі тады ВКЛ, — Сапегі, Валовічы, Хадкевічы, Тышкевічы, Глябовічы, Зяновічы, Гарнастаі ды іншыя, гэта этнічна жамойцка-балцкія фэўдалы. Хоць на няправільнасьць гэткага разуменьня назоваў XVI ст., а за гэтым і самое гісторыі ВКЛ, даўно зьвярталі ўвагу паасобныя выдатныя польскія гісторыкі, некаторым польскім аўтарам нейк асабліва цяжка трымацца гістарычнага значаньня словаў і яны часта блытаюць яго з значаньнем сучасным.

Запачаткаваная езуітамі з далёкасяжнымі мэтамі контрэфармацыйная акцыя вялася спачатку асьцярожна, азіраючыся, каб без патрэбы не дражніць жыхароў ВКЛ іншае веры. Ды гэткае тактыкі езуіты й Каталіцкая Царква трымаліся да часу, пакуль удачы не далі ім моцны грунт пад нагамі. Ужо ў 1581 годзе, ці бо дзесяць толькі гадоў пасьля заснаваньня віленскае езуіцкае калегіі, на загад біскупа Яна Радзівіла ў Вільні былі сканфіскаваныя ды публічна спаленыя пратэстанцкія кнігі. Адбыўся адначасна, пры дапамозе вучняў езуіцкіх школаў, першы ў Вільні пагром пратэстантаў. Да пагромаў некаталікоў даходзіла ў ВКЛ цірааз і пасьля. У 1611 годзе падчас пагрому быў спалены віленскі кальвінскі збор. Нішчыўся гэты збор колькі разоў і пасьля.

Нападкі разагітаваных каталіцкіх масаў у XVII ст. арганізуюцца й на невялікія нацыянальна-рэлігійныя групы, што стагодзьдзямі спакойна жылі ў ВКЛ пад аховаю законаў і рэлігійнае талеранцыі: на татараў, караімаў, цыганоў. У 1616 годзе была выдадзеная адмысловая брашура супроць беларускіх татараў ВКЛ. Колькі разоў яна пасьля перавыдавалася. Вынікам супрацьтатарскае прапаганды былі каталіцкія пагромы, ад якіх пацярпелі бліжэйшыя да Вільні татарскія мячэці, асабліва мячэць у Троках.

У наяве вышэй прыведзеных фактаў аўтар робіць выснову, што публічнае паленьне афіцыйнаю каталіцкай уладай у 1581 годзе ў сталічнай Вільні некаталіцкіх кнігаў сыгналізавала пачатак рэлігійнае неталеранцыі ў ВКЛ, хоць тады падобныя выступы часова былі й стрыманыя строгім асуджэньнем гэтае падзеі каралём Сьцяпанам Батурам. Як кажа М. Косман, ваяўнічы польскі каталіцызм зьнішчыў старавечную традыцыю рэлігійнае талеранцыі ў ВКЛ, езуіцкія-ж пляны рэлігійнае ўніфікацыі Рэчпаспалітае шляхам падпарадкаваньня Праваслаўнае Царквы польскай Царкве Каталіцкай пад выглядам рэлігійнае вуніі, у гістарычным выніку

былі катастрафальнымі для ВКЛ й для ўсяе Рэчпаспалітае.

Памылковы аўтараў здогад, што накладзены Жыгімонтам Старым на віленскага біскупа Яна граматаю 1530 году абавязак не дапушчаць да прапаганды публічнае і ў прыватных гутарках паглядаў „лютаранаў і анабаптыстых" ды да пашыраньня кніжак з падобнымі паглядамі, сьціраваны быў перш за ўсё супроць доктара Францішка Скарыны ды ягоных кнігаў і што таму ў 1530 годзе Скарына мусіў выехаць зь Вільні ў Прусію (б. 29-30). Найперш, выданьні доктара Скарыны ня былі выданьнямі пратэстанцкімі. Да гэтага-ж, аўтар выяўна не знаёмы з тымі архіўнымі ведамкамі, зь якіх вынікае, што ўжо праз колькі тыдняў з Прусіі доктар Скарына вярнуўся да Вільні ды стаў сакратаром і надворным лекарам якраз біскупа Яна. Два-ж гады пазьней, у 1532 годзе, Жыгімонт Стары выдаў Скарыну адмысловую каралеўскую прывілейную грамату, якою ўзяў яго пад сваю беспасярэднюю апеку. Дык ня супроць доктара Скарыны, не пратэстанта, была сьціраваная віленская 1530 году супрацьлютаранская грамата Жыгімонта Старога.

Падсумоўваючы гістарычнае значаньне рэфармацыйнага руху аўтар адзначае, што ў выніку яго вельмі ажывілася культурнае жыцьцё ў ВКЛ. І пратэстантызм і каталіцызм, зьвярнулі вялікую ўвагу на асьвету, на граматнасьць, на школы, на друкаваную кнігу, ды кнігу пісаную ў зразумелай народу мове. Гэта паскорыла разьвіцьцё пісьменства ў нацыянальных мовах. Таму ў часы змаганьня контррэфармацыі з рэфармацыяй, ад палавіны XVI ст., у ВКЛ шпарка разьвіваецца друкарства.

Але, да сказанага аўтарам, важна дадаць, што рэлігійныя змаганьні пары рэфармацыі ў ВКЛ давялі й да паланізацыі Беларусі, якая з часам ахапіла блізу ўсю сацыяльную й інтэлектуальную верхавіну беларускага народу ды давяла да заняпаду беларускага пісьменства й беларускае літаратурнае мовы і ўрэшце выціснула гэтую мову зь ейнае кольківсотгадовае пазыцыі дзяржаўнае мовы ВКЛ. У 1697 годзе гэта было задакумэнтавана адмысловаю пастановаю сойму, якою як дзяржаўная мова ВКЛ заводзілася мова польская.

Кніга М. Космана багатая прыцягнутаю да тэмы масаю й ведамых раней і новых фактаў зь гісторыі рэфармацыі ў ВКЛ. Мае яна й цікавыя заўвагі ды арыгінальныя высновы аўтара, хоць зь імі й не заўсёды можна згадзіцца. Як пазытыўнае адзначыць трэба й тое, што пастаўленае ў працы пытаньне зь гісторыі рэфармацыі ў ВКЛ аўтар намагаецца разглядзець з пазыцыяў аб'ектыўных, а ня вузка каталіцкіх, як здараецца ў шмат якіх працах польскіх аўтараў.

**Р. Максімовіч**

[1] Aleksander Brückner. Rusko-polski rękopis z r. 1510 ("Slavia", VII. Praha, 1928, 10-11).

**Помнікі старажытнай беларускай літаратуры. Укладаньне, уступны артыкул і камэнтарыі А. Ф. Коршунава. Акадэмія навук БССР. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы. Мінск, выд. „Навука і тэхніка”, 1975, 248 б.**

У кнізе надрукаваныя тэксты двух важных рукапісных помнікаў гісторыі Беларусі: „Лісты” 1573-80 гадоў аршанскага старасты Філона Кміты-Чарнабыльскага й „Баркулабаўская хроніка” канца XVI — пачатку XVII ст. Перад тэкстамі два артыкулы А. Коршунава, адзін уводны, другі — гісторыка-літаратурны вопіс передрукаваных у кнізе помнікаў. Пасьля тэкстаў ідуць зноскі-камэнтары, слоўнік мала зразумелых словаў ды іменны й геаграфічны паказьнікі. Паважная загана выданьня — няма ў ім бібліяграфіі важнейшае навуковае літаратуры пра апублікаваныя ў кнізе помнікі.

Для літаратураведаў, моваведаў, гісторыкаў важны асабліва перадрук у кнізе тэкстаў „Лістоў” Кміты-Чарнабыльскага, бо абедзьве старыя публікацыі гэтых лістоў гадоў 1844 і 1848 недакладныя, некамплетныя, а да гэтага цяпер вельмі рэдкія й мала каму даступныя. Шкада адно, што перадрук тэкстаў „Лістоў” давялося рабіць выдаўцу на аснове якраз недасканалых папярэдніх публікацыяў XIX ст., а не з самога рукапіснага арыгіналу. Арыгіналы „Лістоў” перад Першай Сусьветнай вайной перахоўваліся ў бібліятэцы Дэпартамэнту Генэральнага штабу ў Пецярбургу. Пасьля рэвалюцыі яны нейдзе загінулі.

Тэкст Баркулабаўскае хронікі А. Коршунаў перадрукаваў з фатакопіі рукапісу. Арыгінал перахоўваецца у ваддзеле рукапісаў маскоўскага Дзяржаўнага гістарычнага музэю. Тэкст Баркулабаўскае хронікі больш даступны дасьледнікам, бо, пачынаючы ад 1877 году, публікаваўся ён шмат разоў. Друкавалі яго П. Куліш, М. Даўнар-Запольскі, колькі разоў А. Раманаў ды іншыя.

У годзе якраз публікацыі кніжкі Коршунава, але яшчэ перад зьяўленьнем яе з друку, у маскоўскім выданьні „Полное собрание русских летописей”, т. 32, Баркулабаўская хроніка была перадрукаваная — восьмы ўжо раз — М. Улашчыкам. Ды, хоць перадрук Баркулабаўскае хронікі Коршунава з чаргі аж дзявяты, каштоўны ён і сваёй камплетнасьцяй, і дбайліва дагледжанай, абаснаванай на рукапісным арыгінале палітарнай перадачаю тэксту, і таму кніжка будзе вельмі карыснаю для зацікаўленых гісторыкаў, літаратураведаў, а таксама моваведаў.

Карыснае выданьне й тым, што А. Коршунаў уклаў шмат рупнасьці пры апрацаваньні камэнтарных заўвагаў. У іх дае ён паясьненьні малазразумелых сяньня тэрмінаў ды ведамкі пра згаданыя ў помніках асобы й геаграфічныя назовы. Пра вялічыню ўкладзенае карпатлівае працы сьветчыць ужо сам

лік камэнтарных заўвагаў: да „Лістоў" дадзена 260 зносак, да Баркулабаўскае хронікі — больш 500. Разам займаюць яны 66 бачынаў пэтытнага набору. Хоць і не пра ўсе згаданыя ў помніках асобы ды геаграфічныя назовы рэдактару ўдалося знайсьці патрэбныя інфармацыі, але й пададзенае будзе вялікаю дапамогаю і навуковым працаўнікам, і кажнаму чытачу.

Калі перадрук тэкстаў старых помнікаў беларускае гісторыі й пісьменнасьці даўно на часе й бясспрэчна каштоўны, засьцярогі паўстаюць да тарнаванае Коршунавам у ўводных артыкулах і ў камэнтарох пэрыядызацыі беларускае гісторыі ды ўжыванае гістарычнае тэрміналёгіі. Бачны на іх адбітак абавязваючых у сучаснай беларускай савецкай гістарыяграфіі афіцыйных партыйных гістарычных схэмаў і канцэпцыяў.

Прыкладам, свае „Ўводзіны" да кніжкі А. Коршунаў пачынае сказам: „Сярэдневяковая культура Беларусі надзвычай багата помнікамі царкоўна-рэлігійнай і сьвецкай пісьменнасьці" (б. 3). Як з далейшага тэксту артыкулу відаць, і „Лісты" 1573-80 гадоў, і Баркулабаўскую хроніку канца XVI —пачатку XVII ст. аўтар залічае да помнікаў „сярэдневяковае культуры". З гэтага вынікае, што навет і пачатак XVII ст. гісторыі Беларусі й Эўропы для Коршунава ўсё яшчэ „сярэдневяковае".

Ведама, што на захадзе Эўропы, на землях Італіі, ужо апошняя чверць XV ст. гэта час бурнага ўздыму й красаваньня культуры Рэнэсансу, які ў пачатку XVI ст. ахапіў краі Захаду, а таксама землі Вялікага Княства Літоўскага, што тады знаходзіліся ў засягу цывілізацыйна-культурных працэсаў усяе Эўропы. Паколькі культура Рэнэсансу была запярэчаньнем ды адмаўленьнем духовых асноваў сярэдневяковае культуры, канец XV стагодзьдзя й прынята ў гісторыі ўважаць за канец сярэднявечча. Леанарда да Вінчы, Мікельанджэля Буанароты, Рафаэля Санчыё, Эразма Ротэрдамскага ніхто зь гісторыкаў не называе дзеячамі сярэднявечча. А што гэтак іх трэба называць, вынікала-б, калі прыняць тую пэрыядызацыю гісторыі, якое ў сваёй кнізе трымаецца Коршунаў, паводле якой беларускі, а разам і эўрапейскі Рэнэсанс XVI ст., гэта культурныя зьявы пары „сярэдневякоўя".

Гэткую пэрыядызацыю савецкае „марксыцкае гістарыяграфіі", кардынальна адрозную ад традыцыйнае пэрыядызацыі гісторыі Эўропы, мець трэба ў памяці, чытаючы ўводныя артыкулы ды камэнтары Коршунава. У савецкай расейскай гістарыяграфіі гэткая пэрыядызацыя заведзеная не бяз уплыву таго факту, што Вялікае Княства Маскоўскае заставалася вонках заходняэўрапейскіх культурна-духовых узрухаў — ні гуманізму, ні Рэнэсансу, ні Рэфармацыі яно

не перажывала. У агульнаэўрапейскі гістарычна-культурны працэс было яно ўлучанае толькі пры канцы XVII ст.

Але, калі расейскія гісторыкі маюць падставу ўважаць палавіну XVII ст. за канцавую мяжу сярэднявечча ў гісторыі Вялікага Княства Маскоўскага, ніякага абгрунтаваньня няма на тое, каб, як робіць гэта А. Коршунаў, такую-ж пэрыядызацыю накідаць і для гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, культурнае жыцьцё якога ўжо ад пачаткаў XVI ст., ад часоў доктара Скарыны, праходзіла ў духовай атмасфэры гуманізму, ідэяў Рэнэсансу ды спрадвечнае рэлігійнае талеранцыі.

Аж да канца XVIII ст. эвалюцыя палітычна-культурнае гісторыі Беларусі ішла зусім іншымі шляхамі, як гісторыя Маскоўшчыны, і таму мае яна сваю адрозную пэрыядызацыю. Уцісканьне гісторыі Беларусі ў гістарычныя схэмы й пэрыяды гісторыі чужое, не раскрывае істоты ходу гістарычных працэсаў на землях Беларусі, але іх зацямняе ды гэтак замінае належнаму зразуменьню гісторыі беларускага народу.

У ўводзінах А. Коршунаў піша, што „дарэвалюцыйныя дасьледваньні былі абцяжараныя грузам вялікадзяржаўнага рускага шавінізму й польскага нацыяналізму" (б. 5). Кніжка довад таго, што ад гэтага „грузу" не заўсёды змог вызваліцца й ейны складальнік-выдавец. Прыкладам, дзяржаву на ўсходзе Вялікага Княства Літоўскага А. Коршунаў ніколі не называе, як трэ было-б гісторыку, ейным тагачасным імём „Вялікае Княства Маскоўскае", але за „вялікадзяржаўнымі" аўтарамі сыстэматычна падменьвае гэты назоў імпэрыяльным пазьнейшым тэрмінам XVIII ст. „Расія" (б. 31 ды іншыя). Ні Кміта-Чарнабыльскі ў сваіх лістох з навінамі „зь зямлі няпрыяцельскае", ні аўтары Баркулабаўскае хронікі, ні тагачасныя іншыя летапісы ці дакумэнты, назову „Расія" ня знаюць. Там заўсёды толькі „Вялікае Княства Маскоўскае". Тарнаваць для Маскоўшчыны XVI ст. уведзены толькі ў XVIII ст. царом Пятром назоў „Расія" — гэта яскравы, навукова неабгрунтаваны, анахранізм.

Аўтары надрукаваных у кнізе беларускіх помнікаў князёў Вялікага Княства Маскоўскага ніколі таксама не называюць князямі ці царамі „рускімі", як гэта робіць Коршунаў. Яны пішуць ці „вялікі князь маскоўскі" (ў Кміты-Чарнабыльскага, бо ягоным часам тытулу цара за маскоўскім князем урад Вялікага Княства Літоўскага яшчэ не прызнаваў), ці, як у хроніцы, — „маскоўскі цар".

Рэч у тым, што „рускімі" валадарамі менавалі тады сябе й вялікія князі маскоўскія, і літоўскія. У афіцыйным тытуле заўсёды пісалася: „вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі і г. д.". Гэтак было запісана і ў афіцыйным юрыдычным кодэксе, у статуце Вялікага Княства Літоўскага. Дык „рускімі" тады былі і князі маскоўскія, і літоўскія, і таму

гэткі назоў нічога яшчэ не казаў, пра якога канкрэтна валадара ў дадзеным выпадку ход, і дзеля гэтага ўжываньне яго практычна было немэтазгодным. За жыцьця якраз Кміты-Чарнабыльскага праваслаўны манах зь Вялікага Княства Літоўскага й ягоны вялікі патрыёт, перабываючы ў манастырскім зьняволеньні ў Маскоўшчыне, пісаў: „в нашем государстве христіанском руском Великом княжестве Литовском".

Ад „вялікадзяржаўных" аўтараў Коршунаў пераняў і некаторыя формы імяў „гаспадароў" Вялікага Княства Літоўскага, ягоных вялікіх князёў. У перадрукаваных у кніжцы беларускіх помніках, як і ўва ўсіх тае пары іншых беларускіх дакумэнтах, актах, летапісах, лацінскага паходжаньня імя колькіх вялікіх князёў літоўскіх пішацца заўсёды ў фанэтычна адаптаванай у беларускую мову форме „Жыкгимонт", ці, калі пісаць сучасным беларускім правапісам, „Жыгімонт". Коршунаў у выдадзенай пабеларуску кнізе ня ўжывае традыцыйнае беларускае формы гэтага імя, як трэ было-б спадзявацца ад беларускага гісторыка, але падменьвае перанятаю з расейскае гістарычнае літаратуры формаю расейскаю — „Сігізмунд".

Кідаецца ў вочы, што ў слоўніку малазразумелых словаў старое беларускае мовы А. Коршунаў дае й слова „Просто" (б. 232) ды паясьняе яго словам свомым расейскай мове „прама". Беларускія сучасныя выражэньні „едзь проста", „просты як сьвечка", „гані баразну проста" ды падобныя, паказваюць, што гэтае слова й сяньня ў мове беларускага народу жывое ды шырака ўжыванае. Ведае яго ў гэтым якраз значаньні беларускі народ на ўсім прасторы свайго расьсяленьня, як сьветчаць хоць-бы „Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны" 1970 г. І. К. Бялькевіча, „Краёвы слоўнік Лагойшчыны" таго-ж году А. Варлыгі, слоўнікі іншыя ды шырокае ўжываньне яго ў мове беларускіх пісьменьнікаў.

У падсавецкім друку ў паваенных гадох існуе тэндэнцыя падменьваць гэтае старавечнае беларускае слова словам „прама" з мэтаю „зьбліжэньня" беларускае мовы да мовы „братняга рускага народу". Ды менскія „Русско-белорусский словарь" 1953 году, і „Беларуска-рускі слоўнік" 1962 году слова „проста" ў вышэй пададзеным значаньні ўсё-ж ня выкінулі зь лексычнага фонду навет і беларускай афіцыйнай мовы БССР, беспадстаўна вікідае яго А. Коршунаў.

Выдзяленьне Коршунавам у лік словаў „малазразумелых" слова „проста" азнака таго, што адукаваная ў расейскіх вышэйшых школах рэспублікі беларуская савецкая інтэлігенцыя губляе сувязь з моваю свайго народу. Сьветчаць пра гэта і іншыя ў кнізе словы, як, прыкладам, ужываньне аўтарам расейска-лацінскіх „луна", „паўналуньне" (б. 169), заміж старавечных беларускіх славянскіх „месяц", „поўня"

і г. д. Ніякае „луны" беларускі народ у сваёй мове ня знае. „Луна" — адзін з яскравых прыкладаў ужо не „дарэвалюцыйнага", а парэвалюцыйнага „вялікадзяржаўнага грузу" ў мове беларускіх падсавецкіх аўтараў.

Адзначаныя вышэй заганы, абумоўленыя ў вялікай меры вымаганьнямі савецкае афіцыйнае гістарыяграфіі ды партыйнае нацыянальнае палітыкі, не мяняюць, зразумела, факту, што сам перадрук большым тыражом — 3000 экзэмпляраў — тэкстаў двух выдатных помнікаў беларускае пісьменнасьці, гэта важная навуковая падзея. Дзякуючы гэтаму выданьню тэксты двух беларускіх помнікаў сталі даступнымі шырэйшаму колу чытачоў і навуковых дасьледнікаў. Выдаўцу-складальніку кніжкі дзеля гэтага належыцца прызнаньне за ўкладзеную вялікую карпатлівую працу пры падрыхтове помнікаў да друку, пры апрацаваньні да іх камэнтароў ды пры рупным даглядзе перадруку самых тэкстаў.

**Р. Максімовіч**

**Юры Семяняка. Я сэрцам з табой. Песні. Мінск, Выдавецтва „Беларусь", 1976, 48 б.**

Юры Семяняка належыць да беларускіх кампазытараў паваеннага пэрыяду. Не зважаючы на маладосьць, у ягоным творчым партфэлі можна знайсьці творы амаль усіх жанраў, за выняткам сымфанічнага. Ён аўтар опэраў „Калючая ружа", „Калі падае лісьце", „Зорка Вэнэра"; музычных камэдыяў „Рабінавыя каралі", „Сьпявае жаваранак", „Паўлінка"; кантатаў для салістых, хору й аркестры; музыкі для фільмаў, спэктакляў драматычных тэатраў; радыё- й тэлерадачаў; вялікага ліку харавых твораў, рамансаў і песьняў.

У гісторыі беларускай масавай песьні паваенныя гады аказаліся найбольш плоднымі. Песьні беларускіх аўтараў сталіся запраўды масавым жанрам у рэспубліцы ды заваявалі папулярнасьць ня толькі сярод беларускіх слухачоў, але й за межамі рэспублікі, прагучалі на дэкадах і аглядах нацыянальнага мастацтва ў Маскве і іншых гарадох. Як аўтар вялікага ліку песьняў вядомы й Юры Семяняка. За цыкль патрыятычных песьняў ён у 1972 годзе атрымаў ганаровы тытул ляўрэата дзяржаўнае прэміі БССР.

Песенная творчасьць Юрага Семянякі пераважна мае лірычны характар. Прыцягальныя якасьці ягоных песьняў — шырыня й плястычнасьць расьпеву, шчырасьць музычнай інтэрпрэтацыі паэтычнага тэксту, прасьціня мэлёдыі, якая робіць іх прыдатнымі для выкананьня ня толькі салістымі-прафэсіяналамі, але й аматарамі сьпеву. На песеннай твор-

часьці Юрага Семянякі прыкметны ўплыў лірычнае песьні Дунаеўскага. Але кампазытару часам зраджае густ і банальныя звароты мэлёды не зьяўляюцца рэдкасьцяй у ягоных песьнях. Фартапіянны акампанімэнт у бальшыні песьняў скупы, гармоніі ў суправаджэньні варыююць, галоўным чынам, тоніка-дамінантавыя сувязі.

Усё вышэй сказанае пра песенную творчасьць Юрага Семянякі цалкам можна аднесьці й да зборніка песьняў „Я сэрцам з Табой". Тытульная песьня пад гэтым назовам на словы А. Бачылы заканчвае зборнік, а пачынаецца ён песьняй на расейскай мове „Родине" на словы нейкага „Тетивкина", у якой паэт, а зь ім разам і кампазытар, вітаючы Расею, просяць яе прыняць іхны сыноўскі паклон. З гэткае расстаноўкі песьняў лёгка дагадацца зь кім сэрцам і кампазытар. І запраўды, у музыцы беларускага кампазытара на тэксты беларускіх паэтаў вельмі мала беларускага. Яны добра гучаць, яны лёгкія для выкананьня і ўспрыйманьня, але багацьце народных ладоў, рытмаў, народнай гэтэрафоніі выціснутае ў іх сучаснымі агульна прынятымі сродкамі музычнай выразнасьці, і на слых, ня ведаючы кампазытара, яны зусім падобныя да песьняў Пахмутавай, Салаўёва-Сядога, Фрадкіна ці іншага прадстаўніка савецкай масавай песьні.

Справядлівасьць вымагае сказаць. што ў некаторых сваіх творах Семяняка зьвяртаецца й да народнага мэлясу, пераймае элемэнты беларускага фальклёру, выкарыстоўваючы расьпеўныя, дытанічныя тэмы, натуральныя лады, пераменны памер, народную паліфонію. Прыкладам можа служыць ягоны буйны твор — амаль поўнасьцю заснаваная на вершах Багдановіча опэра „Зорка Вэнэра", што была пастаўленая ў лістападзе 1970 году ў Беларускім тэатры опэры й балету у Менску. Блізкая да народна-песенных вытокаў кантата „Памяці Канстанціна Заслонава", прысьвечаная тэме партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады вайны. На народна-песенных інтанацыях пабудаваная адна зь лепшых песьняў Семянякі, „Ой, шумяць лясы зялёныя", якая набыла вялікую папулярнасьць.

Ува ўсіх гэтых творах ды і ў некаторых іншых, Юры Семяняка выступае як беларускі кампазытар, умела спалучае прафэсійнае майстэрства з творчым засваеньнем фальклёрных вытокаў. Аднак ў зборніку песьняў „Я сэрцам з Табой" ён адыходзіць ад традыцыяў беларускага музычнага мастацтва й песьні зборніка нічога не даюць у актыў беларускае музыкі, хоць з боку чыста музычнага яны маюць бясспрэчныя пазытыўныя мастацкія якасьці.

**Алесь Карповіч**

## БЕЛАРУСІКА НА НАВУКОВЫХ КАНФЭРЭНЦЫЯХ 1976 ГОДУ Ў ЗША Й КАНАДЗЕ

У Нью Ёрку 14 лютага 1976 г. на Калюмбійскім унівэрсытэце адбылася канфэрэнцыя на тэму „Стан грамадзкіх навукаў на Украіне й Беларусі", наладжаная супольна Украінскай Вольнай Акадэміяй Навукаў, што ў 1976 годзе адзначала сваё 25-годзьдзе, ды Аддзелам Вывучэньня Савецкіх Нацыянальных Праблемаў Калюмбійскага Унівэрсытэту. На канфэрэнцыі выступілі з рэфэратамі сябры БІНіМ др. **Вітаўт Кіпель** пра стан беларускае эканомікі й др. **Янка Запруднік** пра беларускую гістарычную навуку.

У Нью Ёрку на канфэрэнцыі Асацыяцыі для Вывучэньня Прыбалтыкі, што адбылася на Калюмбійскім унівэрсытэце 20-21 травеня 1976 г., др. **Я. Запруднік** прачытаў рэфэрат „Балцкі субстрат у этнагенэзе беларусаў ды сфармаваньне Вялікага Княства Літоўскага".

На Макмастэрскім унівэрсытэце ў гор. Гамільтоне (Антарыё, Канада) 22-23 кастрычніка 1976 г. была праведзеная канфэрэнцыя на тэму „Мовы й літаратуры нерасейскіх народаў СССР". У рэфэраце „Нерасейскія пісьменьнікі на ўсесаюзным літаратурным форуме" праф. **Норман Шнайдмэн** з Тарантаўскага ўнівэрсытэту гаварыў пра трох савецкіх празаікаў — лятувіскага Ёнаса Авіжуса, кіргіскага Чынгіза Айтматава ды беларускага Васіля Быкава — што сілаю свайго таленту дасягнулі славы й фінансавае ўдачы. Праф. Шнайдмэн адзначыў, што, каб здабыць гэта, савецкі нерасейскі пісьменьнік мусіць публікаваць свае творы парасейску ды часта перад тым, як творы гэтыя зьявяцца ў друку ў іхнай арыгінальнай мове. Рэфэрэнт адзначыў таксама, што, трапіўшы на ўсесаюзны форум, савецкі нерасейскі пісьменьнік часта пачынае арыентаваць сваю творчасьць на шматнацыянальнага ўсесаюзнага чытача, ціраз на шкоду тэматыцы, што выростае зь ягонага нацыянальнага асяродзьдзя. Гэтая „ўсесаюзная" пазыцыя можа адмоўна адбіцца навет і на мове пісьменьніка, бо ён можа старацца падбіраць гэткія звароты ды лексыку ,якія будуць лягчэйшымі пры перакладзе твору ў расейскую мову.

На тэй-жа канфэрэнцыі прафэсар Лівэрпульскага ўнівэрсытэту **Арнольд МакМілін**, прачытаў рэфэрат на тэму „Васіль Быкаў і савецкае беларускае апавяданьне". Праф. Мак Мілін даў шырокі й уніклівы аналіз творчасьці Быкава, азна-

чыў ейную тэматыку ды месца пісьменьніка ў сучаснай беларускай літаратуры.

У Ню Ёрку ў вапошнім тыдні сьнежаня 1976 году на канфэрэнцыі Амэрыканскае Асацыяцыі Сучасных Моваў, у сэкцыі жыдоўскае літаратуры, праф. **Ільля Шульмэн** (родам із Слуцку), выкладчык Квінсаўскага каледжу Гарадзкога ўнівэрсытэту Ню Ёрку, даў разгляд нядаўна апублікаванага трытомавага альбому ілюстрацыяў „Ерузалім Літвы" (складальнік Лазар Ран) з жыцьця жыдоўскага жыхарства Вільні. Праф. Шульмэн адзначыў шматнацыянальны характар Вільні, гаварыў пра пачаткі беларускага друку ў гэтым месьце („Наша Ніва"), пра Антона Луцкевіча, прыгадаў ягоны артыкул у часапісе „Ідышэ Вэлт" з заклікам да жыдоўскае інтэлігенцыі дапамагаць беларускаму нацыянальнаму руху.

На канфэрэнцыі Амэрыканскае Асацыяцыі Выкладчыкаў Славянскіх і Усходняэўрапейскіх Моваў, што адбылася ў Ню Ёрку 27-30 сьнежаня 1976 г., абмяркоўваліся пытаньні мовы, літаратуры й гісторыі Баўгарыі, Беларусі, Македоніі, Польшчы, Расеі, Славакіі, Сорбіі, Сэрбіі, Украіны, Харвацыі, Чэхіі. Непрапарцыянальна вялікая ўвага, аднак, была адведзеная тэмам расейскім.

Беларускія пытаньні закраналіся ў шмат якіх рэфэратах. Вылучна беларускім тэмам былі прысьвечаныя рэфэраты др. **Тэрэсы Ф. Альт** пра раньнюю творчасьць Янкі Купалы, праф. **Вольгі Арэхвы** з Паўдзённа-Ілінойскага ўнівэрсытэту — „Пошукі Васілём Быкавам маральнага імпэратыву", праф. **Дэйвіда Ляднэра** зь Ейльскага ўнівэрсытэту — „Сымон Полацкі — альфабэт і вернасьць". Праф. Ляднэр зьвярнуў увагу на заходняэўрапейскі характар асьветы С. Полацкага, у выніку чаго ён да канца свайго жыцьця застаўся верным духовым традыцыям Захаду, што выявілася, між іншага, і ў тым, што, бышы і ў Маскве, Сымон Полацкі часта пісаў свае творы лацінкай.

Даволі шмат увагі гісторыі новай беларускай літаратуры прыдзяліў і праф. **Гэнрык Р. Купэр** з Паўночна-Заходняга ўнівэрсытэту ў сваім цікавым рэфэраце пра паняцьці „вялікая" й „малая" ў гісторыі славянскіх літаратураў.

**Т. Э. Бэрд**

## 2-Я ВЫСТАЎКА БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ ЗАМЕЖЖА

Ад 28 лістапада да 31 сьнежаня 1976 году ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры Ню Ёрку адбывалася 2-я Выстаўка беларускіх мастакоў замежжа. Ладзіў выстаўку Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Першая гэткая выстаўка Інстытуту адбылася 9. XII. 1973 — 3. II. 1974 г.

На другой выстаўцы паказана было 70 твораў малярства, рысунку, графікі, скульптуры 18-ёх, ніжэй пералічаных, беларускіх мастакоў Амэрыкі й Эўропы:

Барыс Данілюк, Ню Ёрк, ЗША, — графіка. Віктар Жаўнэровіч, Парыж, Францыя: краявіды — алей. Язэп Казьлякоўскі, Ню Ёрк, ЗША: абстракцыя — алей; рысунак — туш. Лідыя Каліноўская-Даніловіч (1910-1962): краявіды — алей. Надзя Кудасава, Самэрсэт, ЗША: краявіды, натурморты — алей. Людміла Махнюк, Джэймсбург, ЗША: ікона, краявіды — алей. Пётра Міранові́ч, Ню Ёрк, ЗША: кампазыцыя, натурморт, партрэты — алей. Міхась Наўмовіч, Парыж, Францыя: скульптура — гіпс; партрэт, краявіды — акварэля. Элеанора Норык, Саўт Уіндсор, ЗША: рысунак — алавік. Ірэна Рагалевіч, Ню Брансьвік, ЗША: краявіды, бытавыя сцэны, натурморты — акварэля, алей. Галіна Русак, Самэрсэт, ЗША: кампазыцыі, натурморты — акрыліка, алей. Міхась Саўка, Бруксэля, Бэльгія: іконы — тэмпэра. Аляксандра Стагановіч (1923-1974): натурморты — алей. Івонка Сурвілла, Атава, Канада: ікона, партрэты — алей. Ст. Тамара, Ню Шрубэры, ЗША: краявіды, натурморты — алей, акрыліка. Ксеня Тумаш, Ню Ёрк, ЗША: партрэт, натурморты, краявіды — алей. Уладзімер Шыманец, Парыж, Францыя: краявіды, кампазыцыя, партрэт — алей. Янка Юхнавец, Ню Ёрк, ЗША: кампазыцыі — алей.

Паказаныя на выстаўцы творы былі довадам далейшага росту тэхнічнага майстэрства мастакоў-удзельнікаў выстаўкі, што вядзе да большае свабоды ды сілы выражэньня пры выяве задумы. Сьветчылі яны й пра пашырэньне тэматычна-жанравых гарызонтаў творчасьці. Узрасло й зацікаўленьне беларускага грамадзтва творчымі дасягненьнямі сваіх суродзічаў-мастакоў. Паважны лік паказаных на выстаўцы твораў быў закуплены. Справаздачу з выстаўкі можна знайсьці ў нарысе Раісы Жук-Грышкевіч „2-я Выстаўка выяўленчага мастацтва беларускіх мастакоў замежжа" („Беларус", Ню Ёрк, студзень, № 237, люты, №238, 1977 г.).

**Зора Кіпель**

## МАСТАЦКІЯ ВЫСТАЎКІ 1976 ГОДУ

Сярод беларусаў замежжа апошнімі гадамі даецца заўважыць вялікае ажыўленьне ў галіне культурна-мастацкай. 1976 год быў асабліва плённым у мастацкай дзейнасьці беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Спрыяльныя ўмовы для нацыянальных і шматнацыянальных выступаў і выставак паўсталі ў гэтым годзе ў сувязі з двухсотгодзьдзем Злучаных Штатаў. Спрыяльны быў час таксама й таму, што ў ЗША й Канадзе насьпела зацікаўленьне сваімі этнічнымі вытокамі, уз-

расло жаданьне глыбей пазнаць свае шматнацыянальныя карані, вывучыць сваю шматкультурную духовую спадчыну. Усё гэта давяло да ўзросту й беларускай актыўнасьці ў галіне разьвіцьця ды паказу сваім і чужым сваіх нацыянальных культурна-мастацкіх традыцыяў.

У 1976 годзе адбылося каля дваццацёх беларускіх мастацкіх выставак — больших, меншых ды й зусім сьціплых, але аднолькава ўдалых і важных. Ніжэй падаецца храналягічны пералік беларускіх мастацкіх паказаў гэтага году ў ЗША й Канадзе.

**Студзень-сакавік.** Беларускія экспанаты упрыгожвалі выстаўку, якую ладзіў Нацыянальны Музэй Чалавека ў сталіцы Канады Атаве. Сярод мастацкіх вырабаў асаблівую ўвагу зьвярталі інкрустацыі саломкай беларускіх майстроў Канады.

**21 сакавіка — 11 красавіка.** Вялікая, што ўвайшла ўжо ў традыцыю, 3-я гадовая выстўка народнага й выяўленчага мастацтва ў Беларускім Цэнтры ў Саўт Рывэры, Ню Джэрзі. На выстаўцы, якая ладзілася Беларускім Культурна-Мастацкім і Навуковым Таварыствам, былі паказаныя творы колькінаццацёх беларускіх мастакоў, а таксама народныя мастацкія вырабы — і старыя арыгінальныя, прывезеныя зь Беларусі, і выкананыя ўжо тут. Атракцыяй выстаўкі гэтым разам быў паказ беларускіх музычных інструмэнтаў — жалейкі, гусьляў, цымбалаў, іскрыпкаў, гармонікаў.

**25 сакавіка.** Выстаўка народнага мастацтва ў Беларускім Рэлігійна-Грамадскім Цэнтры ў Кліўлендзе, Агаё. На выстаўцы былі мастацкія вырабы беларускіх жанчынаў Кліўленду ды народныя вырабы зь Беларусі.

**3 травеня.** Нюджэрзійскі аддзел Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі браў удзел у шматнацыянальным фэстывалі ў горадзе Гарысане. На выстаўцы, якую наведалі тысячы жыхароў Гарысану, Нюарку ды ваколіцаў, былі паказаныя беларускія тканіны, вышыўкі, вырабы зь льну, саломкі, паясы, лялькі й гусьлі, якія выклікалі асаблівае зацікаўленьне. Пры нагодзе даваліся інфармацыі пра беларускі народ і ягоную культурную спадчыну.

**Травень.** Упяршыню ў гісторыі штату Мэрыленду беларуская калёнія брала ўдзел у мастацкім фэстывалі нацыянальнасьцяў у Балтыморы. На беларускай стаянцы дэманстраваліся вырабы ткацтва й з саломкі, абразы, беларускія друкі, брашуры пра Беларусь.

**22-23 травеня.** На інтэрнацыянальным фэстывалі ў Лёс Анджэлесе, Каліфорнія, які ладзіўся Міжнацыянальным Аддзелам Культурнае Спадчыны, была й багатая беларуская стаянка. На сталох — дываны, вышыўка, паясы, скрынкі, лялькі, кніжкі. На сьценах — Пагоня, партрэты паэтаў, абразы беларускіх сьвятых, карта Беларусі.

**12 чырвеня.** На першым Беларускім Фэстывалі, што адбыўся ў Голмдэл, Ню Джэрзі, разам з вакальна-музычнай і харэаграфічнай праграмай, была вельмі багатая выстаўка народнага й прыкладнога мастацтва. Тут упяршыню быў уведзены й новы спосаб паказу народнага мастацтва — паказ нацыянальнае вопраткі розных мясцовасьцяў Беларусі на жывых мадэлях.

**18-26 чырвеня.** У часе традыцыйнага штогадовага „Каравану" места Таронта, Канада, у павільёне „Менск", у будынку Беларускага Рэлігійна-Грамадскага Цэнтру была наладжаная, як і мінулымі гадамі, выстаўка народных вырабаў, абразоў ды беларускага друку. Беларуская музыка, сьпевы, народныя танцы, смачна прыгатаваныя й прыгожа сэрваваныя беларускія стравы дапаўнялі гэты паказ беларускай духовай і матар'яльнай культуры.

**3 ліпеня — 31 кастрычніка.** Музэй Гістарычнага Таварыства Кліўленду заснаваў і этнаграфічны музэй. Беларуская стаянка музэю з вышыўкамі, тканінамі, вырабамі з саломкі карысталася вялікім зацікаўленьнем. Трэба адзначыць, што пры Клійлендзкай Публічнай Бібліятэцы ўжо колькі гадоў існуе сталая беларуская вітрына-выстаўка.

**5 ліпеня.** У Гленвіле, прыгарад Чыкага, пры Авіяцыйнай Станцыі, адбылася этнічная выстаўка, на якой была й беларуская стаянка. Былі тут беларускія тканіны, вышыўка, лялькі, разьба ў дрэве ды інкрустацыя саломкай.

**11 ліпеня.** У вадным з каледжаў Ню Джэрзі, Уільям Патэрсэн Каледж у Вэйне, на этнічным фэстывалі выстаўку наладзіла Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Апрача багатага й разнастайнага паказу народнага мастацтва моладзь падрыхтавала й смачныя беларускія стравы.

**30 ліпеня - 7 жнівеня.** З нагоды сусьветнага Эўхарыстычнага Кангрэсу была наладжаная ў будынку Філядэльфійскага Грамадзкага Цэнтру інтэрнацыянальная рэлігійна-культурная выстаўка. Беларуская стаянка выстаўкі дала паказ крыжоў, рэлігійных абразоў, партрэтаў, кніжак, фатаграфіяў з рэлігійнага жыцьця беларусаў. Гэтыя экспанаты былі дапоўненыя вырабамі народнага мастацтва: абрусы, ручнікі, паясы, вышыўкі. Выстаўку наведалі сотні тысячаў удзельнікаў кангрэсу з усяго сьвету.

**5 верасьня.** На канцэрце, які ладзіла Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў часе 12-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, быў дадзены й эстрадны паказ беларускай народнай вопраткі з розных частак Беларусі. Апрача касьцюмаў, што былі падрыхтаваныя для Беларускага Фэстывалю, былі й арыгінальныя касьцюмы Палесься й Гарадзеншчыны.

**1-2 лістапада.** На 17-м штогадовым Этнічным Фэстывалі Чыкага, які ладзіцца заўсёдь пад ганаровай апекай мэра, сям-

наццаты ўжо раз удзел прыймалі й беларусы места. На беларускай стаянцы, якую наведалі сотні тысячаў асобаў, былі тканіны, вышыўкі, лялькі, разьба ў дрэве. Даваліся таксама інфармацыі пра Беларусь і беларусаў. Беларусамі Чыкага была наладжаная й перасоўная выстаўка, якая на працягу юбілейнага году ЗША месяц за месяцам наведала ўсе публічныя бібліятэкі Чыкага.

**6 лістапада.** У мастацкай галярэі СОГО 20 у Ню Ёрку адбылася выстаўка малюнкаў Галіны Русак, ейная трэцяя выстаўка ў гэтай галярэі. Мастачка паказала свае апошнія творы навейшага кірунку.

**28 лістапада.** 2-я інтэрнацыянальная мастацкая выстаўка, ладжаная Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, адбылася ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне, Ню Ёрк. Удзел ў выстаўцы брала каля дваццацёх беларускіх замежных мастакоў.

**7 сьнежня-студзень 1977 году.** У галоўнай кватэры Амэрыканскага Скаўтынгу, якая знаходзіцца ў Ню Брансьвіку, Ню Джэрзі, ужо другі год адбываецца паказ калядных ялінак розных народаў. Другі ўжо раз тут красавалася й беларуская ялінка ўпрыгожаная беларускай моладзяй адмыслова падрыхтаванымі аздобамі зь беларускім арнамэнтам. У гэтым годзе была й невялікая, але густоўная ды зьместоўная вітрына-выстаўка, якая прыцягвала маладых амэрыканскіх гледачоў-скаўтаў.

**24 сьнежня.** У Трэнтане, сталіцы штату Ню Джэрзі, у сувязі із сьвяткаваньнем двухсотгодзьдзя ЗША, была наладжаная этнічная выстаўка ў гатэлі Трэнтан Інн. Беларуская стаянка вызначалася багацьцем ручных вырабаў, разьбы ў дрэве, вышыўкай ды абразамі беларускіх мастакоў штату Ню Джэрзі. Як завяршальны акорд юбілейнага году, выстаўка ў Трэнтане была шырокаахопным паказам беларускага народнага мастацтва й адной з найбольш удалых.

**Зора Кіпель**

## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

12 чырвеня 1976 году ў Мастацкім Асяродку Штату Ню Джэрзі ў Голмдэл адбыўся першы масавы Беларускі Фэстываль. Ладзіўся ён галоўна працаю арганізацыйна-мастацкіх сілаў беларусаў штату Ню Джэрзі ды суседняе нюёрскае мэтраполіі, пры адначаснай судзейнасьці іншых беларускіх асяродкаў ЗША й Канады. Арганізаваў імпрэзу адмыслова створаны, шырокае грамадзкае рэпрэзэнтацыйнасьці, Фэстываль-

ны Камітэт у складзе 32 чалавек на чале з др. Вітаўтам Кіпелем як старшынём. Уся арганізацыйная праца вялася сябрамі камітэту безынтэрэсоўна, на асновах грамадзкай ахвярнасьці.

Галоўная частка праграмы фэстывалю складалася з вакальна музычных і харэаграфічных выступаў у амфітэатры Мастацкага Асяродку. У канцэртнай частцы праграмы ўдзел бралі ведамыя сьпевакі-салістыя — сапрана Іра Каляда, бас Пётра Конюх, тэнары Мікалай Стрэчань і Багдан Андрусышын. Выступалі хоры Саўт Рывэру — мяшаны пад кіраўніцтвам кампазытара Дзімітра Верасава й жаночы „Каліна" пад кіраўніцтвам Ксавэрага Барысаўца, а таксама жаночы сэкстэт „Гоман" зь Ню Ёрку. Былі выступы на фартэпіяне й дэклямацыі. У харэаграфічнай частцы народныя танцы выконвалі танцавальныя гурткі Ню Брансьвіку, Саўт Рывэру, Ню Ёрку, Кліўленду й Таронта ў Канадзе.

У дзень фэстывалю была арганізаваная багатая выстаўка й продаж беларускіх мастацкіх вырабаў і сувэніраў, часапісаў, кнігаў, а таксама выстаўка малюнкаў беларускіх мастакоў Амэрыкі. Быў адначасна наладжаны паказ на жывых мадэлях беларускае народнае вопраткі розных рэгіёнаў Беларусі, з адначасным паказам тканьня паясоў і пражы лёну на калаўроце. У перадабедным часе на пляцы асяродку адбываліся спартовыя гульні й спаборніцтвы спартовых дружынаў.

Фэстываль — першая за межамі Беларусі культурна-мастацкая імпрэза масавых памераў. Прысутных на фэстывалі было больш за 3000 чалавек, лік-жа ўдзельнікаў-выканаўцаў перавышаў 160. На фэстываль прыбылі беларусы ня толькі зь Ню Джэрзі, Ню Ёрку ды штатаў суседніх, але й з далёкіх мясьцінаў ЗША й з Канады, незалежна ад іхнае арганізацыйнае прыналежнасьці, палітычных паглядаў ці царкоўных юрысдыкцыяў. Была гэта агульна-нацыянальная дэманстрацыя беларускіх духовых традыцыяў і беларускае культуры на амэрыканскай зямлі.

Удала зладжаная культурная імпрэза шляхам скаардынаванае арганізатарамі працы талентаў, хораў, мастакоў ды мастацкіх ансамбляў — важная падзея ў гісторыі беларусаў Паўночнае Амэрыкі. І фэстываль, і сама падрыхтова да яго, выдатна ўзьнялі творчую актыўнасьць мастацкіх кадраў ЗША. Удача паказвае на патрэбу ладжаньня падобных фэстываляў часьцей, калі-б магчымасьці дазволілі й кажны год.

**Вітаўт Кіпель**

# ЗЬМЕСТ

## ДАСЬЛЕДВАНЬНІ



## ЗАЦЕМКІ



## МУЗЭІ



## ДАКУМЭНТЫ



## КНІГАПІС



## ЗЬ БЕЛАРУСКАЙ ХРОНІКІ

# CONTENTS

ARTICLES



NOTES



MUSEUMS



DOCUMENTS





CHRONICLE